

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 14 (4558) 9 красавіка 2010 г.

## У нумары:





Гэтымі днямі, а менавіта 14 красавіка, будзе адзначана 90 гадоў з дня нараджэння Аляксея Карпюка. Памёр 14 ліпеня 1992. Мінула з таго часу васемнаццаць гадоў. Час не малы, пераломны ў нашым духоўным жыцці. У гэтых умовах і творчасць тых, хто пайшоў з жыцця, бачыцца і ацэньваецца па-іншаму. Тут ужо асобны твор бачыцца як канкрэтная праява ўсёй творчасці пісьменніка, а сама творчасць як мастацкая сістэма, адносна замкнёная сама ў сабе, ацэньваецца ў адпаведнасці з яе мастацкім узроўнем, яе духоўным напаўненнем, чалавечай і гістарычна- грамадскай праўдзівасцю, яе ўнутранай сугучнасцю сучаснасці.



# Напісанае-перажытае

Творчасць А. Карпюка ў яе лепшых набытках, можна пэўна сцвярджаць, адпавядае гэтым крытэрыям. Яна запатрабавана чытачом. За апошнія гады выйшла некалькі кніг пісьменніка ў розных выдавецтвах.

Для мяне асабіста Аляксей Карпюк выразна і грунтоўна бачыцца ў адным шэрагу з такімі творчымі асобамі, як Янка Брыль, Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Уладзімір Калеснік.

Што іх аб'ядноўвае? Што ў іх жыццёвым лёсе і творчасці стала вызначальным, агульным? Найперш трэба мець на ўвазе тую выключную ролю, якую ў іх чалавечым і творчым лёсе адыграла мінулая Айчынная вайна. Можна сцвярджаць, што яны як творцы выйшлі з вайны, народжаныя вайною. Іх творчасць моцна ўгрунтавана ў вайне. Падругое, і іх творчасць, і іх чалавечыя і грамадскія паводзіны адметныя вышынёй і выверанасцю маральных крытэрыяў. Іх яны паслядоўна сцвярджалі і абаранялі. І, нарэшце, як асноўны творчы вынік: у тым, што яны пісалі, самае галоўнае для іх было — праўда і шчырасць. Праўда як набыты асабісты жыццёвы чалавечы досвед. Шчырасць як душэўная, эмацыянальная адкрытасць і натуральнасць слова і моўнага ладу.

Карпюк адносіцца да тых пісьменнікаў, у каго жыццёвая і творчая біяграфіі звязаны паміж сабою вельмі цесна, непасрэдна, адкрыта. Пісаць ён пачаў адносна позна — пасля трыццаці. Дэбютаваў аповесцю "У адным інстытуце" ў 1953 годзе. Да гэтага было ўсяго. Умовы, у якіх прайшлі папярэднія гады, гады дзяцінства, юнацтва, маладосці, былі аж да краёў напоўнены невырагодна суровымі падзеямі, глыбокімі і моцнымі перажываннямі. У працы і праз працу адбывалася духоўнае фарміраванне чалавечага характару, закладваліся асновы высокамаральных крытэрыяў, якія значна пазней можна будзе ўбачыць і ў творчасці пісьменніка, і ў яго грамадскіх паводзінах. Дзяцінства і юнацтва праходзіла ў атмасферы заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху; удзельнічаў у камсамольскім падполлі, трапіў у польскую турму, зведаў допыты ў паліцыі. Вайна абрынулася раптоўна і нечакана. Карпюк становіцца партызанскім сувязным, уваходзіць у склад падпольнай дыверсійнай групы, у 43-м годзе быў арыштаваны, адпраўлены ў лагер смерці Штутгоф, цудам уцёк адтуль, зноў уключыўся ў партызанскую барацьбу, арганізоўваў і ўзначальваў партызанскі атрад, з войскамі Савецкай Арміі прайшоў шлях ад Варшавы да Берліна. Двойчы паранены.

"І ўсё гэта прайшло ў яго цяжка-важка, з рызыкай, але без промахаў і задзіраў, якія грызуць сумленне, жагаюць пачварнымі снамі", — сказа пазней У. Калеснік.

У гэтым сэнсе можна, пэўна, сцвярджаць, што свае творы (пераважную большасць іх) Карпюк духоўна-эмацыянальна і падзейна спачатку пражыў і перажыў, потым — напісаў. У іх грунтоўная аўтабіяграфічная ці то дакументальная аснова, выяўленая адкрыта і непрыхавана. Пачатак асабісты вельмі адчувальны і выразны — і падзейна, і эмацыянальна.

Каб пераканацца ва ўсім гэтым, дастаткова прачытаць такія творы пісьменніка, як "Мая Джамалунгма", "У адным інстытуце", "Данута", "Пушчанская адысея", "Па кветку шчасця", "Карані", "Развітанне з ілюзіямі". Больш за тое, прачытанне і супастаўленне гэтых твораў красамоўна сведчыць, у якой (высокай) ступені Карпюк як творца верны жыццю і сабе, рэальным фактам і падзеям, свайму светаўспрыманню.

Аўтабіяграфічнасць і адметная арганічнасць Карпюковай творчасці вынікае з таго і абумоўлена тым, што падзеі пераважнай большасці яго твораў адбываюцца ў яго родных мясцінах. Мясціны гэтыя (паўночна-заходняя частка Гродзеншчыны, часткова паўночна-ўсходняя — Беласточчыны) адметныя ў многіх адносінах. Населены яны людзьмі розных нацыянальнасцей, розных веравызнання; побыт, звычкі, мова — своеасаблівыя. У гэтым свеце пісьменнік жыў, увабраў яго ў сябе і па-свойму выявіў. Свет гэты не замкнёны сам у сабе, ён — арганічная частка агульнага беларускага свету. Да яго далучаны ўсёй гісторыяй народа, самымі значнымі сацыяльна-палітычнымі падзеямі, замацаваны глыбіннай этнічнай каранёвай сістэмай. Сам па сабе ён самадастатковы, моцны духоўна і псіхалагічна. Пісьменніка гэты свет трымаў усё жыццё. Ды не проста трымаў, а творча, духоўна сілкаваў і натхняў.

Напэўна, невыпадкова ў адным з апошніх твораў "Развітанне з ілюзіямі", адмаўляючы многае негатыўнае з мінулых гадоў, звязанае з культам асобы, рэпрэсіямі, ламаннем "хрыбта ўсяму здароваму, назапашанаму чалавецтвам за мінулыя стагоддзі", Карпюк звяртаецца да часоў дзяцінства, там шукаючы і знаходзячы "маральны стрыжань" чалавечага і народнага жыцця. І там яго знаходзіць. І ў творах ранейшых гадоў, распавядаючы "пра каханне ў бурлівы час вялікіх падзей" ("Данута"), узнаўляючы падзеі партызанскай вайны як вайны народнай ("Пушчанская адысея"), даследуючы няпростыя ўзаемаадносіны розных пакаленняў вяскоўцаў ("Карані"), пісьменнік заўсёды шукаў і знаходзіў "маральны стрыжань" у жыцці народным. Тым жыцці, якое выдатна ведаў, адчуваў, якое нёс у сабе. Глыбокае карэнне, што лучыла Аляксея Карпюка, творцу і чалавека, з родным краем, народам, жывіла яго творчасць, напаўняла жыватворнымі сокамі зямлі, рабіла яго запатрабаваным чалавекам.

Серафім АНДРАЮК

Фота з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва



## Пунктірам

•Міністэрства культуры Беларусі прапануе заканадаўча абавязаць айчынныя тэлеканалы паказваць нацыянальнае кіно. "Трэба на заканадаўчым узроўні вызначыць працэнт паказу беларускіх фільмаў ад усіх фільмаў на тэлеканалах. Няхай гэта будзе 20 — 25 працэнтаў. Трэба ўсё пралічыць, каб гэта стала стымулам для ўкладання сродкаў з боку тэлеканалаў, з боку прадзюсераў у стварэнне нацыянальнага кіно", — падкрэсліў міністр культуры Павел Латушка.

•Адзін з цэнтральных тэлеканалаў можа стаць цалкам беларускамоўным. Такую магчымасць не выключае старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі. Паводле яго слоў, каб нармальна весці патрыятычнае двухмоўнае вяшчанне, варта зрабіць два розныя каналы. Магчыма, калі дазволяць рэсурсы, у будучым стане цалкам беларускамоўным "ЛАД" або Першы тэлеканал.

•Конкурс юных экскурсаводаў па месцах партызанскай славы, прымеркаваны да 65-годдзя Перамогі, аб'яўлены ў Віцебскай вобласці. Яго заснавальнікамі выступілі ўпраўленні адукацыі і культуры абласнога выканаўчага камітэта і Віцебскае аддзяленне Беларускага фонду міру. Галоўная мэта конкурсу — спрыяць наладжванню кантактаў паміж старшакласнікамі, якія цікавяцца гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны, падтрымка школьных гісторыка-краязнаўчых і мемарыяльных музеяў, паведамілі ва ўпраўленні ідэалагічнай работы аблвыканкама.

•Радзінны маёнтак Дастаеўскіх плануецца аднавіць у Іванаўскім раёне, паведаміў начальнік аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама Канстанцін Ваўрук. У раёне шмат зроблена па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны самага знакамітага прадстаўніка роду — Фёдара Дастаеўскага, продкі якога жылі на палескай зямлі яшчэ ў XVI стагоддзі. Дарэчы, у 2011 годзе будзе адзначацца 190-я гадавіна з дня нараджэння класіка рускай літаратуры.

•Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы па добрай традыцыі радуе сваіх наведвальнікаў мастацкімі праектамі. Гэтымі днямі ў ім працуе адразу некалькі выставак. Адна з іх — аўтарская габеленаў Наталлі Сухаверхавай. У экспазіцыі — габелены з фондаў музея Янкі Купалы, Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі і асабістага збору Н. Сухаверхавай. Тэматыка работ творцы разнастайная: гісторыя роднай краіны, матывы купалаўскіх вершаў і паэм, прыродныя з'явы, стан душы чалавека. Значнай падзеяй у творчым жыцці мастачкі стала адна з апошніх манументальных работ для Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — габелен "Рагнеда".

•Як паведамілі ў аргкамітэце па правядзенні XVIII Гарэцкіх чытанняў, 11 чэрвеня 2010 года ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (вул. М. Багдановіча, 13) адбудзецца рэспубліканская канферэнцыя "Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць" (да 120-годдзя з дня нараджэння акадэміка Г. І. Гарэцкага). Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі будуць прымацца да 11 мая.

Падрыхтавалі
Павел РАДЫНА і Віктар ЗАЯЦ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Да неба рукой падаць

Пісьменнікі і паэты — людзі, якія ведаюць жыццё, яго праявы, як гавораць, знутры. Але таму, што яны ўбачылі ў той дзень, па іх прызнанні, здзівіліся. Упершыню творчы дэсант у ДТСААФ краіны ажыццявіла дэлегацыя Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі на чале з яго старшынёй Рыгорам Сакалоўскім.

У Рэспубліканскім доме ДТСААФ гасцей вітаў намеснік старшыні Цэнтральнага савета абаронна-спартыўнага таварыства Пётр Лебедзеў. Ён распавёў пісьменнікам пра традыцыі, гісторыю, сённяшні дзень таварыства, пра патрыятычнае выхаванне моладзі, падрыхтоўку спецыялістаў масавых прафесій для сілавых структур і народнай гаспадаркі. У прыватнасці, сёння ў ДТСААФ дзейнічаюць 125 юрыдычных асоб, маюцца 82 раённыя структуры, 53 спартыўна-тэхнічныя клубы, 28 аўташкол, 5 аэраклубаў. Штогод таварыства рыхтуе каля 5 тысяч спецыялістаў, развівае 19 відаў спорту, у клубах і секцыях займаецца амаль 19 тысяч дзяцей, падлеткаў і дарослых.

Спартсмены ДТСААФ заваявалі больш як 220 медалёў. Паказальна і тое, што чарговы чэмпіянат Еўропы па матаболе пройдзе менавіта ў Беларусі, у Пінску ў ліпені 2010 года.

Праграма працы пісьменнікаў была насычаная. Яны наведалі музей ДТСААФ, адбылося пасяджэнне "круглага стала", удзельнікі якога падвялі вынікі творчай дзейнасці абласнога аддзялення за мінулы год, вызначылі задачы на перспектыву.

Чарговае адкрыццё чакала пісьменнікаў Мінішчыны ў пасёлку Баравая пад Мінскам. Іх гідам у цэнтральным аэраклубе быў начальнік гэтага унікальнага падраздзялення ДТСААФ вопытны лётчык Мікалай Мачанскі. Ён не толькі распавёў пра сённяшні дзень клуба, але і паказаў вучэбна-матэрыяльную базу, парк авіяцыйнай тэхнікі. А жадаючыя маглі падняцца ў неба на борце верталёта Мі-2. Сярод смельчакоў, якія атрымалі непаўторныя ўражанні, акінулі сталіцу вокам з вышыні, былі дзіцячая пісьменніца з Пухавіччыны Вольга Савасцюк, пісьменніца са Стоўбцаў Лідзія Адамовіч, празаік з Нарачы Аляксандр Быкаў. За штурвалам вінтакрылай машыны быў сам начальнік клуба Мікалай Мачанскі. Дарэчы, у гэты ж час на базе клуба праходзілі вучэбныя палёты курсантаў авіяцыйнага факультэта Ваеннай акадэміі.

— ДТСААФ актыўна ўдзельнічае ў патрыятычным выхаванні моладзі, адкрытае да супрацоўніцтва ў гэтай сферы, у тым ліку з пісьменнікамі Беларусі, — падкрэсліў на сустрэчы намеснік старшыні Цэнтральнага савета ДТСААФ Пётр Лебедзеў.

У сваю чаргу старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Рыгор Сакалоўскі адзначыў высокі ўзровень арганізацыі мерапрыемства.

— Далёка не ўсе пісьменнікі ведалі, што ў краіне ёсць такая магутная арганізацыя — ДТСААФ, якая мае высокую тэхнічную аснашчанасць і шырокія магчымасці для патрыятычнага выхавання моладзі, падрыхтоўкі спецыялістаў для Узброеных Сіл, народнай гаспадаркі, развіцця спорту. Атрыманыя веды і ўражанні будуць дапамагаць у творчасці, а такія кантакты літаратары маркуюць развіваць і надалей, — сказаў Рыгор Сакалоўскі, падводзячы вынікі сустрэчы ў ДТСААФ.

Генадзь ХУДЗІНСКІ



На здымку: Рыгор Сакалоўскі, Пётр Лебедзеў, Алесь Марціновіч, Зіновій Прыгодзіч і Барыс Далгатовіч.

Фота Васіля Ліхтаровіча

## Прынцыпова

Беларускія ветэраны вайны, паводле паведамлення БелТА, пікетавалі рэдакцыю газеты "Народная Воля" ў абарону гістарычнай праўды пра партызанскі рух. Мэта пікета, санкцыянаванага Мінгарвыканкамам, — пратэст супраць размяшчэння ў газеце скажонай інфармацыі пра партызанскі рух у Беларусі падчас Вялікай Айчыннай вайны.




# Пратэст ветэранаў

Каля пяцідзесяці прадстаўнікоў ветэранскіх арганізацый сабраліся ў Аляксандраўскім скверы, а затым прайшлі да рэдакцыі выдання. У руках яны трымалі транспаранты з заклікамі да галоўнага рэдактара газеты Іосіфа Сярэдзіча: "Ветераны против лжи в СМИ!", "Позор фальсификаторам истории!", "Победили врагов — победим клеветников!"…

Старшыня Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў Анатоль Адоньеў зазначыў: "Ужо доўгі час мы сутыкаемся з фактамі, якія перакручваюць рэчаіснасць і льюць памыі на беларускі народ, на партызан, на нашу ўладу. І гэта выклікае гнеў і абурэнне ў ветэранаў".

Ветэраны, у прыватнасці, былі абураны серыяй публікацый у "Народнай Волі" ўрыўкаў з кнігі Ільі Копыла "Нябышына. Вайна", у якой ён апісвае свае ўспаміны пра вайну.

Старшыня савета Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, гаранавы грамадзянін Мінскай вобласці Аляксандр Слабада падкрэсліў: "Мы ўсе, як адзін, змагаліся з гэтым страшным ворагам — фашызмам. А цяпер пішуць, што партызаны — злачынцы… Трэба працаваць, а не абліваць брудам працоўны і гераічны беларускі народ".

Ул. інф.

## Сумоў'е

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа прайшоў першы вясновы "Літаратурны чацвер". У якасці гасцей імпрэзы выступілі жанчыны — галоўныя рэдактары часопісаў "Маладосць", "Бярозка", "Алеся", "Качели", "Роднае слова".

# У доме Коласа

Супрацоўнікі музея парадавалі гледачоў імправізаванай пастаноўкай лялечнага тэатра паводле твораў Якуба Коласа. Характэрнай асаблівасцю ўсіх дзейных асоб спектакля было захапленне беларускімі часопісамі, што выклікала добрую ўсмешку на тварах галоўных рэдактараў гэтых перыядычных выданняў.

У сваіх выступленнях паважаныя госці адзначалі розныя аспекты прафесійнай дзейнасці. Так, Тамара Бунто, галоўны рэдактар часопіса "Алеся", падкрэсліла, што задача гэтага выдання — аб'ядноўваць жанчын. Пазіцыянуючы сябе як грамадска-палітычнае і літаратурна-мастацкае выданне, часопіс разбурае гендэрныя стэрэатыпы: жанчыны могуць і любяць чытаць не толькі гламурныя часопісы, але і сур'ёзныя выданні.

Раіса Баравікова, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", на пытанне: "Ці складана жанчынерэдактару супрацоўнічаць з аўтарамі-мужчынамі?" адказала, што ёй і самой часта даводзіцца ў нейкай меры "быць мужчынам" на працы: трэба трымаць планку выдання на высокім узроўні, старацца, каб на старонках "Маладосці" прысутнічалі ўсе пакаленні беларускіх пісьменнікаў, каб часопіс мог падтрымаць моладзь і ўшанаваць класікаў.

Беларускай прымаўкай "Свая ношка няцяжкая" пачала выступленне галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" Алена Масла. Яна паведаміла пра змены, што адбываліся ў часопісе на працягу апошніх пяці год: кірунак на гламурызацыю выдання, ператварэнне "Бярозкі" ў часопіс для тынэйджэраў. Але са зменай выдавецкай каманды змяніўся і кірунак працы. Новаму рэдактару і новай камандзе было нялёгка: трэба і пачынаць шлях па-новаму, і традыцыю працягваць.

Эма Луканская, галоўны рэдактар часопіса для дзяцей і падлеткаў "Качели", падкрэсліла, што вельмі важна размаўляць з дзецьмі на зразумелай ім мове, пісаць пра тое, што цікава дзецям. Сёння гэтае выданне ладзіць шмат творчых конкурсаў, у якіх самі дзеці бяруць вельмі актыўны ўдзел.

Уладзіслаў ШЫКУРАЎ

## За падзеяй

У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У.І. Леніна прайшоў Тыдзень дзіцячай кнігі, які традыцыйна праводзіцца падчас вясновых школьных канікул.

# Дзеля будучага чытача



Для малодшых школьнікаў былі арганізаваны выстава-прагляд дзіцячай літаратуры, прадстаўленне "Нам кніга сябра падарыла", гульні, конкурсы і паказ мультфільмаў, створаных паводле вядомых казак.

Супрацоўнікі РВУ "Літаратура і Мастацтва" Валянціна Смансар і Алена Мальчэўская прадставілі маленькім чытачам кніжныя навінкі і часопіс "Бярозка". І цяпер магілёўскія школьнікі чакаюць хуткай сустрэчы з Мамурыкам — адным з герояў "Касмічнай кнігі" (укладальнік Раіса Баравікова), якую плануе выпусціць "Літаратура і Мастацтва".

Момантам, якога на адкрыцці Тыдня чакалі больш за ўсё, безумоўна, стала ганараванне кнігамі і граматамі лепшых чытачоў. Адна з узнагарод дасталася самаму маленькаму чытачу Вову Ашмянскаму. Хлопчыку толькі чатыры гады, але чытацкі стаж у яго ўжо салідны — калі Вову споўніўся год і чатыры месяцы, ён разам з маці Анжэлай Уладзіміраўнай прыйшоў у бібліятэку. Сам Вова пакуль што не чытае, але з задавальненнем слухае маці і больш за ўсё любіць казкі пра ката Леапольда.

Падчас Тыдня дзіцячай кнігі прайшлі як мерапрыемствы ў дзіцячых аддзелах бібліятэк, так і па-за іх сценамі. Напрыклад, сустрэчы з супрацоўнікамі бібліятэкі перад спектаклямі Магілёўскага тэатра лялек, на якіх дзеці маглі даведацца пра знакамітых казачнікаў і напісаныя імі кнігі.

Дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Ілона Сарокіна зазначыла: "Для публічнай бібліятэкі Тыдзень дзіцячай кнігі — самае галоўнае мерапрыемства. Мы адчыняем свае дзверы, паказваем сваё багацце, імкнёмся зацікавіць чытача, каб у выніку да нас не проста прыйшоў маленькі чытач, а чытач патэнцыйны, які будзе завітваць у нашу бібліятэку і калі вырасце".

Алена ГАЛАЙ

На здымку: Вова Ашмянскі.

Фота аўтара

## Літ-абсягі

# Узор адэкватнага перакладу

**Паэма "Прарок" ліванскага пісьменніка Халіля Джэбрана — гэта кніга адказаў на адвечныя светапоглядныя пытанні праз прызму тонкай і бяскрайняй усходняй мудрасці. У Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце прэзентаваўся яе пераклад на рускую мову, ажыццёўлены Юрыем Сапажковым і выдадзены нядаўна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва".**



Юрый Сапажкоў упершыню пачуў пра твор Халіля Джэбрана шэсць гадоў таму падчас паездкі ў ЗША ад аднаго амерыканскага паэта, які і падарыў яму кнігу "Прарок": "Яна прыцягнула маю ўвагу з першага ж радка, і я тут жа вырашыў заняцца яе перакладам. І толькі пасля высветліў, што я перакладаю ўжо 167-е выданне гэтай кнігі. Уражаны гэтым, я даведаўся, што яна перакладзена на ўсе мовы свету, што няма яшчэ рускага паэтычнага перакладу, а толькі празаічны, і той больш падобны да калькі. Даведаўся я таксама, што паэма Халіля Джэбрана — гэта другая кніга пасля Бібліі па колькасці перавыданняў". Пераклад твора заняў у Юрыя Сапажкова 5 гадоў. Кніга напісаная на старой англійскай мове, таму часам перакладчык мусіў звяртацца па дапамогу да амерыканскіх сяброў. Пасля заканчэння перакладу Юрый Сапажкоў яшчэ год дапрацоўваў яго, беручы прыклад з самога Джэбрана, які, як вядома, не аддаваў твор у друк чатыры гады, скрупулёзна адточваючы майстэрства. "Такія эксклюзіўныя кнігі, як гэта, могуць стаць візітоўкай любога выдавецтва, бо гэты твор займае важнае месца ў сусветнай культуры", — зазначыў Юрый Сапажкоў.

Народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі, які аздабляў выданне, прызнаўся, што кніжных ілюстрацый не робіць ужо каля 15 гадоў, але прыцягальны свет Усхода, які зачараваў яго яшчэ падчас паездак у Сірыю і Эфіопію, не дазволіў адмовіцца ад гэтай працы. "Я думаю, Джэбран выказаў не толькі ліванскі светапогляд, гэта шматахопная мудрасць многіх усходніх культур. Таму пры афармленні я выкарыстоўваў сімволіку, характэрную для індуізму, ісламу, будызму, адлюстроўваў элементы храма Барабадур ды іншыя ўсходнія матывы, — распавёў мастак. — Я ўпэўнены, што кніга будзе перавыдавацца, і калі за яе афармленне возьмуцца іншыя мастакі, то ў іх таксама будзе прастора для дзейнасці, бо на кожную частку твора можна прыдумаць не адзін сюжэт".

Аўтар прадмовы да кнігі, перакладчыца, педагог, літаратурны крытык Зінаіда Краснеўская заўважыла: "Што такое адэкватны пераклад? Наконт яго існуе шмат навуковых даследаванняў. На мой жа погляд, адэкватны пераклад — гэта пераклад Сапажковым Джэбранаўскага "Прарока". Усе прыёмы, якія выкарыстоўваюць перакладчыкі, поўна і выдатна прадстаўленыя на старонках гэтай кнігі".

Дарэчы, у кнізе "Прарок" змешчаны і арыгінал тэксту на англійскай мове, што дазваляе лінгвістычна дасведчаным чытачам у поўнай меры ацаніць майстэрства перакладчыка.

Саша ДОРСКАЯ

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

# Наш Год у Расійскай Федэрацыі

**Першы дзень гэтага тыдня быў азнаменаваны значнай падзеяй: у Маскве адбылося ўрачыстае адкрыццё Года культуры Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. Удзельнікаў мерапрыемства, якое ладкуецца ў адпаведнасці з пратаколам пра супрацоўніцтва паміж міністэрствамі культуры Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі на 2009 — 2010 гады, павіншаваў кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. Як паведаміла БелТА са спасылкай на прэс-службу Прэзідэнта Беларусі, у віншаванні адзначаецца: "Лёсы нашых народаў непарыўна пераплецены паміж сабой, звязаныя агульнасцю гістарычных каранёў і духоўных традыцый, а руская мова ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца адной з дзяржаўных моў". Прэзідэнт выказаў пажаданне, каб гэтая маштабная творчая акцыя сталася падарункам усім расіянам да 65-й гадавіны Вялікай Перамогі і адкрыла новыя далягляды для пашырэння культурнага супрацоўніцтва брацкіх краін.**



Такім чынам, 5 красавіка ў культурнае жыццё сталіцы краіны-суседкі ўлілася самабытная беларуская плынь. Да помніка Янку Купалу, устаноўленаму ў цэнтры Масквы пяць з палавай гадоў таму, былі ўскладзены кветкі. У Дзяржаўным цэнтральным музеі сучаснай гісторыі Расіі, што месціцца на знакамітай Цвярской вуліцы, адкрылася выстаўка "Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі", і на працягу 10 дзён яе наведнікі змогуць азнаёміцца з пошукамі новай генерацыі беларускіх творцаў у жывапісе, графіцы, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, відэа-арце. Яркім атрымаўся вечар урачыстага адкрыцця Года: на абноўленай сцэне Вялікага тэатра Расіі былі паказаны адзін з лепшых спектакляў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі — "Легенда пра Ціля Уленшпігеля" паводле Шарля дэ Кастэра (музыка нашага кампазітара-класіка Яўгена Глебава, харэаграфія і пастаноўка Валянціна Елізар'ева).

Наперадзе — новыя сустрэчы расійскіх гледачоў з лепшымі ўзорамі сучаснага беларускага мастацтва, з творчасцю славутых калектываў і салістаў, тэматычныя экспазіцыі нашых музейных скарбаў, кінапаказы. Прынамсі, плануюцца выступленні ў Маскве нашых Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра і Дзяржаўнага ансамбля танца, Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, папулярных "Сяброў". Санкт-Пецярбург чакае адкрыцця мемарыяльнай дошкі Яну Баршчэўскаму і правядзення "круглага стала", прысвечанага тэме патрыятызму ў творчасці сучасных пісьменнікаў, а таксама праграму Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі ў канцэртнай зале Эрмітажа і гала-канцэрт майстроў беларускай эстрады. У Яраслаўль прыедзе выстаўка, падрыхтаваная супрацоўнікамі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

У розных гарадах Расіі пройдуць гастролі Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры", а таксама Дні беларускага кіно. Рыхтуюцца сумесныя гала-канцэрты майстроў мастацтваў Беларусі і Расіі для паказу ў сталіцах абедзвюх краін, прысвечаныя 65-годдзю Вялікай Перамогі.

Лана ІВАНОВА

На здымку: сцэна з балета "Легенда пра Ціля Уленшпігеля".

## Повязі

# Дыялог працягваецца

**Польскі інстытут у Мінску падвёў вынікі чарговага конкурсу імя Ежы Гедройца. На працягу амаль дзесяці гадоў гэты творчы конкурс, як вядома, праводзіўся з мэтай вызначэння лепшых журналісцкіх работ у беларускіх СМІ на тэму польска-беларускіх стасункаў у галіне культуры, навукі і мастацтва. Неаднаразова ў такім сур'ёзным журналісцкім спаборніцтве вылучалася і рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва", а паводле вынікаў VIII конкурсу імя Ежы Гедройца "ЛіМ" быў прызнаны лідэрам: атрымаў ганаровы дыплом I ступені за прафесіяналізм і актыўную пазіцыю ў развіцці польска-беларускіх кантактаў у галіне культуры". Гэтым разам конкурс, ужо дзесяты па ліку, праводзіўся ў новым фармаце.**



Падчас урачыстасці з нагоды ганаравання намінантаў і пераможцаў конкурсу за 2009 год, у якой удзельнічалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Хенрык Літвін, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Пётр Казакевіч, прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі нашай краіны, гаварылася пра маштаб асобы і значэнне справы Ежы Гедройца. Ураджэнец Мінска, легендарны Рэдактар (так называлі Гедройца яго спадзвіжнікі) увайшоў у гісторыю як аўтар новай і смелай для польскага асяроддзя ідэі, прапанаваўшы палякам глядзець на бліжэйшых усходніх суседзяў не як на сапернікаў, а як на спадкаемцаў агульных культурных і гістарычных традыцый, і прадказаў з'яўленне на карце Еўропы незалежных дзяржаў: Беларусі, Літвы і Украіны. Прафесар Адам Мальдзіс, якому давялося бачыцца з Е. Гедройцам, распавёў пра тое, што ўжо зроблена і што трэба зрабіць дзеля ўшанавання памяці нашага знанага земляка, у полі зроку якога заўсёды была Беларусь.

Узнагарода імя Е. Гедройца з гэтага года прысуджаецца за новыя ідэі ў польска-беларускім дыялогу, аўтарамі якіх могуць быць не толькі журналісты, але і мастакі, літаратары, мецэнаты культуры. Сярод намінантаў X конкурсу — адзін са старэйшых беларускіх фотамастакоў Юрый Васільеў, публіцыст Анатоль Трафімчык, стваральнікі хвалюючай кінааповесці пра Чэслава Немена "Гэты дзіўны свет" Вера Савіна і Аляксандр Нілаў, аўтар тэатральных пастановак, якія закранаюць праблему нацыянальнай прыналежнасці і гістарычнага дыялога культур рэжысёр Мікалай Пінігін, музыказнаўца-беларусіст Святлена Немагай і мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" Віктар Скорабагатаў... Выбраць пераможцу з дванаццаці прэтэндэнтаў было складана. І журы вырашыла адзначыць дзвюма раўназначнымі першымі прэміямі двух намінантаў: мастацкага кіраўніка Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" Уладзіміра Байдава ды публіцыста і выдаўца Валерыя Булгакава. Дарэчы, ансамбль пад кіраўніцтвам У. Байдава, узнагароджанага за папулярызацыю і новую інтэрпрэтацыю польскай старадаўняй, класічнай і сучаснай музыкі, а таксама прафесійную прэзентацыю польскай музыкі беларускім слухачам, выступіць 19 красавіка ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі з новай выбітнай праграмай — "Прынашэнне Шапэну".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў нашай краіне Хенрык Літвін уручае ўзнагароду Уладзіміру Байдаву.

Фота Віктара Кавалёва

## З-пад пяра

**Полацк**, яго гісторыя і культура вартыя многіх дзіцячых кніжак, — такім быў галоўны лейтматыў сустрэч гасцей з Мінска ў старажытным горадзе. Перад юнымі жыхарамі горада, арганізатарамі дзіцячага чытання, выступілі старшыня Полацкага зямляцтва, дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" паэт Навум Гальпяровіч, дырэктар выдавецтва "Пачатковая школа" Наталля Ваніна, галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" Алена Масла, паэт Мікола Чарняўскі. Госці сустрэліся з вучнямі 9-й сярэдняй школы, з бібліятэкарамі горада, з чытачамі ў цэнтральнай бібліятэцы імя Францыска Скарыны. Сустрэчы сталічных літаратараў з палачанамі сёлета стануць рэгулярнымі і будуць праходзіць у рамках акцыі Міністэрства культуры "Полацк — культурная сталіца Беларусі 2010". Плануецца таксама вялікі літаратурны вечар, які адкрые традыцыйны ў старажытным горадзе скарынаўскі тыдзень.

Марыя КОБЕЦ

**Гомельскі Палац** творчасці дзяцей і моладзі "Юнацтва", на базе якога знаходзіцца школа "Малады літаратар", правёў выязны літаратурны слэм у Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту. Сустрэў удзельнікаў слэма выкладчык і паэт Віктар Туміловіч са сваімі студэнтамі. Дарэчы, гэта быў ужо трэці слэм, які праводзіла школа "Малады літаратар". Журы гэтага літаратурнага конкурсу былі гледачы. У якасці прафесійнага журы — паэтэса Ніна Шклярава, выкладчык універсітэта Віктар Туміловіч і Іна Спасібіна, пераможца трох літаратурных слэмаў з рознай аўдыторыяй. Яны толькі давалі заўвагі і парады, а права голасу не мелі. Удзельнікі паэтычнага вечара прадставілі слухачам свае лепшыя вершы. Атрымалася шоу, напоўненае дабрынёй, цеплынёй і аптымізмам. Падвялі вынікі слэма шляхам галасавання слухачоў. У гэтым літаратурным конкурсе не было прайграўшых. Першае месца атрымаў Лявон Воўк, на другім аказаўся Дзмітрый Нілаў, а ўсе астатнія ўдзельнікі падзялілі трэцяе месца: Вольга Аляшкевіч, Уладзімір Чараухін і Тацяна Луцэвіч.

Ала ДАРАШЭНКА

**У Мінскай** абласной дзіцячай бібліятэцы імя Янкі Маўра адбылося Свята кнігі. Навучэнцы сярэдніх школ № 10, № 91, дзіцячага дома № 4 мелі магчымасць пазнаёміцца з выстаўкай кніг, аўтарам якіх з'яўляецца лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, літаратурных прэмій імя Васіля Віткі і Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Уладзімір Мазго. Бібліятэкар чытальнай залы Людміла Яскевіч пазнаёміла прысутных з творчасцю госця, які расказаў дзецям пра сваю кнігу вершаў, казак і загадак "Таямнічая планета", што пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". У ёй "адкрываюць тайну вершы: родны край — у свеце лепшы!" Юныя чытачы з вялікай цікавасцю ўдзельнічалі ў праведзеным У. Мазго конкурсе загадак на анаграмы, шарады, паліндромы і метаграмы, пераможцы якога атрымалі ад паэта прызы і аўтографы.

Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ

**Выдавецтва** "Чатыры чвэрці" ў год 65-годдзя Вялікай Перамогі распачало выпуск серыі кніг "Дзеці вайны". "Усіх літаратараў запрашаем да ўдзелу ў серыі. Гэта могуць быць успаміны і саміх пісьменнікаў, і іншых грамадзян у літаратурнай апрацоўцы, проза і паэзія", — паведаміла дырэктар выдавецтва Ліліяна Анцух. Для тых, каго з пісьменнікаў прапанова вядомага выдавецтва зацікавіць, паведамляем яго адрас: Мінск, вул. Хмяльніцкага, 8 — 215; тэл. 331-25-42 альбо 290-05-95.

Пётр МІКАЛАЕЎ




# Подзвіг народа і літаратура

У папярэднім нумары, за 2 красавіка, "ЛіМ" змясціў пашыраную інфармацыю пра пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі "Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне на старонках нашай літаратуры", які адбыўся 26 сакавіка. Быў надрукаваны тэкст уступнага слова старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, а таксама скарочаны тэкст асноўнага даклада з якім выступіў доктар філалагічных навук, акадэмік НАН Беларусі, пісьменнік Уладзімір Гніламёдаў.

Сёння ўвазе чытачоў "ЛіМа" прапануем некаторыя выступленні (у скарочаным варыянце) удзельнікаў пленума, а таксама яго пастанову.

## Спыніце хлусню і паклёпы!



Алесь САВІЦКІ, пісьменнік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны

У інтэлектуальны падмурак нашай дзяржавы — вольнай і незалежнай Беларусі — важкі і ёмкі мастацкі летапіс гераічнага змагання народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў трывала і на вякі ўвайшоў непарушным гранітам велічы чалавечага духу, мужнасці і славы продкаў. Пра гэта слушна сказана і ва ўступным слове старшыні пісьменніцкага саюза Мікалая Чаргінца, і ў дакладзе акадэміка НАН Беларусі Уладзіміра Гніламёдава. Дзесяткі імёнаў франтавікоў і партызан, дзесяткі раманаў, аповесцей, кніг паэзіі і драматургіі — а гэта толькі частка! — велічны плён пісьменніцкай працы.

Беларуская літаратура, на мой погляд, далей за літаратуры братніх народаў былой савецкай дзяржавы прасунулася на шляху найбольш глыбіннага спасціжэння таго, што ёсць у самой сутнасці геравічнага подзвігу чалавека, які са зброяй у руках узняўся бараніць сваю Радзіму ад забойцаў і рабаўнікоў.

З усёй сусветнай літаратуры, мне думаецца, беларускае мастацкае слова бліжэй ад усіх наблізілася да спасціжэння гэтай Праўды. Вось як пранікнёна намаляваў геравічны вобраз савецкага салдата народны паэт Беларусі Пімен Панчанка: "І злосна сказаў: "Уставай, пяхота! Мы не на пляжы, а на вайне!" І лёг на змяіныя скруткі дроту, і дзвесце салдацкіх запыленых ботаў прайшлі па яго спіне". Колькі жыццяў уратавала спіна салдата, які з калючак іржавага дроту пайшоў у бессмяротнасць?

Мне думаецца, што я не памыляюся ў сваёй высновe пра тое, што старонкі Другой сусветнай вайны "гістарыяграфіяй дэмакратычнага накірунку" ўжо нахабна і бязлітасна, па-шулерску перапісаныя. Цяпер жа набірае абароты актыўны і ўсёбаковы працэс, скіраваны на тое, каб сэнс гэтых новых старонак як мага хутчэй уціснуць у чалавечыя душы. І галоўны напрамак удару тут — наша Памяць. Памяць — гэта крыніца мужнасці, крыніца веры ў сябе, у святую справу сваіх продкаў. Мужнасць жа не нараджаецца ў паветры, не жыве ў нейкай агульнай прасторы. Яна нараджаецца і жыве толькі ў чалавечым сэрцы. Нараджаецца з любові, павагі да сваіх бацькоў і дзядоў, з любові да роднага краю і разумення святога абавязку бараніць яго ад бяды.

Паглядзіце наўкола, дарагія сябры. Чаму мы, нярэдка, абыякава праходзім каля праяў сквапнага шарлатанства, хлусні, паклёпаў на наша геравічнае ўчора? Вось толькі некалькі цытат са старонак гэтак званага "незалежнага дэмакратычнага" друку. "У злачынствах супраць насельніцтва ў часы акупацыі партызаны адыгрывалі не апошнюю, а можа, галоўную ролю". "Бераснёўка — партызанскія Курапаты". Партызанскія групы каля Бягомля, маўляў, "…выезжали в деревни и стреляли людей семьями. Не щадили даже младенцев и детей. А потом пять дней не разрешали забирать тела для погребения". А спісы вёсак, якія павінны быць спалены, складаліся, маўляў, не абы-дзе, а "ў самім Крамлі".

Кашчунныя і хлуслівыя сведчанні. Дзіўная, але, вядома ж, заканамерная паслядоўнасць: чым меней застаецца партызанскіх камандзіраў, непасрэдных удзельнікаў геравічнага змагання за волю і незалежнасць, тым усё болей гусцеюць шэрагі аматараў лінуць бруд на партызанскую славу, дружна вылупліваюцца "гісторыкі" і "сведкі", якім добра вядома дарога, што вядзе ў "Фонд дапамогі пацярпелым ад палітычных рэпрэсій", што без супыну папаўняецца "зелянівам" замежным. Кіраўнік яго раве, кліча народ "да праўды", а сам пра свой "фонд" — каму, за якое старанне, колькі заплачана — маўчыць, бы рыбіна.

Замахваюцца ўжо і на святыні народных усё часцей. Герой Савецкага Саюза Зінаіда Партнова, мужная і актыўная ўдзельніца патрыятычнага падполля на станцыі Обаль, як і кіраўнік гэтага падполля Герой Савецкага Саюза Фруза Зянькова, прайшлі па старонках дзесяткаў дакументальных і літаратурных твораў сапраўднымі змагарамі. На старонках жа адной з кніг, што выйшла летась, выяўляецца, што вяло на подзвіг гераіню не "горящее сердце солдата", а дурная помста асабіста. Вядома, піша аўтар, яна мужна трымалася на допытах. Але, як падкрэслівае ён у прадмове, "прасачыліся чуткі (яны здаюцца цалкам дакладнымі), што паслаў на верную гібель Зіначку адзін нядобразычлівец з ліку асабістаў", потым і шырока малюе, як тое адбывалася. Таму, маўляў, "не будзем ствараць міф вакол гэтай маленькай ленінградкі".

Мужнасць герояў — не міф. Гэта духоўнае апірышча ўсіх нас і новых пакаленняў асабліва. Страцім гэтае апірышча — страцім сябе. І тады сквальныя шарлатаны, бы статак бізонаў, праімчацца па нашай непаўторнай самабытнасці, і мы падзелім лёс цывілізацый, якія юкнулі ў прорву часу і ператварыліся ў пыл стагоддзяў.

Слушна і мудра сказаў у адным са сваіх вершаў выдатны наш паэт Генадзь Пашкоў: "…і на карце жыцця / на далонях / пазначана праца / і як помнік героям / уласнае ладзіш жыццё. / Бо на болю ўзрос, / і на песнях журбы гадаваны, / і хачу, / і павінен / на гэтай зямлі баравой. / Да апошняга ўздыху / быць кожнай хвілінай адданы / маладым і бясстрашным, што горкай абняты травой".

Навучыць новыя пакаленні будаваць сваё ўласнае жыццё менавіта такім чынам — як помнік героям! — нялёгка, але ж няма ў мастацкага слова задачы больш пачэснай і высакароднай за гэту.

## Моладзь — клопат найпершы



Анатоль СУЛЬЯНАЎ, пісьменнік, генерал-маёр у адстаўцы

Перш за ўсё хачу сказаць, што роля літаратуры ў станаўленні асобы вельмі важная. Так, кніга Аркадзя Гайдара "Цімур і яго каманда" была для мяне першым вялікім літаратурным творам як быць чалавекам мужным і смелым. На той час я ўжо марыў стаць лётчыкам.

Саюз пісьменнікаў Беларусі рэгулярна дапамагае Узброеным Сілам нашай краіны ў маральнай падрыхтоўцы абаронцаў Айчыны. Нядаўна тры групы пісьменнікаў наведаліся ў 72-і вучэбны цэнтр. Мне выдзеліў групу з 500 салдат, прызваных у студзені бягучага года. Са мной былі яшчэ два паэты — Мікалай Іваноў і Анатоль Аўруцін. Я расказваў пра сваю службу ў войску, як стаў лётчыкам. М. Іваноў удзельнічаў ва ўзяцці Берліна і агучыў свае вершы, прысвечаныя заканчэнню вайны. Салдаты слухалі вельмі ўважліва.

Вялікая Айчынная вайна — важная, вечная тэма. Шкада, што па радыё і тэлебачанні пра гэта гаворыцца практычна толькі на 9 мая і 3 ліпеня. На мой погляд, гэта няправільна, гэта тэма павінна прысутнічаць пастаянна. Згадваю, што калісьці, у савецкі час, на беларускім тэлебачанні была праграма "Звязда" (дарэчы, два гады мне давялося быць яе вядучым). Ад гледачоў прыходзіла шмат водгукаў.

Зрэшты, у нас мала перадач, якія выхоўваюць мужнасць у нашай моладзі, бракуе перадач для падлеткаў. Не стае праграм, якія б рэкламавалі сучасныя кнігі, асабліва такія, якія выклікаюць у людзей павагу да сталых людзей, выхоўваюць адвагу, гераізм, сумленнасць, прыстойнасць. Затое зашмат забаўляльных праграм. Няма тэлеспектакляў паводле кніг беларускіх аўтараў. У свой час мае дзве аповесці былі экранізаваныя на беларускім тэлебачанні. Адна з іх паводле маёй кнігі "Толькі адна ноч" была вельмі паспяховай: яе нават паказвалі па цэнтральным маскоўскім тэлебачанні.

Лічу, што выхаванне падлеткаў і юнацтва — адна з самых галоўных задач пісьменнікаў, тэлебачання, радыё і іншых сродкаў масавай інфармацыі.

## Вечная тэма гераізму



Міхась ПАЗНЯКОЎ, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ

Безумоўна, наша "ваенная" літаратура — магутны сродак выхавання новых, пасляваенных, пакаленняў у духу любові да роднай зямлі, да Бацькаўшчыны, да народа-пераможцы і яго слаўных герояў-ветэранаў. Тэма мужнасці, патрыятызму, тэма барацьбы з фашызмам застаецца і павінна заставацца ў нашай літаратуры і надалей. І гэта выдатна, што да такіх тэм звяртаемся мы, маладзейшыя, якія не зведалі, на шчасце, вайны, звяртаюцца маладыя творцы і нават зусім юныя. Тэма гераізму ў гады Вялікай Айчыннай — вечная.

У юбілейны год у аддзяленні праводзіцца значная культурна-асветніцкая работа, у якой актыўны ўдзел прымаюць і нашы шаноўныя пісьменнікі-ветэраны. Ёсць канкрэтны план мерапрыемстваў.

Мінскае гарадское аддзяленне СПБ абвясціла паўгода таму літаратурны конкурс на лепшы твор, прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі. Конкурс праводзіцца сярод юных літаратараў ад 14 да 25 год. Арганізаваны ён сумесна з Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, сталічным аддзяленнем БРСМ, Мінскім гарадскім інстытутам развіцця адукацыі. З цягам часу конкурс перарос у міжнародны, бо да яго далучаліся падлеткі і моладзь самых розных рэгіёнаў Беларусі, Расіі, Латвіі, Літвы, Украіны. Дасланы творы самых розных жанраў: вершы, апавяданні, эсэ, абразкі, нарысы, артыкулы... У Мінску першы этап конкурсу праводзіцца ў школах, гімназіях пад кіраўніцтвам раённых аддзелаў адукацыі. На заключным этапе конкурсу працуе высокапрафесійнае журы, куды ўвайшлі вядомыя паэты, празаікі публіцысты.

У Мінскае гарадское аддзяленне паступіла больш як 800 работ. Яны сведчаць, што ў нас падрастае здаровая, свядомая, адукаваная моладзь, якая шчыра ганарыцца сваёй роднай краінай, шануе ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, удзячна ўспрымае стваральнае сягоння і ўзнёсла глядзіць у шматабяцальнае заўтра. Сярод юных канкурсантаў ёсць сапраўдныя іскрынкі талентаў, з якімі неабходна працаваць і надалей, арганізаваць з імі літаратурную вучобу.

30 красавіка ў вялікай зале Дома літаратара мы правядзём свята з удзелам пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, на якім уручым пераможцам конкурсу ўзнагароды, памятныя сувеніры, зарыентуем іх на далейшую няпростую творчую працу. Лепшыя творы юных літаратараў-удзельнікаў гэтага конкурсу мы мяркуем выдаць пасля асобнай кніжкай.

## Прачула, па-быкаўску



Людміла КЕБІЧ, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі

Калі гаворка заходзіць пра тэму Вялікай Айчыннай вайны ў літаратуры, адразу ж згадваю Васіля Быкава. Нягледзячы на яго сусветную вядомасць, ён, усё ж, па вялікім рахунку, гродзенскі пісьменнік, і мы ганарымся тым, што прыехаўшы некалі ў маі 1947 года ў Гродна, В. Быкаў больш як трыццаць гадоў жыў і працаваў у нашым горадзе. І першыя яго апавяданні на ваенную тэму — "У той дзень" і "У першым баі" былі надрукаваны ў газеце "Гродзенская праўда".

Сёння гродзенскія пісьменнікі не толькі ганарацца вялікім і славутым суайчыннікам, але і працягваюць наследаваць быкаўскія традыцыі. Найперш з іх — пісаць пра вайну праўдзіва.

У 2008 годзе Уладзімір Салаcюк напісаў аповесць "Ад чэрвеня да ліпеня", якая была апублікавана ў часопісе "Новая Немига литературная" (№ 3, 4). У ёй распавядаецца пра падпольную моладзевую арганізацыю супраціўлення, якая дзейнічала падчас вайны ў яўрэйскім гета ў г. Слоніме.

У 2009 годзе гродзенскі пісьменнік Аляксей Сазанчук выдаў дылогію "Землёй крещённые" і "Трижды проклятая власть", у якіх Вялікая Айчынная вайна паказана праз лёсы родных і блізкіх яму людзей, аднавяскоўцаў. Праўдзівасць шматлікіх фактаў і з'яў аўтар пацвярджае архіўнымі дакументамі і фотаздымкамі. У гэтым адметнасць яго твораў.

Неабыякавы да ваеннай тэматыкі і вядомы наш празаік Іван Пяшко. У 2008 годзе выйшла яго кніга апавяданняў "На тым беразе", прысвечаная светлай памяці бацькі, дзядзькі і брата, якія не вярнуліся з вайны.

Ірына Фамянкова — празаік, публіцыст, драматург. Аўтар нарысаў на ваенную тэму, апошні з якіх, пра воіна-афганца, а цяпер камандзіра-настаўніка яе ўнука — курсанта ваеннай акадэміі, быў змешчаны ў газеце "Советская Беларусь" Да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў І. Фамянкова напісала 4-актовую п'есу "Звезды и в сердце моем, или Четыре мая".

Дзіцячыя пісьменнікі Віктар Кудлачоў і Віктар Баранчык — дзеці вайны, абодва згубілі зрок. Невыпадкова яны ўсё жыццё верныя ваеннай тэме, якую раскрываюць у сваіх вершах і апавяданнях. В. Кудлачоў напісаў аўтабіяграфічную п'есу для падлеткаў "Помню о войне", дзеянне ў якой адбываецца на тэрыторыі акупіраванай ворагамі Беларусі, і героем якой з'яўляецца ён сам.

"Правда и ложь на весах истории" — пад такой назвою пабачыла свет манаграфічная праца вядомага гродзенскага гісторыка і публіцыста, члена СПБ Уладзіміра Ягорычава. Гэтая кніга — навуковая водпаведзь фальсіфікатарам гісторыі і паклёпнікам, якія замахваюцца на самае святое — народную памяць пра Вялікую Айчынную вайну.

Паэты Гродзенскага аддзялення СПБ — Браніслаў Ермашэвіч і Фёдар Чычкан — таксама кранаюць тэму вайны, выступаюць са сваімі творамі сярод ветэранаў, на памежных заставах, у вайсковых падраздзяленнях, у навучэнцаў ваенна-патрыятычных класаў.

## За выразнасць і праўдзівасць



Рыгор САКАЛОЎСКІ, старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі

Нядаўна размаўляў з мудрым пісьменнікам, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны Іванам Муравейкам. Іван Андрэевіч, услед за А. Чэхавым, паўтарыў такую фразу: "Пісьменнік павінен шмат пісаць, але не павінен спяшацца…". І дадаў, што жадаючыя ўступіць у творчы саюз памыляюцца ў тым, што, маўляў, чым больш кніг прадставіш, тым больш салідна. Наадварот, у творчасці цэніцца не колькасць, а якасць, склад твора. І, зразумела, прафесіяналізм, мастацкая каштоўнасць кнігі. Ветэран вайны, І. Муравейка, паказваючы прыклад, парадаваў у мінулым годзе сваімі новымі творамі "Лебединый край" і "Была война". А ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" знаходзіцца рукапіс кнігі франтавіка "Я Иван из Беларуси". Спадзяёмся, што яна выйдзе да 65-годдзя Вялікай Перамогі. Як і кніга ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны пісьменніка Васіля Гурскага "Пламя гнева", рукапіс якой прыняло выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Пісьменнікі Міншчыны знаходзяць цікавыя тэмы, разнастайныя жанры. Магчыма, не ўсе творы, не ўсе кнігі сталі прыкметнай з'явай у беларускай літаратуры, але ім, на мой погляд, нельга адмовіць у адным — напісаны яны выразна, праўдзіва, а галоўнае — на належным прафесійным узроўні.

З задавальненнем канстатую, што ў мінулым годзе пісьменнікамі Мінскага абласнога аддзялення СПБ выдадзена 17 літаратурных твораў і 3 калектыўныя зборнікі. Вось некаторыя з іх: "Дзеці зорак" Аляксандра Аляшкевіча, "Вечный завет" Васіля Гурскага, "Вася Лайдачкін у краіне Шкодных Звычак" Генадзя Аўласенкі, "Мы — не покорились" Анатоля Смалянкі…

Хачу падкрэсліць, што пісьменнікі Міншчыны бяруць актыўны ўдзел у патрыятычнай акцыі "Салют табе, Вялікая Перамога!", арганізаванай сумесна з Мінскім аблвыканкамам і абласным таварыствам "Веды". Ужо наведалі Дзяржынскі, Маладзечанскі, Лагойскі і Вілейскі раёны, у планах — Смалявіцкі, Мінскі і Крупскі. У ходзе акцыі наведалі месца гібелі і пахавання Героя Савецкага Саюза, партызана-піянера Марата Казея, школы, дзе ён вучыўся. Правялі мітынг-рэквіем на шашы Мінск — Радашковічы каля помніка экіпажу Героя Савецкага Саюза капітану Мікалаю Гастэлу і школы, якая носіць яго імя.

## Для арміі і пра армію



Яўген КАРШУКОЎ, кіраўнік ваенна-мастацкай студыі пісьменнікаў пры Цэнтральным Доме афіцэраў

Сённяшні пісьменніцкі форум — адметная з'ява ў творчым і грамадскім жыцці. Па-першае, мы напярэдадні слаўнай гадавіны Вялікай Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Па-другое, наш форум сведчыць пра плённае супрацоўніцтва і ўзаемадзеянне Саюза пісьменнікаў з Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь.

Наша аб'яднанне — ваенна-мастацкая студыя пісьменнікаў — вось ужо шосты год працуе пры Цэнтральным Доме афіцэраў і робіць сваю важную справу па прапагандзе беларускай літаратуры ў вайсковых падраздзяленнях, прыцягненні ўвагі пісьменнікаў да ваенна-патрыятычнай тэмы. З гэтай мэтай студыя арганізоўвае рэгулярныя паездкі літаратараў у воінскія гарнізоны, садзейнічае публікацыі твораў, якія расказваюць пра сённяшняе жыццё нашых Узброеных Сіл, кіруе старэйшым у краіне літаратурным аб'яднаннем "Доблесць", кансультуе пачынаючых ваенных пісьменнікаў, з ліку якіх многія ўжо прыняты ў члены нашай пісьменніцкай арганізацыі.

Займаемся мы, калі можна так сказаць, і выдавецкай дзейнасцю.Так, у свой час намі быў падрыхтаваны зборнік вайсковай паэзіі "Мы храним тебя, Беларусь", а зараз сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі рыхтуем аб'ёмны зборнік прозы і паэзіі "На страже Отечества". Складаем і выпускаем таксама арыгінальны часопіс-альманах "Армія і культура", які ўжо заваяваў папулярнасць сярод вайскоўцаў. Да юбілею Вялікай Перамогі падрыхтаваны чарговы нумар. Перакажу коратка яго змест.

Пачынаецца ён уступным артыкулам і вершамі, Генадзя Пашкова і Мікалая Палякова, прысвечанымі юбілейнай даце. Друкуецца заканчэнне ўрыўкаў з рамана Алеся Савіцкага ў перакладзе на рускую мову "Оболи крутые берега" і апавяданне Яўгена Каршукова "Спадчына". З паэзіі прадстаўлены вершы Міколы Мятліцкага, Міхася Пазнякова, а таксама вершы беларускіх паэтаў-франтавікоў пад рубрыкай "Яны змагаліся за Радзіму". У раздзеле "Публіцыстыка" — нарыс Таццяны Куварынай "Мы все наследники прославленных бойцов" і нарыс Мікалая Еляненскага "Путь к славе". У раздзеле "Мастацтва" змешчаны ўрывак з кнігі Уладзіміра Ліпскага "Игорь Лученок: мелодии души". Завяршаецца часопіс артыкулам Анатоля Вялюгіна "Кровью сердца" — пра загінулых на франтах Вялікай Айчыннай маладых беларускіх паэтаў і артыкулам Яўгена Каршукова "Сталасць" — пра творчасць празаіка, генерал-лейтэнанта ў адстаўцы Юрыя Іванова.

Сваё выступленне хачу закончыць заклікам: пішыце для арміі і пра армію, актыўна ўдзельнічайце ў конкурсе Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь на лепшыя творы літаратуры і мастацтва, прысвечаныя 65-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і сучаснаму жыццю Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Фота Кастуся Дробава

# Пастанова пленума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі «Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне на старонках нашай літаратуры»

26 сакавіка 2010 года

Беларуская літаратура ў пасляваенныя гады глыбока і праўдзіва выявіла гераічны подзвіг нашага народа, стварыла яркі вобраз абаронца Айчыны — воіна, партызана, падпольшчыка, працаўніка тылу.

Нашы знакамітыя пісьменнікі Янка Купала і Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Аркадзь Куляшоў, Іван Мележ, Іван Шамякін, Максім Танк, Васіль Быкаў, Пімен Панчанка, Аляксей Пысін, Анатоль Вялюгін, Антон Бялевіч, Анатоль Астрэйка, Кастусь Кірэенка і многія іншыя майстры словы ўзбагацілі скарбонку беларускай літаратуры яскравымі, уражлівымі творамі.

Пленум лічыць неабходным звярнуць увагу ўсіх літаратараў Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама супрацоўнікаў і кіраўнікоў перыёдыкі, заснавальнікам якой з'яўляецца наша творчая арганізацыя, на неаслабную актуальнасць тэмы Вялікай Айчыннай вайны, подзвіга народа, якому жыць вечна.

Гэтая тэма мае магутную энергетыку. У яе невычэрпны творчы патэнцыял. Гераічная тэма і ў далейшым павінна знаходзіць глыбокае, яркае і таленавітае ўвасабленне ва ўсіх жанрах літаратуры — у прозе, паэзіі, публіцыстыцы, дакументальнай і энцыклапедычнай літаратуры. Мы выказваем рашучае "Не!" тым, хто скажае, перарабляе гісторыю, здзекуецца з усенароднага Подзвіга і Памяці пра яго. Кожны з нас павінен супрацьпаставіць сваю творчасць, сваю грамадзянскую пазіцыю любым спробам нядобразычліўцаў апошліць, сказіць праўду пра вайну, прынізіць ролю савецкага народа ў вызваленні свету ад фашысцкага іга. Пісаць пра вайну праўдзіва — грамадзянскі абавязак пісьменніка, бо літаратура – жывая гісторыя народа, і яна павінна данесці гістарычную праўду наступным пакаленням.

Мы з горыччу адзначаем, што ў СМІ мала расказваецца пра кнігі аб Вялікай Айчыннай вайне і пра іх аўтараў.

Пленум пастанаўляе:

1. Звярнуць увагу кіраўнікоў выдавецтваў, літаратурнай перыёдыкі, рэдакцыйных калегій на вечнае значэнне тэмы Вялікай Айчыннай вайны і неабходнасць яе пастаяннай прысутнасці ў творах літаратуры;
2. У мэтах папулярызацыі і прапаганды лепшых твораў пра Вялікую Айчынную вайну, пра сучасную армію звярнуцца да кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства культуры, кінастудыі "Беларусьфільм" наконт рэалізацыі сумесных праектаў у гэтым кірунку;
3. Правесці ў бягучым годзе літаратурны конкурс "Байцы прыгадваюць…" і заснаваць прэміі для пераможцаў за першае, другое, трэцяе месца і дзве заахвочвальныя прэміі за творы пра Вялікую Айчынную вайну, выдадзеныя ў 2009-2010 гадах;
4. Даручыць прэзідыуму Саюза пісьменнікаў Беларусі і абласным аддзяленням СПБ звярнуцца з хадайніцтвам у мясцовыя органы ўлады (аблвыканкамы, гарвыканкамы, райвыканкамы) аб ушанаванні памяці пісьменнікаў-удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны (Пятро Прыходзька — Хоцімскі раён, Паўлюк Пранузя — Добрушскі, Нясвіжскі раёны, Іван Навуменка — Рэчыцкі раён, Алесь Ставер — Докшыцкі раён і інш.);
5. Саюзу пісьменнікаў Беларусі сумесна з ЦК БРСМ распрацаваць праект выданняў "Бібліятэкі кніг патрыятычнай тэматыкі";
6. Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў Беларусі арганізаваць прэзентацыі, абмеркаванне кніг пісьменнікаў-франтавікоў, правядзення іх творчых вечарын і сустрэч з чытачамі;
7. Саюзу пісьменнікаў Беларусі сумесна з РУП "Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" падрыхтаваць і выпусціць кнігу "Памяць" — кароткія апавяданні пра пісьменнікаў Беларусі, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. У канцы кнігі даць бібліяграфію ўсіх твораў нашых пісьменнікаў на тэму вайны. Па падтрымку наконт выдання такой кнігі звярнуцца ў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
8. Саюзу пісьменнікаў Беларусі і РВУ "Літаратура і Мастацтва" выдаць кнігу ўспамінаў "Дзеці вайны" (вядомыя пісьменнікі пра свае ваенныя дзяцінства).

## Старонкі памяці свяшчэннай




Своеасаблівым навігатарам па літаратуры, прысвечанай неўміручаму подзвігу савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, з'яўляецца падрыхтаваны Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі бібліяграфічны спіс "Свяшчэннай памяцццю авеяныя гады: Да 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне" ("Новыя кнігі: па старонках беларускага друку", 2010, № 3, дадатак). У выданні чытач знойдзе звесткі аб дакументах, у якіх знайшлі адлюстраванне асноўныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны, пачынаючы з трагічнага 1941-га і да пераможнага 1945-га.

Спіс пачынаецца Указам № 110 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 лютага 2008 года "Аб падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 65-й гадавіны вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне". Рэкамендуюцца найбольш значныя і цікавыя кнігі, дзе паказана сіла духу і патрыятызм савецкага народа, глыбіня якіх праявілася ў цяжкіх выпрабаваннях ваенных гадоў.

У раздзеле "На шляху да Перамогі" прадстаўлены матэрыялы, у якіх асвятляюцца ключавыя бітвы Вялікай Айчыннай вайны. Найбольш значнымі вехамі на шляху да Вялікай Перамогі сталі гераічная абарона Брэста і Магілёва, вялікая бітва на палях Падмаскоўя, Сталінградская эпапея, перамога на Курскай дузе, грандыёзная вызваленчая аперацыя "Баграціён".

Поспехі Чырвонай Арміі былі б немагчымымі без падтрымкі тылу, які з'яўляўся той крыніцай, якая жывіла і натхняла армію, давала ёй сілы і рэсурсы для ўзброенай барацьбы з ворагам. Літаратуру пра подзвіг працаўнікоў тылу можна знайсці ў раздзеле "Усё для фронту, усё для Перамогі!".

У раздзеле "Народная барацьба на акупіраванай тэрыторыі" прадстаўлены звесткі аб крыніцах, прысвечаных партызанскаму і падпольнаму руху на Беларусі. У раздзел уключаны дакументы, у якіх адлюстравана дзейнасць Беларускага штаба партызанскага руху, а таксама барацьба прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей СССР і антыфашыстаў з краін Еўропы ў партызанскіх атрадах і падпольных арганізацыях Беларусі.

Раздзел "Сцяг Перамогі над Берлінам" прапануе чытачу крыніцы, прысвечаныя Берлінскай наступальнай аперацыі і ўзяццю рэйхстага савецкімі войскамі.

Перамога была дасягнута, дзякуючы высокім маральным якасцям радавых воінаў і палкаводцаў, іх мужнасці, адвазе і адданасці Радзіме. Менавіта героям Вялікай Айчыннай вайны — камандзірам і байцам Чырвонай Арміі, партызанам і падпольшчыкам — прысвечаны апошні раздзел "Салдаты Перамогі". Значная ўвага надаецца дакументам, у якіх адлюстравана гераічная барацьба беларусаў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Бібліяграфічны спіс "Свяшчэннай памяцццю авеяныя гады: Да 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне" будзе цікавы выкладчыкам агульнаадукацыйных школ, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных вучэбных устаноў, гісторыкам, навучэнцам і студэнтам, а таксама ўсім, хто захапляецца гераічным мінулым краіны. У спіс уключаны дакументы, якія былі выдадзены, у асноўным, у 2005 — 2009 гг.

Усе раздзелы і падраздзелы спіса забяспечаны невялікімі нарысамі, якія дапамагаюць чытачу сістэматызаваць свае веды па гісторыі. У канцы спіса прадстаўлены матэрыялы, якія будуць карысныя работнікам адукацыі і культуры пры падрыхтоўцы масавых мерапрыемстваў, прысвечаных святкаванню 65-годдзя Вялікай Перамогі. Азнаёміцца з прапануемым спісам можна ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ці ў любой публічнай бібліятэцы краіны.

Таццяна НАВАРЫЧ, бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі



# А што там далей?

У маёй школе існавала калісьці традыцыя... На апошніх уроках ці на заключнай "класнай гадзіне" выпускнікі пісалі штосьці накшталт невялікага эсэ, дзе рабілі "прагнозы" на будучыню. Пісалі, якім уяўляюць сваё наступнае жыццё, дзе будуць вучыцца далей, у якой прафесіі рэалізуюцца, якімі бачаць будучых мужоў ці жонак, колькі дзяцей будуць мець і г.д. Пасля ўсе гэтыя допісы згортваліся і складваліся ў трохлітровы слоік. Слоік закатваўся. Якой-небудзь фарбай (найчасцей — лакам для пазногцяў) на ім рабілася надпіс, дзе ўказвалася дата "закладкі", тэрмін захоўвання і год "выняцця".

...Мой клас урачыста адкрыў свой слоік два гады таму — праз дваццаць год пасля заканчэння школы. Нельга перадаць, колькі было ўражанняў. Самае дзіўнае, што большасць прагнозаў спраўдзілася. У некаторых — на сто працэнтаў! Праўда, былі сярод нас і тыя, хто са скрухай наракаў на жыццё — маўляў, не заўважылі, як знікла былая амбітнасць, страціўся колішні запал... А іншыя, наадварот, дзівіліся, якімі закамплексаванымі былі калісьці, якую "нізкую планку" сабе ставілі, бо атрымалася, што сягнулі значна далей, чым меркавалі... Карацей, той "слоік" прымусіў нас пра многае падумаць.

...У студэнтаў-пяцікурснікаў філфака БДУ скончылася заключная сесія. Праз месяц-другі яны абароняць дыпломныя праекты і пачнуць шчыраваць на ніве філалагічнай навукі. На апошніх занятках я расказала сваім выпускнікам пра тую традыцыю, што існавала ў маёй школе, і прапанавала гэтаксама зрабіць своеасаблівыя "прагнозы". Толькі не на ўласны лёс, а на бліжэйшую будучыню беларускай літаратуры. (Бо сённяшнія пяцікурснікі — гэта ўжо спелыя і дасведчаныя спецыялісты, да іх меркаванняў, на маю думку, варта паставіцца ўважліва).

Паколькі наконт класічнай літаратуры ўсё і так зразумела (яе каштоўнасць неаспрэчная), то пытанні, якім студэнты павінны былі прысвяціць свае эсэ, датычыліся толькі сучаснага літаратурнага працэсу:

1) Творчасць якіх сучасных пісьменнікаў будзе запатрабаванай чытачамі ў сярэдзіне XXI стагоддзя? Якія творы сыдуць у маргіналіі, не будуць карыстацца ўвагай наступных пакаленняў?

2) Якія тэндэнцыі выявяцца ў нацыянальнай літаратуры ў сярэдзіне XXI стагоддзя?

3) Якія тэмы і праблемы будуць на ўвазе мастакоў слова праз 40-50 гадоў?

Прапаную чытачам "ЛіМа" пазнаёміцца з меркаваннямі маладых літаратуразнаўцаў — людзей шчырых, нікім не заангажаваных...

Лада АЛЕЙНІК, кандыдат філалагічных навук

Кацярына Пунінская:

— Найперш адзначу тых пісьменнікаў, творчасць якіх, на маю думку, узбагаціла нашу літаратуру: Алеся Наварыча, Адама Глобуса, Андрэя Федарэнку і Анатоля Казлова. Кожны з іх адметны пасвойму...

У Алеся Наварыча — адмысловы стыль (які прыцягнуў увагу яшчэ ў кнігах "Рабкова ноч" і "Ноч пацалункаў незалежнасці"), арыгінальная мастацкая мова. Пошук гармоніі чалавека са светам і ў самім чалавеку — цэнтральная тэма яго творчасці. Думаецца, гэтая тэма будзе актуальнай і цікавай і для наступных пакаленняў чытачоў.

Адам Глобус імкнецца да аб'ектывізаванага погляду на людзей і на свет. Яго творы — гэта цэлыя галерэі вобразаў сучаснікаў. Пісьменнік паслядоўна і мэтаскіравана малюе партрэты "без прыхарошванняў", яго героі вельмі розныя — добрыя і злыя, шчодрыя і хцівыя, мужныя і баязлівыя. Карацей, яны такія, як сапраўдныя людзі. У творчасці Глобуса і сёння нямала прыхільнікаў, але з цягам часу іх колькасць, думаецца, яшчэ больш павялічыцца.

Андрэй Федарэнка належыць да катэгорыі тых майстроў пяра, каго называюць "знаўцамі чалавечай душы". Ён — псіхолаг, даследчык сучаснасці, шчыры і непасрэдны субяседнік. У сваіх творах гэты пісьменнік не прымае разбурэння людскасці, маральнага падзення і гвалту над асобай. Яго творчасць неадлучная ад гуманістычных традыцый лепшых узораў сусветнай літаратуры.

Творчасць Анатоля Казлова мае фальклорна-міфалагічную аснову. Гэты пісьменнік па-мастацку даводзіць: людзі, свет не змяніўся! Сёння, як гэта было заўжды, існуюць дабро і зло, праўда і хлусня... Трэба проста навучыцца іх пазнаваць: супрацьстаяць ганебнаму, імкнуцца да чысціні, да дабра і справядлівасці...

Я ўпэўнена, што з часам сыдуць у нябыт творы "пустыя" паводле зместу. Тыя творы, што "нарабілі шуму" на адно імгненне — "эпатажныя", вульгарныя, скандальныя... Веру, што чытач будучага засяродзіць увагу на лепшых здабытках сённяшняга дня — тых творах, якія сцвярджаюць чалавечнасць, прыгажосць жыцця.

Што датычыць тэматыкі і праблематыкі... Чалавека заўсёды прываблівае тое, што адпавядае клопатам яго паўсядзённага жыцця. Таму ў літаратуры заўжды будуць актуальнымі тэмы, датычныя гісторыі і сучаснасці, бацькоў і дзяцей, экалогіі, маралі, этыкі... І, несумненна, заўжды на ўвазе майстроў пяра будзе тэма кахання, адносінаў паміж жанчынай і мужчынам.

Алена Карп:

— Упэўнена, што ўвагай чытачоў будуць карыстацца творы Віктара Казько, Святланы Алексіевіч (па іх нашчадкі будуць вывучаць гісторыю краіны) Андрэя Федарэнкі. Хутчэй за ўсё застанецца цікавай для чытача творчасць Вінцэся Мудрова і Евы Вежнавец.

Постмадэрнізм надакучыць і вычарпае сябе. Тыя, хто прыйдзе ў літаратуру праз пару дзесяткаў год, будуць мець іранічныя прачытанні класікаў, таму не змогуць ствараць пародыі на пародыі. Новае пакаленне пачне пісаць "усур'ёз".

У хуткім часе, на маю думку, пачнуць выдавацца кнігамі "Інтэрнэт-блогі" (магчыма, у якасці зборнікаў празаічных мініяцюр), але бліжэй да сярэдзіны XXI стагоддзя ізноў актуалізуецца вялікі эпас.

Галоўнай тэмай у літаратуры па-ранейшаму застанецца чалавек (чалавек у свеце, чалавек у соцыуме), адбудзецца толькі змена "дэкарацый" адпаведна зменам у грамадстве.

Марына Кажарновіч:

— На маю думку, у "заўтрашнім дні" будуць запатрабаванымі творы Людмілы Рублеўскай, Андрэя Федарэнкі, Уладзіміра Сцяпана. Чаму? Ды проста таму, што яны кранаюць да глыбіні душы, заўжды змушаюць перажываць, хвалявацца, разважаць, "прымерваць" літаратурныя сітуацыі да ўласнага жыцця, далучацца да лёсаў герояў. Гэта пісьменнікі, якія фактычна ніколі "не расчароўваюць", не падманваюць чытацкіх чаканняў. Я чытаю іх і атрымліваю сапраўднае задавальненне — эстэтычнае, духоўнае, інтэлектуальнае. Лічу, што творчасць гэтых пісьменнікаў з цягам часу стане класікай айчыннай літаратуры.




А вось да творчасці "літаратараў-папулістаў" — Андрэя Хадановіча, Марыі Мартысевіч і іншых — увага, хутчэй за ўсё, страціцца. Пісьменнікам, якія займаюцца выпрацоўкай эпатажнага ідыястылю, маюць на мэце "ўразіць", "шакіраваць", "пасцябацца", наканаваны кароткі тэрмін "жыцця ў літаратуры".

Што датычыць тэндэнцый... У літаратуры, несумненна, будуць узмацняцца інтэлектуальны і асабовы пачаткі. Ужо сёння далёка не кожны твор можна "расчытаць" адназначна, бо ён уяўляе сабой код мыслення мастака, яго мікракосмас. Праз некалькі дзесяцігоддзяў гэтая тэндэнцыя павінна выявіцца больш пэўна.

Наконт тэматыкі і праблематыкі літаратуры будучага... Па-мойму, тут — без варыянтаў. Заўсёды будуць на ўвазе пісьменнікаў "вечныя" праблемы нашага свету — мужчына і жанчына, шчасце, грамадска-палітычнае і культурнае жыццё нацыі.

Святлана Бушкова:

— Хочацца верыць, што наша літаратура будзе развівацца ў самых розных напрамках. Бо літаратура — адначасова Душа народа і яго Свядомасць (як выяўленчае мастацтва — Зрок, а музыка — Слых). Якімі будуць думкі нашай нацыі, якой будзе яе душа... цяжка сказаць адназначна. Аднак маё меркаванне такое: з тых аўтараў, што актыўна працуюць сёння, застануцца ў полі зроку чытачоў творы Андрэя Федарэнкі, Алеся Наварыча, Юры Станкевіча, Уладзіміра Сцяпана, Барыса Пятровіча, Людмілы Рублеўскай, Андрэя Хадановіча, Віктара Шніпа, Адама Глобуса. Не магу з пэўнасцю сказаць пра творчасць Віктара Жыбуля і Марыі Мартысевіч... Сёння іх імёны "на слыху", але ці сцвердзяцца яны ў літаратуры... Толькі час адкажа на гэтае пытанне.

Так званы "постмадэрнісцкі напрамак" і тыя, хто спрабуе яго штурмаваць, як, напрыклад, Сяргей Балахонаў, хутчэй за ўсё застануцца ў "нашай" сучаснасці. Постмадэрнізм саступіць месца іншаму "ізму", больш жывому і перспектыўнаму, альбо нейкім чынам дэфармуецца і набудзе новыя абрысы.

Акрамя "вечных" тэм, пэўна, яшчэ больш актуалізуюцца гістарычная і экалагічная. Працягнецца эксперыментаванне з мовай, пошук новых магчымасцей яе мастацкага выяўлення.

Дзмітрый Баркевіч:

— Што будзе далей з айчыннай літаратурай? Цяжка сказаць, але мне падаецца, што менавіта яна, адна з нямногіх сусветных літаратур, застанецца Мастацтвам з вялікай літары. Так адбывалася на працягу ўсёй не надта працяглай гісторыі нашай літаратуры. Беларусы ніколі не спяшаліся пераймаць усё новае з суседніх узораў прыгожага пісьменства. У нас заўсёды быў свой шлях... Ну, калі не шлях — дык сцежка, па якой мы спакойна, упарта, але ўпэўнена крочылі наперад... Гэтая сцежка пралягала досыць далёка ад галоўных дарог, а таму насустрач нам не часта трапляліся дасведчаныя "хадакі", хто б адказаў нам на самае вострае пытанне "а што там далей?". Не, безумоўна, трапляліся цікавыя сустрэчныя... Ды мы не асабліва слухалі іх — гэтых выпадковых незнаёмцаў... І, як паказвае жыццё, правільна рабілі. Сёння наша літаратура — з'ява элітарнага кшталту ("фенаменальная", як кажуць навукоўцы). Што ж, гэта сапраўды так. Колькі арыгінальных узораў краснага пісьменства з'явілася толькі на працягу XX стагоддзя! І на пытанне "ці будуць папулярнымі тыя пісьменнікі, што пішуць сёння?" адназначна скажу: "Так". Сярод сучасных празаікаў я вылучаю найперш Андрэя Федарэнку. Яго імя ў будучым стане ўпоравень з імёнамі Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава. З паэтаў — гэта Анатоль Сыс. Шкада, што ён не паспеў зрабіць больш. Але і тое, што зроблена, — вельмі істотнае, таму ён гэтаксама — патэнцыйны класік.

...Заглянуць у будучыню немагчыма. Але ў нас сёння ёсць усе падставы, каб верыць у лепшае.

Андрэй Акушэвіч:

— Рабіць прагнозы, як вядома, справа няўдзячная. Хаця, магчыма, калі-небудзь прыемна будзе заўважыць: "Я ж казаў!". Горш, канечне, калі прыйдзецца скрушна прызнацца: "Якім жа я быў аптымістам..."

Выкажу сваё меркаванне.

У сярэдзіне XXI стагоддзя, хутчэй за ўсё, запануюць тэмы глабалізацыі, урбанізацыі, духоўнага, экалагічнага і эканамічнага крызісаў, а таксама моцна выявяцца апакаліптычныя матывы. Многае ў літаратуры будзе вырашаць рэклама. Калі не спыніцца сённяшняе імкненне "даганяць" еўрапейскія ўзоры і адмаўляцца ад сваіх каранёў (у тым ліку вясковых), наша літаратура рызыкуе зусім страціць сваё індывідуальнае аблічча. (Маю спадзеў, што гэтага не адбудзецца).

Мне падаецца, што з сучасных аўтараў увагу чытачоў будуць прыцягваць творы Андрэя Федарэнкі і Алеся Наварыча (з празаікаў), Алеся Разанава, Андрэя Хадановіча, Анатоля Сыса, Леаніда Дранько-Майсюка (з паэтаў). Безумоўна, у "цень гісторыі" ніколі не адыдуць класічныя ўзоры беларускай літаратуры.

А яшчэ я маю спадзяванне, што не сёння, дык заўтра з'явіцца ў нас "новае імя", здольнае зрабіцца "візітоўкай" найноўшай літаратуры.

Галляш Дзянісаў:

— Шчыра кажучы, я не мастак пісаць эсэ (а ўведаўшы, на якую тэму, ледзь не ляснуўся долу). У маёй (не абдзеленай талентам і фантазіяй) галаве пачалі мроіцца (найпякнейшыя і найпачварнейшыя) карціны далейшага развою айчыннае літаратуры.

Найперш пра тое, што сёння маем... З аднаго боку, з'яўляюцца пэўныя літаратурныя "цэнтры", што распаўсюджваюць літаратурную моду. З другога — пэўныя літаратурныя малпы, якія не зважаюць, што ў іх краіне ёсць традыцыя, якую варта было б развіваць. Замест гэтага яны бяздумна ўсмоктваюць у свае малапасенькія глузды плыні з чужыны... Гэта сумна.

Не маю ахвоты пырскаць слінай у бок авангарда, які рушыць пакрысе да нас з Еўропы (хоць мы, нібыта, і самі ў той Еўропе), але прызнаюся: патусіўшы крыху ў Аўстрыі, Венгрыі і Славаччыне ды пабачыўшы наколькі тамака зараз моднае ўсялякае "выпячванне" сваёй бязглуздзіцы, адчуў трывогу. "Дах-9" у нас ужо адбыўся. Каментаваць гэтае свята брыдоты не карціць. Але паступова замена сапраўдных каштоўнасцей нейкім, даруйце, лайном, пачынае злаваць. Надта не хочацца верыць, што праз некалькі дзесяцігоддзяў у нас застанецца толькі штосьці накшталт "Даху-2050". А яшчэ страшней думаць, што класікі перастануць быць запатрабаванымі. Таму...

Таму паспрабуем уявіць цалкам адваротнае, што дапаможа нам — старым курдупелям, загнаным на клясіцы, — супакоіць сэрцайкі ў будучыні.

Выдавецтвы кшталту "Галіяфаў", etc. з жудасным скрыгатам і трэскам збанкрутуюць. Фатальна не стае сродкаў (нават на банальны самвыдат) гэткім акулам пяра, як Зміцер Плян. Фантазія ўсіх еўрапейскіх, азіяцкіх, амерыканскіх і г.д. авангардыстаў няўмольна даходзіць да апошняе кропкі, і ўсе вышэйназваныя канаюць ад творчае крызы.

У той жа час пракоі мінулага (кшталту Якуба Коласа, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча і процьмы іншых слаўных майстроў айчыннага пісьменства) паўстануць наноў у людской памяці, і класіка пачне перавыдавацца шматмільённымі тыражамі, чытацца шматмільённымі аўдыторыямі, перакладацца на ўсе мовы свету. (Частка тыражоў будзе скіроўвацца на Марс, бо ў марсіян з'явіцца гэткая ж прага да рамантызму і рэалізму, як і ў насельнікаў Зямлі). Людзі будуць зачытвацца класікай у транспарце і дома, будуць набіваць гузакі аб слупы, чытаючы на хаду, і — галоўнае — яны будуць ведаць, што гэтая літаратура вучыць жыць, яна даводзіць, што чалавек сам стварае свой свет.

Можна, безумоўна, разважаць і ў рэчышчы утопіі... Каму як дападобы. Адзін, як вядома, лічыць, што шклянка "напалову поўная", а другі, што "напалову пустая". А калі сур'ёзна, то з цягам часу, мяркую, увесь хлуд з нашай літаратуры сплыве. Застанецца годнае...

Юлія Шышко:

— З сённяшніх пісьменнікаў "вечнае жыццё ў літаратуры" наканавана нямногім. Сярод гэтых "нямногіх" — Людміла Рублеўская з дэтэктывамі "Золата забытых магіл", "Пярсцёнак апошняга імператара", Андрэй Федарэнка з раманам "Рэвізія", Алесь Наварыч з раманам "Літоўскі воўк", Уладзімір Сцяпан са шматлікімі апавяданнямі і навеламі, Валерый Гапееў з аповесцю "Ведзьміна тоня".

Датычна тэматыкі думаецца, што яна асабліва не зменіцца. Па-ранейшаму будуць ствараць літаратурныя ўзоры на гістарычную тэму, на тэму бацькоў і дзя-

цей, жанчын і мужчын, будзе адлюстроўвацца праблема экалогіі... Перспектыўным напрамкам падаецца фантастыка, бо людзі, відаць, ніколі не перастануць цікавіцца паранармальным светам, заўжды будуць імкнуцца “заглянуць у будучыню”.

**Марына Гарлуковіч:**

— Я лічу, што ў сярэдзіне ХХІ стагоддзя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратуры істотна зменяцца. Класічная літаратура саступіць месца масавай. Пісьменнікі пачнуць ствараць тое, што добра прадаецца.

З таго, што напісана ў наш час, будуць запатрабаваныя творы Вольгі Грамыкі, Наталлі Батраковай, Міхаіла Галдзянкова, Дзмітрыя Беразінскага, Ганны Альхоўскай, Нікі Ракіцінай, Вольгі Базылёвай, Марыі Вайцяшонак, Таццяны Барысюк, Уладзіміра Цішурова, Адама Глобуса, Аляксея Бацюкова, Людмілы Рублеўскай, Міхася Южыка і некаторых іншых.

Заўжды актуальнай будзе творчасць такіх волатаў літаратуры, як Алесь Разанаў, Анатоль Сыс, Ніна Мацяш, Святлана Алексіевіч, Аляксей Дудараў (але гэта нешматлікая група пісьменнікаў, якія з'яўляюцца Пісьменнікамі з вялікай літары).

Паколькі я лічу, што літаратура ў асноўным будзе мець масавы характар, то і развівацца будуць такія жанры, як фэнтэзі, дэтэктыў, меладрама... А вось буйны эпас не будзе актуальным. Бо каб ствараць магутную прозу, трэба быць сапраўдным духоўным асілкам. А дзе яны? Няма сёння ні другога Мележа, ні Быкава, ні Караткевіча, ні Шамякіна... Не хапае сучасным пісьменнікам таленту, каб дасягнуць такой вышыні.

Што ж тычыцца тэматыкі і праблематыкі, то я лічу, што тут перад мастакамі слова — вялікі абсяг. Будуць у літаратуры асвятляцца экалагічныя праблемы, тэмы вайны і міру, тэрарызму, гандлю людзьмі, беспрытульных дзяцей (ды і дарослых таксама), дэвальвацыі духоўнасці, падзення маральных асноў грамадства і г.д. Мяркую, што не будуць запатрабаванымі ні тэма вёскі, ні тэма горада, ні, тым больш, гістарычная тэма.

**Юрый Данюк:**

— Літаратура дапамагае нам спасцігнуць дух эпохі, з яе мы чэрпаем заканамернасці руху, праблемы развіцця, даведваемся, чым жыў народ калісьці, што клапоціць нацыю сёння. Асноўныя спружыны руху часу і грамадства так шчыльна сашчэплены з асноўнымі спружынамі літаратурнага развіцця, што іх трэба разглядаць канцэптуальна: рух часу — рух жыцця — рух літаратуры.

Філасофска-канцэптуальны погляд на свет чалавека — характэрная адзнака літаратуры апошняга часу. Літаратура як бы адкрывае нанова свет і чалавека ў гэтым свеце, развівае матывы “чалавека ў сям'і”, “сям'і ў грамадстве”, “грамадства ў свеце”, актуалізуючы пры гэтым агульначалавечыя каштоўнасці. Праходзяць дзесяцігоддзі, а паэма Якуба Коласа “Новая зямля” не толькі “не старэе”, а яшчэ больш прываблівае. Так і з творамі Максіма Багдановіча — касмічна-планетарная па змесце, але рэалістычная і вельмі зямная паэта.

Я заплюшчыў вочы і паспрабаваў уявіць нашу будучыню. Не атрымалася... Адзінае, што я ўбачыў, — тэатральную афішу на 2049 год... Дык там сталі купалаўская “Паўлінка”, яго ж “Раскіданае гняздо” і “Тутэйшыя”, п'есы Крапівы, Макаёнка, Дударава, Бутрамеева і Матукоўскага...

**Святлана Тарасава**

У сярэдзіне ХХІ стагоддзя распаўсюдзяцца творы, якія сваім зместам альбо формай будуць імкнуцца ўразіць чытача, шакіраваць. З'явіцца мноства твораў, дзе будуць выяўляцца непрывабныя партрэты сучаснікаў, жорсткасць і гвалт.

Несумненна, будуць развівацца і набываць папулярнасць масавыя жанры — дэтэктыў, прыгодніцкая проза, узоры фантастыкі і фэнтазі, любоўныя раманы. Праз сорак год “класікамі жанру” тут назавуць Людмілу Рублеўскую і Міраслава Шайбака.

Не страціць увагі жанр празаічнай мініяцюры, асаблівай запатрабаванасцю ў нашчадкаў будуць карыстацца “Зацемкі з левай кішэні” Леаніда Галубовіча і “Сучаснікі” Адама Глобуса.

З цікавасцю будуць чытацца праз некалькі дзесяткаў год творы Наталкі Бабінай, вершы Андрэя Дынько і Андрэя Хадановіча. Пра нашы сённяшнія клопаты і надзеі раскажуць чытачам творы Віктара Шніпа і Галіны Дубянецкай.

У цэлым беларуская літаратура будзе пераймаць вопыт сусветных літаратур і культур. Спадзяюся гэтаксама, што будзе не толькі “выкарыстоўваць”, але і сама будзе імкнуцца ў вялікі свет.

**Алена Смольская:**

— Сёння мы гаворым пра развіццё культуры як змену парадыгмы. У ХХ стагоддзі з'явілася некласічная парадыгма. Да чаго прыйшлі ў літаратуры? Мадэрністы ў сваім адмаўленні традыцыі прыйшлі да чыстага аркуша, постмадэрністы заявілі, што ўсё ўжо было напісана да іх. А што далей?

Мяркую, што літаратура паступова вернецца да свайго знаёмага і выпрабаванага рэчышча — рэалізму. Хутчэй за ўсё, лепшыя літаратурныя “сілы” ў сярэдзіне ХХІ стагоддзя будуць ісці, як і дагэтуль ішлі, “шляхам жыцця” (маю на ўвазе рэалізм у спалучэнні з іншымі стылёвымі плынямі). Літаратуру будучага немагчыма ўявіць без псіхалагізму, філасофскіх рэфлексій, экзістэнцыйнай тэматыкі. Думаю, не толькі пытанні мінуўшчыны, але і будучыні чалавецтва будуць вастрэй цікавіць людзей. У сувязі з гэтым, магчыма, будзе назірацца актуалізацыя жанраў навуковай фантастыкі, антыутопіі. Грунтоўную распрацоўку атрымае маральна-этычная праблематыка.

Спадзяюся, што імкненне да глабалізацыі не прагліне праблему самаідэнтыфікацыі беларусаў як нацыі. У такім выпадку творы пісьменнікаў сярэдзіны ХХІ стагоддзя будуць уяўляць сабой своеасаблівыя сацыяльна-псіхалагічныя “замеры” грамадскіх настрояў у дачыненні да такіх праблем, як лёс роднай мовы (хацелася б верыць, але цяжка ўявіць, што праз 40 год беларусы ўсе разам пачнуць размаўляць на роднай мове), жыццё горада і вёскі, духоўны стан нацыі. А паколькі гэтыя пытанні і сёння актыўна ўвасабляюцца ў літаратуры, то і чытачы будучага, і пісьменнікі (якім давядзецца абапірацца на вопыт папярэднікаў) з увагай і цікавасцю будуць чытаць творы Андрэя Федарэнкі, Адама Глобуса, Уладзіміра Сцяпана, Сяргея Кавалёва, Людмілы Рублеўскай.

Пераважаць будуць, верагодней за ўсё, “кампактныя”, т. зв. “малаэпічныя” формы (навелы, апавяданні, мініяцюры), але пісьменнікі абавязкова працягнуць працэс жанравых пошукаў. Магчымыя ў літаратуры ХХІ стагоддзя і спарадычныя з'явы “гульнёвай” паэзіі. Хаця, думаецца, большасць творцаў у хуткім часе ўсвядомяць, што падобная тыпу літаратура (“паміж намі сябрамі”) не з'яўляецца мастацка-паўнавартаснай. А ўвогуле, наколькі шматлікай будзе чытацкая аўдыторыя ў беларускай літаратуры праз некалькі дзесяткаў год, залежыць ад пісьменнікаў, ад іх выбару — як пісаць і пра што пісаць.

**Надзея Сянько:**

— На мой погляд, будзе запатрабаванай творчасць такіх сучасных пісьменнікаў, як Андрэй Федарэнка, Уладзімір Сцяпан, Сяргей Балахонаў. Упэўнена, што “несмяротнымі” застануцца ў нашай літаратуры Рыгор Барадулін і Алесь Разанаў — геніі айчыннага мастацтва слова.

Увогуле, літаратура паступова схіліцца да постмадэрнізму. Сярод жанраў запануюць эсэ, кароткія апавяданні, навелы, прыпавесці, празаічныя мініяцюры. У паэзіі будзе дамінаваць верлібр. Гэтаксама будзе працягвацца “дыфузія” жанраў (раман-эсэ, эсэ-прыпавесць, раман-штрыхамі альбо замалёўкамі, занатоўкамі, накідамі).

На другі план адступіць тэма вёскі, пераважаць будзе ўрбаністычная праблематыка.

**Ірына Чумакова:**

— Не буду гаварыць пра ўсіх і ўсё агулам. Скажу толькі пра тое, у чым упэўнена. А ўпэўнена я ў тым, што ніколі не сыдзе ў нябыт творчасць Алеся Разанава. Гэта вельмі неардынарны, нетрадыцыйны мастак. Яго часта абвінавачваюць у “небеларускасці”, але гэта зусім беспадстаўна. Проста ён выйшаў за прасторы нацыянальнага мастацкага космасу і ўзняўся да яшчэ вышэйшых вышыняў. Менавіта ён узбагаціў нашую літаратуру новымі паэтычнымі формамі — квантэмамі, пункцірамі, версэтамі, вершаказамі і інш. У яго, несумненна, з'явяцца паслядоўнікі, якія будуць развіваць традыцыю Майстра. Наўрад ці літаратуру сярэдзіны ХХІ стагоддзя не будуць цікавіць новыя формы? Думаю, што будуць. Бо ўсім ужо надакучыла адно і тое ж. Новае заўсёды выклікае цікавасць у чытача.

Хачу падкрэсліць, што Разанаў не проста “гуляе” са словамі (як некаторыя маладыя паэты), за яго эксперыментам — пэўная філасофія. Тут перш за ўсё трэба адчуваць слова (на ўзроўні сімвалу, падтэксту, алегорыі), умець убачыць за ім цэлы свет. Гэта значыць, што той, хто лянуецца думаць, хто прызвычаены да стэрэатыпнага мыслення, ніколі не разгадае таго, што хацеў сказаць пісьменнік. Такім чынам, будучыня не толькі за таленавітымі творцамі, але і за ўдумлівымі чытачамі.

**Таццяна Бэнда:**

— Я лічу, што ў наш час вельмі многа таленавітых пісьменнікаў, творчасць якіх будзе запатрабаванай у будучым. Гэта і Андрэй Федарэнка, і Уладзімір Сцяпан, і Алесь Бадак, і Валерый Гапееў, у якіх ужо сёння багатыя мастацкія набыткі. Яшчэ ў школе я пазнаёмілася з творчасцю Юры Станкевіча, нейкі час захаплялася, нават пісала курсавую працу, прысвечаную яго творчасці. Але... На свеце так многа прыгажосці і радасці, якіх нельга не бачыць. А яго творы наскрозь працяты цемрай і страхам. Вельмі хочацца, каб пісьменнік пачуваўся больш аптымістычна. Бо, як вядома, слова “матэрыяльнае”, слова здольнае ўздзейнічаць на рэальнае жыццё...

Спадзяюся, у будучым нашы пісьменнікі пачнуць больш уважліва ставіцца да дзіцячай і падлеткавай літаратуры. І следам за вышэйназванымі мастакамі створаць новыя цудоўныя ўзоры прыгодніцкай, рэалістычнай ці аўтабіяграфічнай прозы для юных чытачоў.

**Вераніка Буряк:**

— Ралан Барт у сваёй працы “Смерць аўтара” сцвярджаў, што ўсё новае — па сутнасці даўно забытае старое, а факты літаратурныя, якімі б мадэрновымі яны ні здаваліся, маюць сваю першаснову-выток, зададзеную мадэль. Менавіта гэтая мадэль і паўтараецца з пэўнай заканамернасцю, але кожнай эпохай, кожным пакаленнем успрымаецца па-рознаму, мае, так бы мовіць, свае “мадэрновыя” нюансы.

Сапраўды, як у 20-я гады ХХ стагоддзя назіраўся неверагодны ўсплёск літаратурнай актыўнасці, прыход новых дзёрзкіх пісьменнікаў (“Маладняк”), якія рэзка крытыкавалі традыцыю (у асобах Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча), шукалі сваё непаўторнае, так і ў 90-я гады мінулага стагоддзя — аналагічная сітуацыя — “Тутэйшыя”, “Бум-Бам-Літ”, “у рожкі са старымі”, непрыманне Максіма Танка і г.д.

Сёння амбітныя маладыя адмаўляюць сакральнае для беларусаў — іх народнасць, самасць, традыцыю, здзекуюцца і іранізуюць з гэтага, робяць беларускасць аб'ектам крытыкі і насмешак. Да такіх аўтараў адношу Сяргея Балахонава і яго творы “Імя грушы”, “Зямля пад крыламі Фенікса” (спрадвечнае міфалагічна-сакральнае пісьменнік робіць прадметам шаржыравання, пародыі), Алеся Наварыча і яго раман-нарацыю “Літоўскі воўк”. Да прыкладу, больш верыцца, што Кастусь Каліноўскі — нацыянальны герой, змагар за волю Беларусі, высокамаральны чалавек (як у Караткевіча ў “Каласах...”), а не авантурыст і злодзей (як у канцэпцыі Наварыча). Думаю, што чытач будучага (хочацца верыць, што гэта будзе чалавек маральны і інтэлектуальны) дасць належную ацэнку гэтым творам.

Класікамі для нашых дзяцей і ўнукаў, безумоўна, стануць Андрэй Федарэнка і Уладзімір Сцяпан (калі і надалей пойдзе шляхам самабытнасці). Менавіта іх творы ўвойдуць (павінны ўвайсці!) у школьныя праграмы і падручнікі. На мой погляд, гэта найбольш перспектыўныя і таленавітыя пісьменнікі, што сцвердзіліся ўжо сёння. Не абцяжараная літаратурнымі “выкрунтасамі”, але не пазбаўленая глыбіні і падтэксту, філасофска-інтэлектуальная проза Федарэнкі (“Бляха”, “Вёска”, “Рэвізія”, “Мяжа”) — гэта, з майго пункта гледжання, і ёсць сапраўдная літаратура. Возьмем, напрыклад, раман “Рэвізія”. Ніхто яшчэ так маштабна і па-мастацку канцэптуальна не здолеў асэнсаваць культурную спадчыну беларусаў за ХХ стагоддзе. Гэта твор пра натхненне, пра асаблівасці “творчай кухні”, пра ўсю папярэдне створаную літаратуру + арыгінальная форма “рамана ў рамане”. Федарэнка — майстра гульні з хранатопам твора. А вось апавяданні Сцяпана і ўвогуле зусім “свежы” яго твор “Дзед” — гэта ўвасабленне самога нацыянальнага менталітэту, народнай душы.

Цяжка сказаць, якія творы сыдуць у маргіналіі... Сёння ледзьве не кожны творца больш-менш арганічна ўпісаўся ў літпрацэс. Тут шмат залежыць ад густу. Як на мой густ, то чытачу будучага не будзе чаго “чэрпаць” з твораў Андрэя Хадановіча, Джэці (Веры Жыбуль), Юрася Пацюпы... Але ж, як кажуць, час — лепшы суддзя.

P.S. Спадзяюся, што з цягам часу нехта з чытачоў альбо самых аўтараў сённяшніх “прагнозаў” звернецца да гэтай публікацыі і “зверыць” яе з сапраўдным станам рэчаў.

Л.А.

Падрыхтавала Лада АЛЕЙНІК

Фота Кастуся Дробава

## Калонка Міхася ЮЖЫКА

# Пісьменніцкі рай



Не сакрэт, што надрукавацца ў перыядычных літаратурных выданнях даволі цяжка. Асабліва калі ты малады і непрызнаны, або адыёзны і самастойны. Бо кожнае выданне мае сваю канцэпцыю і падбірае для друку творы, зыходзячы найперш са сваёй палітыкі, а не з выгады аўтара. І гэта нармальна. Акрамя таго, зразумела, што плошча літаратурнага часопіса ці тыднёвіка абмежаваная (яны не гумовыя), а аўтараў, якія прэтэндуюць на тую плошчу, многа. Ясна, што наталіць амбіцыі ўсіх ахвотных надрукавацца няма ніякай магчымасці. Тут уступае ў дзеянне, так бы мовіць, натуральны адбор, адбываецца барацьба за месца пад сонцам.

Сучаснасць ужо даволі даўно прапанавала літаратарам альтэрнатыву — публікаваць свае творы ў Інтэрнэце, які мае, у параўнанні з друкаванымі выданнямі, амаль неабмежаваны аб'ём. Мала таго, інтэрнэт-рэсурсы даюць магчымасць публікавацца без рэдактараў, што непазбежна ўзнікаюць на шляху любога аўтара, які прынёс свой твор у папяровае выданне. Здавалася б, любата, пісьменніцкі рай — публікуй, што душа пажадае. Аднак не ўсё так проста і тут.

Рэч у тым, што публікацыя твора ў паважаных перыядычных выданнях ужо сама па сабе дае аўтару відную трыбуну і даволі шматлікага чытача, ужо сама па сабе мацуе ягоны статус, незалежна ад якасці напісанага. Бо мяркуецца, што вядомае выданне не публікуе абы-каго і абы-што. У прынцыпе, так і ёсць: бязглуздзіцу паважаныя выданні, як правіла, не друкуюць.

На літаратурных жа сайтах, дзе існуе магчымасць самапублікацыі, і асабліва ў ЖЖ-блогах пісьменнікаў, цэнзарам і рэдактарам мусіць выступаць сам аўтар. Ён сам выбірае стратэгію і тактыку сваіх літаратурных старонак, сам лепіць свой імідж і шукае свайго чытача. І вось тут аказваецца, што не толькі маладыя аўтары, не толькі пачаткоўцы і студэнты філфакаў-журфакаў не ўмеюць выгадна сябе падаць у гэтай “прасторы літаратурнай свабоды” — гэтага не можа ажыццявіць пераважная бальшыня сталых, вядомых, раскручаных у друкаваных выданнях літаратараў. Нагледзеўшыся на бездапаможнае цялёпканне ў Сеціве некаторых сталых пісьменнікаў, не дзіва, што многія літаратары апасаюцца заводзіць свае ЖЖ-блогі — яны баяцца панізіць свой статус, які набывалі гадамі, бегаючы па рэдакцыях.

На абшарах Інтэрнэта літаратар пускае сябе ў вольнае плаванне, у адкрыты акіян з яго непазбежнымі штормамі. Там кожны падшыванец, не зважаючы на ваш высокі грамадскі статус, пасаду, рэгаліі, можа змясціць абразлівы каментарый, нізка ацаніць, напрыклад, ваш верш, які выходзіў у ганаровай серыі “Дыяментавае пяро”. Прычым дзёрзкі крытык яшчэ схаваецца за псеўданімам. Што, па-першае, непрыемна, а па-другое, не ведаеш, як на такі закід рэагаваць, каб канчаткова не абняславіцца. Грамадскі статус, паўтаруся, тут не ратуе. Няма галоўнага рэдактара, які прынцыпова не надрукаваў бы ў сваім выданні абразлівы каментарый на ваш твор.

З гэтай прычыны большасць беларускіх літаратараў, што маюць свае старонкі ў ЖЖ, наўмысна абіраюць несур'ёзна-гуллівы тон сваіх запісаў. Бо на такія запісы з'яўляецца багата каментарыяў, што падвышае статус гаспадара старонкі (каментуюць — значыць, я цікавы, яркі чалавек!). Прычым каментарыі гэтыя не абражаюць, бо адказваць пошласцю на пошласць лічыцца ў ЖЖ добрым тонам.

Інтэрнэт-дзённікі многіх пісьменнікаў, што пачыналіся як сапраўды літаратурныя, паступова ператвараюцца ў сметніцу, куды цягнецца ўсё, што ў галаву збрыдзе — ад таго, з якой нагі хто ўстаў, да эратычных фотаздымкаў уключна. Некаторыя літаратары нагадваюць азіяцкіх акынаў, якія пяюць пра ўсё, што бачаць і чуюць. Ніякай фільтрацыі, ніякага самакантролю. Словам, ЖЖ-прастора — гэта някепскі трубаправод для зліву словаблуднай энергіі і адначасова вялікая дапамога рэдактарам папяровых выданняў: будуць менш назаляць графаманы.

Такім чынам, рэчаіснасць паказала, што беларускія літаратары ў сваёй большасці пакуль не гатовыя да самастойнага плавання на хвалях свабоды, якую дае Інтэрнэт. І, як мне падаецца, ім па-ранейшаму патрэбныя выхавацелі і настаўнікі ў выглядзе галоўных рэдактараў, якія будуць іх накіроўваць і ўшчуваць, як нашкодзіўшых падлеткаў.

№ 14 9 красавіка 2010 г.





Янка ЛАЙКОЎ

* * *

я акрыяў уначы
пасярод цёмнага лесу
між кашлатых ялін
колькі гадоў я быў непрытомны
не помню
толькі розум ледзь чутна шаптаў
не засні
не заснуць
не сканаць
не скарыцца
гэтым чорным ялінам
і не спарахнець
і з ігліцай на доле
не зліцца
дачакацца світанку
недзе там
зусім блізка
звярыныя тропы
шлях дадому

* * *

быў чатырнаццаты дзень верасня
аголеныя яны ляжалі на падлозе
у яго невідушчы позірк
у яе невідушчае сэрца

дзесьці за акном
пачыналася і заканчвалася жыццё
узнікалі і знікалі галасы
прарастала праз брук нянавісць
я больш не кахаю цябе казаў позірк
а я ніколі не кахала цябе казала сэрца

і калі паміраў
чатырнаццаты дзень верасня
калі здрыгануўся і знік
у прагнай пашчы ночы
апошні акрайчык святла

яны апрануліся
бывай прамовіў позірк
бывай адгукнулася сэрца

## Трыпціх

### 1. Эрас

у пустэльні майго сэрца
сухой і прадзьмутай гарачымі вятрамі
няма месца для цябе
каханая

ты прыйшоў
занадта запозна і занадта зарана
я стамілася цябе чакаць
але твой прыход быў нечаканым
каханы

строгія вяяры пасталі
між намі
каханая

можна быць і можна не быць
змрок і туга наўкол
але цела тваё ўва мне
каханы

### 2. Логас

напачатку было яно
а пасля з'явілася ты

раставалі снягі і душа
квітнелі абсягі
ты спявала
яно жыло у табе

вобраз
першаадкрыццё
аснова
я страціў цябе
калі зразумеў
яно гэта ты

### 3.Танатас

кульнецца сэрца
абрынецца душа ў бяздонне
трывога адзінота страх

нарэшце ты ў пастцы
сляпое дзіця

сустрэнецца там
нехта
колькі ні падымай вочы
не пабачыш твару

глыбей у пастку глыбей
там зачакаліся

на бераг
выкінуты човен

паселішча адрынутых
на выспе смерці
пасярод акіяну жыцця

## Пан

ты памёр ты памёр ты памёр
чорны край чорны боль чорны свет

твой спакой нібы вечны дакор
нам сынам кажанам запавет

ты маўчыш нас не бачыш але
здань блукае па чуйных начах

вечны крык вечны след на скале
млечны шлях у вачах не ачах

прарастуць прапяюць прылятуць
каласы галасы жураві

быў ёсць будзь
ты жывы ты жывы ты жывы

Фота Кастуся Дробава



Кацярына МАКАРЭВІЧ

## Размова па-твойму

бягу за тваёй спінай
цягнуся рукамі-пытаннямі
у якіх ніяк не атрымліваецца
спыніць тваю абыякавасць
ты майстра не толькі
няправільнай інтэрпрэтацыі
маіх геаметрычных слоў
але і хуткіх уцёкаў ад адказнасці
нават "а" не паспявае саскочыць
з пажоўклых пялёсткаў-вуснаў
зрэшты гэта ўсяго толькі гук
на які заканчваецца тваё імя

* * *

баюся прамовіць шэптам
а хоць і паказаць на мігі
жаданне кветкай вясновай
прыхінуцца скроннію да скроні
паводле тваёй меркі
маю сэрца з навальнічнай буры
а таму схавацца пад твае павекі
няма ніякай магчымасці
кожны дзень гартаю слоўнікі
але ў ніводным з іх не знойдзецца
тлумачэнне твайго значэння

* * *

валодаеш стосамі крохкіх слоў
кішэні набітыя бліскучымі гукамі
часам ты корпаешся ў іх
і літасціва частуеш мой слых
якой-небудзь смачнай цікавосткай
працінае ад халадэчы шкадавання:
кожны дзень трапляючы ў завею
даносіш да мяне ўсяго некалькі
сняжынак на каўняры

* * *

дзе кропка
там заканчваецца імклівасць
пасля кропкі няма волі
кропка спыняе
скарачае развагі да першага гука
сядзі і дадумвай
свае вяснушчатыя думкі
на твары ў вечнасці

* * *

на варце нечаканасцяў
канцэнтрыраваны жнівень
паміж Купалаўскай і Кастрычніцкай
карамель сустрэчы
твая рука лёгкая як крыло
на размах не хапіла часу



Серафіма БЕСТАВА

* * *

У нялёгкую хвіліну
Ціха-ціха шэпчуць вусны:
Дзе падзелі вы гасціннасць,
Беларусы, беларусы?

На зямлі мы ўсе не вечныя.
Прад абразам памалюся.
Дзе падзелі вы сардэчнасць,
Беларусы, беларусы?

Ўзбагаціцца б нам духоўна.
Шмат што страцілі мы, мусіць…
Сціпласць, веру, памяркоўнасць
Дзе мы дзелі, беларусы?

## Роднаму гораду

Нябесны купал у зіхотких зорах,
Вартуе цішу пільна маладзік.
У велічы сваёй паўстань, мой горад,
І ўсе свае святыні адрадзі.
Нягод ты шмат спазнаў, мой родны горад,
Аб гэтым нельга нам ніколі забываць.
Дзе мы бурылі храмы і сaборы,
Там давялося турмы будаваць.
Жывi, мой горад, у абдымках цішыні,
Пад Боскаю ахоўвай, апяканнем.
Гукайце нас царкоўныя званы,
Бо нашым душам так патрэбна
Пакаянне.

## Царкоўныя званы

Царкоўныя дзіва-званы,
Якую вы маеце сілу.
Бы явай становяцца сны,
Нібы развінаюцца крылы.
Падхопіць мелодыю ціша,
І ты адчуваеш душой,
Што хочацца ўзняцца вышай
Над той учарашняй сабой.

* * *

Душу прадзьмуў адчай скразны,
І зноў ратуюся слязой.
О мой радок, ты сувязны
Паміж нябёсамі і мной.
О нашы справы, нашы лёсы,
Не ўсе пад сілу нам рашаць.
Скажы, радочак мой, нябёсам,
Як прагне ісціны душа.

## Родныя мясціны

У родных мясцінах,
Дзе квецень каліны,
Дзе водар сасновы,
дзе пах чабаровы,
Дзе спеў жаўруковы,
Дзе песні-замовы,
Мне б жыць — не нажыцца.

У родных мясцінах
Па тату ўспамінам,
Матулінай мовай
У цішы жытнёвай
З настроем вясновым
Сінечы нябёсаў,
Удзячнаю лёсу,
Душу спавядаць,
Сябе ачышчаць.



Фота Аляксандра Вашчанкі

# Адлюстраванні



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

## З дзённікавых запісаў

* * *

Такія розныя падзеі аднаго дня: перажыванне за здароўе Валодзі Марука, якога вельмі шаную як чалавека, як сябра (пісалася за дзень да яго смерці. — Аўт.), чарговыя плёткі пра калег-пісьменнікаў, дробныя ўкусы новага літаратурнага "снайпера", непрыстойны ўчынак падначаленага на працы, няспраўджанае абяцанне саліднага чалавека, які не з'явіўся на прызначаную сустрэчу, уласная памылка ў расповедзе пра сябра, якую, дзякуй Богу, удалося выправіць... Здавалася б, не звязаныя паміж сабой, але калі паразважаць... Усё гэта раны, шнары на сэрцы, і ў адзін момант усё можа абярнуцца выбухам. Як жа ж мы навучыліся не шкадаваць адзін аднаго, як відавочна знікаюць нават уяўленні пра спагаду, звычайную прыстойнасць, павагу да блізкага. Я памятаю, як перажывалі, пакутавалі ад гэтага Іван Антонавіч Брыль, Сяргей Іванавіч Грахоўскі, як балюча насіў у сабе крыўду ад кожнага несправядлівага слова Алесь Пісьмянкоў... Застаецца толькі старацца не азлобіцца, не зачарсцвець душой, не даць у ёй месца для помсты, нянавісці...

### Андрэй Федарэнка

Ён розны. Бывае ветлівы, лагодны пры сустрэчы, бывае злы, раздражнёны. Некаторым не падабаецца яго характар. Многія зайздросцяць яго таленту. Ён — значны пісьменнік нашага часу, існы спадкаемца класікаў айчыннай літаратуры. Ён любіць Буніна і Чэхава, рускую класіку і часта гаворыць пра гэта. Ён прыстойны ў адносінах да калег. Некалі жонка перакладчыка з Масквы Рыгора Куранёва Галіна Васільеўна распавядала мне, што калі яна прапанавала маладому тады Андрэю свой пераклад яго першай кніжкі, ён сказаў, што спачатку раіць перакласці свайго сябра Наварыча, цікавага беларускага празаіка. І гэта ў той час, калі старэйшыя вядомыя паэты, наадварот, у першую чаргу клапаціліся пра сябе, адсоўваючы сябра на другі план, пра што і сам Куранёў, і яго жонка ведалі з уласнага досведу. Тады словы Андрэя вельмі ўразілі Галіну Васільеўну.

Я дзіўлюся яго ўменню перадаць характар героя, атмасферу, дзіўлюся яго шчырасці і незалежнасці ў ацэнцы падзей мінулага і цяперашняга. Пры тым, што, на жаль, сярод сучасных творцаў не так шмат па-сапраўднаму значных, глыбокіх і яркіх асоб, такіх, якія былі ў 70-я–80-я гады мінулага стагоддзя, мы павінны радавацца і цаніць такіх пісьменнікаў, як Андрэй Федарэнка.

### Ірына Шаўлякова

Ёсць людзі, якія з першага погляду выклікаюць прыязнасць, жаданне паразважаць, асабліва калі чалавек знаходзіцца ў рэчышчы тваіх захопленняў ці прафесійных інтарэсаў. Ірына Шаўлякова з такіх людзей. Я заўважыў яе з першых, яшчэ студэнцкіх перадач на Беларускім радыё. Пазней, калі сам прыйшоў працаваць на Чырвоную, 4, прапанаваў ёй аўтарскую праграму пра беларускую літаратуру. Праграма гэтая стала сапраўдным упрыгожаннем эфіру. Разам з Ірынай над ёй працавалі акцёр Саша Аўчыннікаў і гукарэжысёр Таццяна Яўневіч. Трэба было бачыць іх зацікаўленасць у тым, каб перадача маладой журналісткі была па-сапраўднаму яркай, прывабнай для слухача.

Я і цяпер шкадую, што Шаўлякова не мае часу працаваць на радыё. Яе густ, памяркоўнасць і патрабавальнасць заслужылі ёй рэпутацыю крытыка кшталту Бярозкіна, Бечыка, Стральцова. У адрозненне ад некаторых калег, у яе працах няма таннага эпатажу, агрэсіі, карпаратыўнасці. Я заўсёды цікаўлюся думкай Ірыны Леанідаўны пра тое, што напісаў, пра тое, як яна ставіцца да бязглуздых штукарстваў ці халоднага рамесніцтва, якое хлынула мутным патокам у сучасны літаратурны працэс.

### Сяргей Панізнік

Толькі што патэлефанаваў Сяргей Панізнік. Як заўсёды, гжэчны, у клопатах. Цікавіўся нумарам майго паштовага аддзялення, бо збіраецца ісці на пошту адпраўляць лісты мне і Міколу Якаўлевічу Аўрамчыку. Для мяне Панізнік — жывая легенда, і тое, што мы сёння на "ты", — незвычайнае шчасце і адказнасць. Савецкі афіцэр, якога служба занесла ў чэшскую Прагу, які бачыў і чуў там легендарных беларускіх дзеячаў, бацька сына, якога нарадзіла яму жонка Яўгенія Янішчыц, фельчар станцыі "хуткай дапамогі" ў Мінску пасля выключэння з партыі і звальнення з вайсковай службы, нястомны падарожнік і рамантык, стваральнік двух этнаграфічных музеяў, укладальнік унікальнай калекцыі фотаздымкаў, магнітафонных запісаў... Сучаснік і таварыш Уладзіміра Караткевіча... Я быў простым полацкім юнаком, а ён быў ужо вядомы паэт... І ніколі ні ў чым і ні перад кім не выказваў ніякай пыхі, згаджаўся на любое выступленне, любую паездку.

Разам мы адкрывалі памятны знак на станцыі Баравуха, дзе служыў Янка Купала, выступалі ў Ветрыне, на радзіме Б. Эпімаха-Шыпілы, падарожнічалі па Верхнядзвіншчыне і Міёршчыне, папрацавалі разам у Саюзе пісьменнікаў... Ён першы напісаў пра мяне нататку ў "Чырвонай змене"...

І кожны раз я са здзіўленнем і захопленнем гляджу на гэтага чалавека, і думаю, што, напэўна, такімі былі Вацлаў Ластоўскі і Алесь Гарун, браты Луцкевічы і Зоська Верас (дарэчы, Панізнік паспеў зняць з ёй тэлевізійны фільм), Максім і Гаўрыла Гарэцкія, ды і іншыя нашы слаўныя беларусы.

* * *

Ля труны Алеся Пісьмянкова ўсю ноч мы сядзелі ўчатырох — я, Валодзя Марук, Валодзя Ягоўдзік і Віктар Патапенка. Абодвух Валодзь (так іх называў Алесь) з Пісьмянковым звязвалі гады студэнцкага юнацтва і цёплае сяброўства. Прыгадваецца верш Алеся і радкі "пасядзім, памаўчым з сябруком Маруком". Абодва — выдатныя пісьменнікі і цудоўныя людзі. Як шкада, што абазнанасць нашай моладзі ў літаратуры вызначаецца веданнем дзесятка імёнаў, часам і не самых значных.

Марук — тонкі і глыбокі лірык, выдатны перакладчык, сапраўдны філолаг (пісалася пры яго жыцці. — Аўт.). Ягоўдзік — постаць надзвычай цікавая. Празаік, аўтар цудоўных твораў пра дзяцей, эсэіст, выдавец. Ягоўдзік заўсёды шчыры ў сваіх выказваннях і праўду-матку можа сказаць любому, нягледзячы на пасады і званні. Ён вельмі тонка адчувае прыроду і можа распавесці безліч цікавых рэчаў пра нашу гісторыю.

Гэтае пакаленне адкрывала для сябе многае, што сёння ўжо вядома; сталела і спялела, каб вырасціць са сваіх шэрагаў і Ягоўдзіка, і Марука, і Асташонка, і Бутрамеева, і Лялько, і Мятліцкага, і Стрыжака...

### Вадзім Спрынчан

Вадзім Спрынчан знешне нечым падобны да Барыса Пастэрнака. Такі ж строгі, засяроджаны ў сябе твар, такая ж стромая хударлявая постаць... Я назваў бы яго сапраўдным рыцарам паэзіі. Свае і чужыя радкі ён не прамаўляе, ён іх нібы спявае, як малітву.

Прытым, што Вадзім пісаў і яшчэ часам піша па-руску, у яго бездакорная, стылёва багатая беларуская мова. Мне нават здаецца, што яна для яго больш натуральная, прынамсі, я ніколі з ім на іншай не размаўляў.

Вадзім – геніяльны рэдактар, ён настолькі чуйна адчувае кожны радок, кожнае слова, што нават калі і не хочацца, мусіш з яго заўвагай пагадзіцца.

Мы з ім нарадзіліся ў адзін дзень, на Стары Новы год. Я ўсіх людзей, якія нарадзіліся 14 студзеня, люблю і шаную. А такіх, як Вадзім, — удвая.

### Кніганошы

Працуе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" Зося Іванаўна Кустава. Цяжка знайсці больш адданага айчыннай літаратуры чалавека. Не філолаг па першай адукацыі, Зося Іванаўна ў веданні роднага мастацкага слова дасць фору некаторым выкладчыкам, ды і крытыкам з параду "снайпераў". З маленства яна была духоўнай настаўніцай, прадзюсерам для юнай Валерыі. Працавала ў дзіцячых выданнях, у Саюзе пісьменнікаў.

Не адзін дзесятак разоў мне давялося разам з Зосяй Іванаўнай выступаць у розных аўдыторыях.

Такая ж падзвіжніца Людміла Несцяровіч. Нястомна калясіць яна па краіне, прапагандуючы кнігі беларускіх літаратараў. Не маючы ніякіх за гэта выгод. Думаю, многія нашы пісьменнікі павінны быць удзячныя ёй за яе працу.

Міхась Казлоўскі працуе ў Маладзечна, у цэнтральнай бібліятэцы. Ён краязнаўца, эсэіст, выдавец. З Міхасём я пазнаёміўся яшчэ ў канцы васьмідзесятых, калі ён прыязджаў у Наваполацк, каб разам з намі, удзельнікамі літаб'яднання "Крыніцы", адсвяткаваць Купалле на беразе Дзвіны, паспяваць беларускія песні.

Калі я пішу пра гэтых цудоўных людзей, шчырых беларусаў, узгадваю верш Караткевіча "Кніганошы".

* * *

Мяне часам здзіўляе даволі вузкі, спецыфічны карпаратыўны погляд на сучасны літаратурны працэс. Таццяна Сівец, да прыкладу, не проста цікавая перспектыўная паэтэса, аўтар дзвюх кніжак, шматлікіх публікацый, яна цікавы літаратурны журналіст, даследчыца беларуска-англійскіх стасункаў.

На Беларускім радыё Таццяна стварыла шэраг цікавых перадач. Да прыкладу, на радыёстанцыі "Беларусь", дзе яна стала працаваць, Таццяна Сівец упершыню ў айчыннай гісторыі арганізавала серыю перадач на англійскай мове пра мову беларускую. Яе ўрокі беларускай мовы на англійскай заслужылі высокую ацэнку спецыялістаў і слухачоў.

Яна актыўна ўдзельнічае ў праекце "Зямля, што нам дадзена лёсам" на першым канале Беларускага радыё, аўтар і вядучы шэрага цікавых праектаў на радыёстанцыі "Беларусь". Яна прымае ўдзел і ў інтэрнэтным жывым часопісе, што чамусьці застаецца па-за ўвагай некаторых калег.

### Пра гук

Па старой радыйнай звычцы я ўсё толькі што напісанае чытаю ўголас, выпрабоўваючы такім чынам гучанне. Ведаю, што не ўсе гэта вітаюць. Памятаю, колькі разоў мне казалі: "Ты дай вачамі пачытаць. Калі пройдзешся вачамі, хібы адразу вылезуць". Можа, гэта і так, але слова, якое гучыць, для мяне мае нейкую незвычайную таямнічую сілу. Я заўсёды чую ў ім унутраную мелодыю, пачуццё... Таму, відаць, мне падабаецца, калі паэты самі чытаюць свае вершы. Калі, вядома, няма хібаў дыкцыі. Колькі часам у іх выступленнях ёсць своеасаблівага шаманства, калі не толькі сам сэнс слова, але і яго гучанне заварожвае, стварае незабыўны настрой нечага чароўнага...

Памятаю нашу размову пра гучанне слова з Алесем Разанавым, калі ён прыязджаў у Наваполацк, дзе я працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё. Па-першае, мяне ўразіла, як ён на сваім вечары прачытаў мой верш "Вучань", быццам дапамог адкрыць мне самому тое, што стаіць за кожным словам. Потым, калі мы да самай раніцы сядзелі за сяброўскай бясседай на кватэры ў Ірыны Жарнасек, як ён чытаў на памяць ледзь не ўсяго Купалу!..

Ужо на аўтавакзале, развітваючыся, Разанаў зноў загаварыў пра гук: "Ты працуеш на радыё. Чаму б табе не пацікавіцца, як паэту самой таямніцай гуку, не паспрабаваць раскласці гэтую з'яву на адценні, сэнсы?

Пакуль я гэтага зрабіць не паспеў, але гучанне слова па-ранейшаму для мяне мае надзвычай высокае значэнне, прыносіць асалоду...

* * *

Перачытаў Валянціна Катаева "Трава забвения" і "Алмазный мой венец" — пра сучаснікаў — славутых творцаў: Буніна, Маякоўскага, Ясеніна, Мандэльштама, з якімі яго зводзіў лёс. Каторы раз, а з якім захапленнем чытаецца!... Ці не ў гэтым сакрэт папулярнасці мемуарнай літаратуры, мастацка-дакументальнай прозы "нон-фікшн"? Пра гэта, памятаю, не раз гаварылі з Алесем Гаўронам, "геніяльным чытачом", як ён сябе называў.

Прываблівае, што ў Катаева няма капання ў бруднай бялізне, пераказвання плётак, чым часам грашаць многія сённяшнія аўтары.

Мне заўсёды было цікава ведаць не пра тое, дзе і калі напіўся ці з кім пасварыўся, колькі меў палюбоўніц славуты чалавек, а чым жыў, як пачуваўся ў віры падзей, як раскрывалася ягоная асоба. Я ў свой час нават пазбягаў блізка набліжацца ў жыцці да сваіх куміраў, каб не расчаравацца, не страціць высокага пачуцця суперажывання з думкамі і пачуццямі любімых аўтараў.

Тым не менш, ганарусь, што лёс зводзіў блізка з многімі цудоўнымі людзьмі, падарыў сяброўства з Алесем Пісьмянковым, Уладзімірам Маруком, іх сябрам Уладзімірам Ягоўдзікам, земляком, легендарным чалавекам Алесем Савіцкім. Ды і з некаторымі іншымі, пра якіх хочацца сказаць толькі цёплае, добрае слова.

Дзякуй Богу, многія – пабач, яны пакутуюць і перажываюць за лёс Радзімы, як і я, яны радуюцца і сумуюць. Іх трэба берагчы і шанаваць, ім трэба дараваць іх дробныя правіны.

Пацiснем ім пры сустрэчы рукі, усміхнёмся і пажадаем шчасця і плёну. Бо мы разам на зямлі, што нам дадзена лёсам.

Фота Кастуся Дробава



Магілёўскі абласны драматычны тэатр увесну робіцца цэнтрам прыцягнення тэатральнага свету, збіраючы пад каласнікамі вулканічную энергетыку акцёраў розных школ і рэжысёрскіх напрамкаў, канцэнтруючы пад крыштальнай люстрай глядзельнай залы ўнутраную засяроджанасць публікі. Сёлета пяты раз ужо тут адбываўся міжнародны маладзёжны форум "М@art.Контакт".

# Ёсць кантакт!

Каманда арганізатараў і кіраўнікоў гэтага штогадовага фэсту, якую узначальвалі дырэктар тэатра Андрэй Новікаў і рэжысёр Уладзімір Пятровіч, як заўсёды, працавала нябачна, нібыта і не было яе зусім. Толькі віталіся ўсмешліва, а ўсё на фестывалі быццам рабілася само сабой — так непрыкметна, спакойна і зладжана дзейнічаў арганізацыйны механізм. А такі ўзровень трымаць складана, бо тэатр — справа жывая і праблемы ўзнікаюць на кожным кроку, як і ў жыцці. Магчыма, і не засяроджвалася б на гэтым увага, каб не галоўная тэма сёлетняга магілёўскага тэатральнага форуму — "Кантакт звязвае людзей", якая падкрэслена спалучала арганізацыйны стан з творчым, і каб не тое творчае зерне, што выспявае на кожным такім аглядзе само па сабе.

Велізарная канцэнтрацыя гуманізму, спагады, чалавечнасці і дапамогі выклікала ў памяці знакамітую думку Мікалая Гогаля пра тое, што тэатр з'яўляецца кафедрай, з якой можна шмат добрага сказаць людзям. Галоўны прыз фестывалю журы аднадушна аддала рабоце тэатра для дзяцей і моладзі "Свабодная прастора" з Арла — спектаклю "Белае на чорным" паводле твора Рубена Давіда Гансалеса Гальегі ў пастаноўцы слыннага Генадзя Трасцянецкага. Метафары гэтага рэжысёра звычайна празрыстыя, выразныя і крыштальныя, нібы галінка бэзу. Для сённяшняга актуальнага тэатральнага мастацтва з яго напружаным пошукам новых форм выказвання відовішча падаецца даволі традыцыйным, крыху звычайным і нават тыражаваным. І ўсё ж, і ўсё ж… Споведзь хворага на цэрэбральны параліч Рубена Гальегі пра страшныя гады яго дзяцінства ў расійскіх спецінтэрнатах, горкая праўда і шчырасць фізічна бездапаможнага чалавека і яговых братоў па няшчасці робіцца на сцэне ў выкананні маладых акцёраў не толькі дакументам болю, але і выбухам чалавечай чысціні, мужнасці і знакам вышыні духу. Традыцыйнасць сцэнічнага мыслення адступае перад маральным катарсісам.

У спектаклі занятыя не толькі акцёры тэатра, але і студэнты Арлоўскага дзяржаўнага інстытута мастацтваў і культуры. Для іх удзел у гэтым спектаклі ды ў яго падрыхтоўцы стаўся урокам асабовага сталення. Акцёры самі працавалі валанцёрамі ў такіх інтэрнатах, нібы праходзілі побач са сваімі героямі.

На другім полюсе — спектакль-выбух, жорсткі паводле пастановачнай структуры, поўны рэжысёрскіх сучасных знакаў — пастаноўка Магілёўскага абласнога тэатра "Тарэлкін", аўтарскі спектакль Саўлюса Варнаса паводле п'есы А.Сухаво-Кабыліна "Смерць Тарэлкіна". Можна было б правесці пэўныя аналогіі з выразнымі прыёмамі знакамітага фільма П.Лунгіна "Цар", але ж спектакль створаны выключна тэатральнымі сродкамі. У канцэптуальнай, цяжкаватай рэжысуры, якая вымагае засяроджанасці і адукаванасці ад гледача, ёсць аднак значныя лакуны для акцёрскага самавыяўлення. Узнагароды атрымалі: за творчы прарыў Мікалай Раманоўскі (Тарэлкін) і за майстар-клас для маладых акцёраў Васіль Галец (Расплюеў). Спектакль ганараваны 1-й прэміяй фестывалю за арыгінальнае прачытанне класічнай драматургіі.



Не меншае ўражанне на гледачоў зрабіў спектакль "М — П" тэатра адначасовай ігры "Zoo-парк" з Ніжняга Ноўгарада, вызначаны як пафас і метафізічны намёк на паэму В.Ерафеева "Масква — Петушкі". Светлавы прамень раз-пораз вылучаў з цемры постаці дадатковых персанажаў, якія выраслі ў метафізічныя праявы сацыяльнага і касмічнага зла. І заўсёды, пранізваючы сцэнічную прастору, нібыта выварочваў сутнасць Венічкі, стваральнік вобраза якога акцёр Алег Шапкоў атрымаў прыз за лепшую мужчынскую ролю.

Адзінота і прakляцце Венічкі нібы рыфмаваліся ў фестывальным кантэксце з адзінотай і пракляццем Эдыт — галоўнай гераіні пластычнай драмы Кішынёўскага муніцыпальнага маладзёжнага драматычнага тэатра "З вуліцы Роз" (Малдова) пра Эдзіт Піяф "Падам… Падам" у пастаноўцы Юрыя Хармеліна паводле п'есы І.Грышпуна. Напружанне і напал жарсці персанажаў, выбуховасць акцёрскай энергетыкі заварожвала залу, утрымлівала абодва згаданыя спектаклі, кожны з якіх адначасова быў як монаспектаклем з-за велізарнай ролі галоўнага героя, так і надзвычай насычаным жывым жыццём — з-за велізарнай долі метафізічных персанажаў. Актрыса Вольга Софрыкава (Эдзіт Піяф) атрымала прыз за лепшую жаночую ролю.

Спецыяльны прыз за свабоду творчага самавыяўлення атрымаў Яўген Карняг (Беларусь) за праект "Cafe "Паглынанне"" — яркае, правакацыйнае відовішча на памежжы хэпенінга, перформанса, экшн. Спецпрызам за лепшы маладзёжны спектакль узнагароджана "Чайка" Дзяржаўнага Малога драматычнага тэатра з Вільнюса ў пастаноўцы знакамітага Рымаса Тумінаса. Жорсткая матэматычная рэжысура тут з'яўляецца своеасаблівай канвой для акцёрскіх малюнкаў.



Акрамя прафесійнага журы, зазвычай на фестывалі працуе журы маладзёжнае. Сёлета адзнакі аднаго і другога амаль цалкам супалі. Асноўнай трыбунай былі не толькі штодзённыя абмеркаванні спектакляў прафесійнымі тэатразнаўцамі, але і штодзённая газета "> Вестник > М@art.Контакт". Больш за тое, сцэны фае тэатра ператварыліся ў насценныя газеты і нататнікі, дзе самі гледачы фламастэрамі запісвалі свае думкі, уражанні...

Усё гэта элементы адной структуры, фестывальнай. Працуючы без збояў, яны і стваралі рух і дынаміку свята. Свята мастацтва неўміручага, старажытнага, жывога і такога няўлоўнага…

Таццяна КАТОВІЧ,
тэатральны крытык



На здымках: сцэны са спектакляў "Тарэлкін", "П — М", "Падам… Падам".

Фота Юліі Еўмянькова

## Радуемся разам

Кіно ў Беларусі пачалі здымаць 80 гадоў таму, а вось нацыянальная кінашкола толькі-толькі пачала фарміравацца. У Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў рабіліся першыя спробы рыхтаваць айчынных рэжысёраў: студэнты займаліся ў творчых майстэрнях В. Турава, М. Пташука... Але як дзень нараджэння беларускай кінашколы ў гісторыю ўвойдзе 5 красавіка 2010 года, калі ў БДАМ адбылося ўрачыстае адкрыццё факультэта экранных мастацтваў. На чатырох кафедрах будзе наладжаны сур'ёзны навучальны працэс па розных кінематаграфічных спецыяльнасцях. Сярод выкладчыкаў — знаныя прафесіяналы, практыкі "Беларусьфільма": рэжысёр мастацкага кіно А. Яфрэмаў, аператары Н. Суханава, П. Крывастанэнка, дакументаліст М. Жданоўскі, майстар анімацыі М.Тумеля.

Салістку Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Настассю Масквіну віншавалі нядаўна з паспяховым дэбютам на сцэне Вялікага тэатра Расіі. Наша яркая



зорка, лаўрэат і дыпламант міжнародных вакальных конкурсаў, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, уладальніца медаля Францыска Скарыны выступіла на легендарнай сцэне ў ролі Разалінды — галоўнай гераіні спектакля "Лятучая мыш". Прэм'ера гэтай аперэты Я. Штраўса сабрала ў Маскве інтэрнацыянальнае творчае сузор'е. Гэта швейцарскі дырыжор К.- М. Мюлер, расійскія рэжысёр-пастаноўшчык В.Бархатаў і спевакі Г. Аглатава, Д. Зыкава, А. Манісціна, С. Шылава, А. Неўдах, Э. Азізаў, І. Галаваценка, англійскія салісты У. Дэйзлі і А. Стэфані, харвацкі тэнар К.Шпіцэр.

Слуцкія паясы, самабытны ўзор нашага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, экспануюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь з 2008 года, калі па ініцыятыве яго дырэктара У. Пракапцова 8 унікальных асобнікаў з калекцыі Дзяржаўнага гістарычнага музея Масквы прыбылі ў Мінск (на аснове г. зв. дэпазіту). Нядаўна ў НММ адбылася ўрачыстая прэзентацыя канвертаў са спецыяльным гашэннем марак, прысвечаных



слуцкім паясам і выпушчаных Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь накладам толькі 1 тыс. асобнікаў. Канверт з маркай і спецыяльны штэмпель Першага дня афармілі мастакі І. Лукін і А. Нікалаеўскі.

Да 13 красавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь працуе выстаўка "Мастакі — Мірскаму замку. Працяг традыцый". Тут прадстаўлены рэканструкцыі фаянса Свержанскай мануфактуры, гістарычных касцюмаў XVII —XVIII стст., рыцарскіх даспехаў, габеленаў: гэта вынік працы нашых мастакоў па аднаўленні гістарычнай атмасферы залаў Мірскага замка.

Лана ІВАНОВА

На здымках: Н. Масквіна ў вобразе Разалінды; фрагмент слуцкага пояса.

# Родны «Ягадны хутар»

Навучэнцы і выкладчыкі Мінскага дзяржаўнага гандлёвага каледжа паглядзелі ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі прэм'еру літаратурна-музычнага спектакля "Ягадны хутар" — паводле твораў выдатнай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Яго паставіў вядомы рэжысёр Вітаўтас Грыгалюнас, а ўвасобіла сапраўдны Майстар мастацкага слова — лаўрэат нацыянальных і ўсесаюзных конкурсаў Зінаіда Феакціставa.

На працягу ўсяго спектакля, які захапіў нас шчырым, высокім майстэрствам выканання, адчувалася, што актрыса жыве словам і думкамі нашай "палескай птушкі", інтанацыйна падкрэсліваючы тыя ці іншыя моманты яе жыцця і творчасці. Усцешыла тое, што на спектакль былі запрошаныя самыя блізкія і родныя людзі Яўгеніі Іосіфаўны: яе сын — Андрэй Сяргеевіч Янішчыц з жонкай Юляй і дачушкай Янай, унучкай Паэткі, і дзядам Янproblem

Усе прысутныя аднагалосна выказаліся наконт таго, што артыстцы ўдалося арганічна перадаць унутраны свет паэтэсы, падкрэсліць яе непарыўную сувязь з мовай, з зямлёй, з роднай Бацькаўшчынай.

Асабліва кранальна прагучалі ў выкананні Зінаіды Феакціставай вось гэтыя радкі:

> Па гладкай шашы, па сцяжыне
> Дарога вяртае дамоў.
> На кожнай кудлатай хваіне —
> Птушыны распеў галасоў.
> Прыеду, нібы вінавата
> Прад гэтай лясной стараной...

Ты і сам нібы пераносішся ў гады маленства, да родных каранёў.

Дзякуй вялікі артыстцы, што далучыла нас да высокай і чыстай паэзіі Яўгеніі Янішчыц.

Надзея СУШКОВА,
выкладчыца Мінскага дзяржаўнага гандлёвага каледжа,
Надзея БУРМІСТРАВА,
навучэнка каледжа



На здымку: майстар мастацкага чытання артыстка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Зінаіда Феакціставa.

# Такі «не ідэальны» акцёр

Адзін са знаных майстроў сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Сяргей Чакярэс з'яўляецца на падмостках зазвычай у амплуа героя-палюбоўніка, сапраўднага мачо, але ў жыцці гэта надзіва зусім іншы чалавек. Ён дакладна вызначае межы паміж тэатрам і асабістым жыццём. Цяжка ўявіць, што мужчына з такой выбітнай знешнасцю цалкам аддадзены сям'і, дзе яго папулярнасць застаецца за дзвярыма кватэры… Цяжка ўявіць, што гэтак запатрабаваны на сцэне акцёр усё яшчэ не зняўся ў кіно…



— У чым, на вашу думку, адрозніваюцца адносіны акцёра і гледача да тэатра?

— У мяне няма ілюзій, нібыта глядач пакідае тэатр лепшым чалавекам, чым быў да прагляду спектакля… Для гледача тэатр — гэта казка, забава, мастацтва, якое разбаўляе шэрыя будні. Тэатр у маім разуменні — нешта кшталту свецкай царквы, дзе ўзнімаюцца пытанні пра высокае. Ёсць момант служэння тэатру як высокай матэрыі… Сэнс у тым, што я веру ў гэта… Але сам нічога значнага не раблю, проста выконваю сваю працу з любоўю.

— Ці зведалі вы стомленасць ад прафесіі?

— Час ад часу нейкая стомленасць адчуваецца, але жаданне пакінуць прафесію не ўзнікае. Такія крызісы закамерныя для творчага чалавека. Ведаеце, я не рэвалюцыянер па натуры, не прымаю спантанных рашэнняў. Мне хапае цярплівасці, каб крыху пачакаць — і стомленасць сама сабой пройдзе, растане ў пермаментнай цікавасці да ролі, да таго, што адбываецца на сцэне.

— Але ж перачакаць не значыць бяздзейнічаць?

— Вядома, найлепшы спосаб выйсці з творчага тупіка — плённая праца. Працягвай рабіць сваю справу з любоўю, тады і вынікі будуць радаваць.

— Ці многае пры гэтым залежыць ад рэжысёра?

— Ад рэжысёра залежыць не толькі канцэпцыя пастаноўкі, але і якая будзе створана атмасфера ў працы. Для мяне важна, ці ёсць у рэжысёра вызначаны свет, прастора, адчувае ён матэрыял плоццю і крොўю ці проста па пунктіках выбудоўвае мізансцэны… Яшчэ не люблю, калі рэжысёр прыходзіць да нас у тэатр з адной мэтай: зарабіць грошы. Гэткае імкненне да матэрыяльнага ў нашай сферы асабліва недарэчнае, і я з упэўненасцю магу прадказаць, што пры такіх мэтах паўнавартасны "прадукт" не атрымаецца.

— Якім жа мусіць быць ідэальны рэжысёр для Сяргея Чакярэса?

— Калі наважыцца перафразаваць Оскара Уайльда, ідэальны рэжысёр — гэта нешта такое несапраўднае, чаго і няма на гэтым свеце. Скажу вам па сакрэце, я ж — не ідэальны акцёр! Цікава з тымі рэжысёрамі, у якіх на рэпетыцыях перажываеш нейкі драйв. Гэта першы паказчык добрай рэжысёрскай працы. Мая творчая маці Валянціна Еранькова якраз з тых рэжысёраў, працаваць з якімі — няспыннае шчасце!

— А як наконт уласнага бачання сваёй ролі і самога спектакля?

— Гэта пытанне амбіцый і акцёрскага гонару. Я не адчуваю сябе марыянеткай. Мабыць, мне пашчасціла сустрэць мудрых рэжысёраў, якія бачаць індывідуальнасць акцёра, яго самабытнасць, працуюць, скажам так, з жывым матэрыялам. Але амбіцый зрабіць замах на рэжысёрскую канцэпцыю пастаноўкі ў мяне няма. Акцёр — выканаўца волі рэжысёра, але ў кожным разе гэта ўзаемны працэс. Калі ў цябе іншае бачанне матэрыялу, адрознае ад таго, што прапануе рэжысёр, лепш тады ўжо самастойна ставіць спектакль!

— Акцёрства — гэта пазітыўная праца: суцэльная творчасць, яркія фарбы, шалёная ідэі, неўтаймоўная энергія… Ці не так?

— Але тут жа замешаныя і пазёрства, і фанабэрыя, і непамерныя амбіцыі, і жаданне падабацца… Важна, што пераможа! Каб словы на сцэне не гучалі дарэмна, важна не шкадаваць сябе, траціцца. У дваццаць гадоў траціцца проста, бо гэта час, калі галоўнае, каб цябе пачулі. Але дзіўная справа: як толькі акцёра пачулі, растрачваць свае сілы яму ўжо не хочацца. Неяк пераглядаў запіс знакамітага спектакля "Халстамер", дзе Яўген Лебедзеў сыграў Каня. Вось гэта для мяне прыклад добрай ігры, шалёнай энергетыкі, што нікога не пакідае абыякавым. Наколькі тонкі інструмент акцёрскай душы, як ён рэагуе на знешнія раздражняльнікі — разумееш, што значыць "застацца без скуры"...

— Можа, ёсць такі акцёр, лёс якога вы хацелі б паўтарыць?

— Не паверыце, ні на кога не раўняюся! На мой погляд, у гэтым — шчаслівы дар. Параўнанне не на сваю карысць здатнае ўвесці чалавека ў ступар і ён наогул нічога не зможа зрабіць. Трэба існаваць у сваёй скуры і ў сваіх каардынатах. Я люблю паглядзець на чужую ігру, але без фанатызму. Прыгадваецца выпадак на гастролях у Маскве. Мы прывезлі "Гамлета", якога паставіў Барыс Луцэнка. А ў Маскве тады ішло сем "Гамлетаў"! І я пайшоў паглядзець на гэтага героя ў выкананні Канстанціна Райкіна ў пастаноўцы Роберта Стуруа.

— І як, спадабалася ігра Райкіна?

— Спадабацца спадабалася. Ды ўсё ж, нягледзячы на мой тады яшчэ маленькі акцёрскі вопыт, я не "зацыкліўся" на гэтым уражанні. У кожнага акцёра свая індывідуальнасць, таму не трэба параўноўваць сябе з кімсьці яшчэ, гэта на карысць не ідзе. Важна не баяцца, што можаш падацца няздатным, а існаваць у сваёй справе свабодна, разняволена, упэўнена, без напружання.

— А талент?

— Талент — гэта магія, заварожвае, прыцягвае на сваю частату. Калі ёсць талент, усе пытанні знікаюць самі сабой, усё робіцца надзвычай проста. Пры глыбокім пранікненні ў вобраз артыст нічога не імкнецца прыдумаць, ён не прымервае чужое адзенне, а гэтае адзенне становіцца — яго. У гэтым уся магія таленту!

— Ваш талент раскрываецца толькі на сцэне… Няўжо ў вас няма кінематаграфічных амбіцый?

— Амбіцыі, зразумела, ёсць. Хачу і ў гэтым "стрэліць"! Толькі для мяне важна яшчэ і паважаць сябе за тое, што не змарнаваў час на здымкі. Сказаць, што мяне атакуюць прапановамі здымацца, не магу. Я дзеля гэтага спецыяльна нічога не раблю, а склалася меркаванне, што я нібыта не хачу ў кіно. Гэта не зусім так. Мне, напрыклад, прапаноўвалі зняцца ў беларускай стужцы "Кадэт". Але калі мне далі пачытаць яе сцэнарый, у тэатры ў нас пачыналася праца над спектаклем "Жаніхі" паводле Гогаля, і супрацоўніцтва з кіно не атрымалася… Так што пакуль не зняўся — значыць, час не прыйшоў.

— Дарэчы, як вы адчуваеце сябе ў класічнай драматургіі?

— Класічны рэпертуар — гэта своеасаблівая гарантыя якасці, пэўнай прафесійнай добрасумленнасці. Тое, што дагэтуль запатрабаванае час сам, — я б сказаў, лепшыя, сапраўдныя старонкі жыцця чалавечага духу… Я проста шчаслівы, што мяне суправаджае такая драматургія.

Марына ДОЎГЕР

Ад рэдакцыі. Сяргей Чакярэс — ураджэнец Украіны, выпускнік Кіеўскага тэатральнага інстытута імя І. Карпенкі-Карага (1994 г.). З 1997-га працуе ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага. Сёння — вядучы майстар сцэны. Лаўрэат міжнароднага фестывалю. Узнагароджаны прызам Беларускага саюза тэатральных дзеячаў "Крыштальная кветка" і прэміяй імя Ігната Буйніцкага, медалём Францыска Скарыны. Сярод увасобленых роляў — Гамлет у аднайменнай трагедыі і Петручыо ва "Утаймаванні свавольніцы" У. Шэкспіра, Канстанцін Мастакоў у горкаўскіх "Дзіваках", Паніч у "Раскіданым гняздзе" Янкі Купалы, Мэкі-Нож у "Трохграшовай оперы" Б. Брэхта, Гарэцкі ў "Ваўках і авечках" А. Астроўскага, Качкароў у гогалеўскіх "Жаніхах", Юпітэр у спектаклі "Амфітрыён" і некалькі роляў у рок-оперы "Анджала ды іншыя".

# Фантазіі на тэму вечную…



На першы подых вясны адрэагавала не толькі прырода, але і Барысаўская мастацкая галерэя "З'ява", якая месціцца ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Х. Каладзеева. Тут зладкавалі вясновы праект пад назвай "Love story", прысвечаны вечнай тэме. У сучасным мастацтве назіраецца добрая традыцыя пошуку, скіраванага на тое, каб пракласці шлях да разнастайнасці. Адпавядае такой мэце і праект "Love story". Ён даў магчымасць зацікавіць гледача, змадэляваць інтрыгу.





У адной зале выдатна спалучыліся канцэптуальнае мастацтва (кампазіцыя з інсталяцый), жывапіс рэалістычнага і наіўнага напрамкаў (аўтары Ірына Гінц і Наталля Царык), карціны з вывамі кветак, выкананыя ў стылі імпрэсіянізму (Ірына Гінц), батык, стылізаваны пад мадэрн (Наталля Камінская) і ўзнёслыя метафарычныя літаграфіі (Тамара Стасевіч).

Вобразы інсталяцый Ірыны Гінц — адбіткі атрыбутаў з гісторыі падлеткавага кахання. Тут і "Крылы кахання" (як сімвал узнёслага пачуцця), і традыцыйнае чырвонае сэрца, працятае стралою ("Толькі шоўкавае сэрца не баліць") на фоне апафеознага прызнання ("Я цябе кахаю"), і папяровая шлюбная сукенка, якая нібы пазбаўляе ўпэўненасці ў чым-небудзь. Пластычнае ўяўленне спазнання і спасціжэння вялікай таямніцы чалавечага пачуцця ("Евіны забавы") зроблена з простых побытавых матэрыялаў — паперы, пластыку, тканіны, фарбаў. Наталлі Царык належыць ідэя тэатралізацыі выставы, дзякуючы якой і глядач стаў часткай праекта.

3 літаграфічных твораў Тамары Стасевіч любоў паўстае як стыхія, як вартасны першародны элемент свету. Асацыятыўныя вобразы "Ночы", "Неба", "Вадзяніцы", "Навальніцы" маюць жаночую аснову і міфалагічнае паходжанне. Іх можна працягваць, развіваць… Творы Т. Стасевіч поўныя глыбіннай высакароднасці і прыгажосці. Яны класічныя па змесце і па тэхніцы выканання.

Сваёй гісторыяй кахання ўразіла Наталля Царык. На яе карцінах ажываюць архаічныя вобразы наіўнага мастацтва. Першазвяры — коні, сабакі, каты — робяць надзвычай яркае ўражанне ("Пра маленькіх і не толькі", "Маё начное жыццё", "Вясна", "Чаканне"). А сонейка злучаецца з зялёнай травой, зялёнымі дрэвамі, рознакаляровымі кветкамі ("На крылах лета", "Вясельны аркестр"). "Букет маладой", "Ісіда", "Я паднясу табе месяц" падобныя да старажытных фрэсак. Сутнасць наіўнага мастацтва — у шчырасці. Гісторыі шчырых адносін паміж закаханымі і стварае мастачка.

Пачуцці, выпісаныя адкрытым колерам — у карцінах Наталлі Камінскай "Начны Берлін", "Мальвы": адкрыты чорны, чырвоны, жоўты, блакітны. Давер чыстым фарбам, сонцу і святлу выяўляецца ў кветкавых сюжэтах Ірыны Гінц. Абаяльныя сціплыя рамонкі, шыкоўныя півоні і ружы.

Дзякуючы праекту, глядач на нейкі час патрапіў у добры свет, дзе пануе любоў. А творы мастачак — як шчаслівае завяршэнне "Love story".

Таццяна АНТРОПАВА,
культуролаг
г. Барысаў

На здымках: Наталля Камінская "Капялюшык", Наталля Царык "Пра маленькіх і не толькі", Тамара Стасевіч "Ноч".

# Духоўнае малакроўе вермахта



**Разведка боем, рэйды па тылах праціўніка, удзел у знішчэнні фашысцкіх прыхвасняў — усё гэта захаваў час у лабірынтах памяці ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, жыхара Мар'інай Горкі, падпалкоўніка запасу Барыса Прасвірына. На фронце ваяваў ён з 1943 года. Ачышчаў ад фашысцкай набрыдзі Арлоўскую, Бранскую, Магілёўскую вобласці. Яго вызваленчая місія завяршылася ў жніўні 1945-га ў Берліне.**



Родны кут Барыса Прасвірына — Тула. Менавіта тут, ва ўмовах гарадской культуры, фарміраваўся характар юнака. Барыс вылучаўся актыўнасцю ў класе: браў удзел у спартыўных спаборніцтвах, наведваў з сябрамі абласны тэатр. Заварожаны хадзіў па сядзібе Л. Талстога. Барыс спрабаваў уявіць, што значылі для Льва Мікалаевіча прыезды ў Ясную Паляну знакамітага мастака І. Рэпіна, выдатнага празаіка І. Тургенева, кампазітара С. Танеева.

У свой час мне давялося наведаць урок пачатковай ваеннай падрыхтоўкі ў Мар'інагорскай школе, які вёў тады Барыс Мікалаевіч. Затоена, разам з вучнямі, слухаў аповед настаўніка. Запытаўся: як вы маглі б растлумачыць паражэнне нямецкіх войск пад Курскам?

— Услед за Гударыянам пад Тулай хвалёны ваяка Манштэйн пад Курскам атрымаў сакрушальны ўдар, зразумеўшы, што Маскву ён не ўбачыць ніколі. А прычына паражэння, — запэўніў Барыс Мікалаевіч, — у адным: армія вермахта хварэла на духоўнае малакроўе. Такую армію чакала пагібель. Дарэчы, у перамогу пад Курскам унёсак зрабілі беларускія партызаны: у жніўні 43-га, у самы разгар Курскай бітвы, народныя мсціўцы разгарнулі "рэйкавую вайну". Менш як за два месяцы. Партызаны ў тыле групы нямецкіх армій "Цэнтр" паралізавалі баяздольнасць больш як 80 тысяч варожых салдат і афіцэраў, пусцілі пад адхон 760 эшалонаў.

— Вы, Барыс Мікалаевіч, пра сваю Ясную Паляну раскажыце, — папрасіў хтосьці.

— Ясная Паляна — гэта ў 14 кіламетрах ад Тулы, — узяў у рукі Барыс Мікалаевіч указку і наблізіўся да карты на сцяне. — Немцы захапілі дом Льва Талстога ў 1941 годзе, ператварылі забудовы ў стайню, спаганілі ўсё наваколле. Сарвалі з вяза звон, гучаннем якога яснапалянцы абвяшчалі пра прыезд у госці да Талстога мастакоў, празаікаў, паэтаў, вучоных. На шчасце, не дабраліся да магілы Льва Мікалаевіча. Маці-прырода паклапацілася, не дала ў крыўду свайго сына, накінула снежную палярную на апошні прыстанак пісьменніка, адвяла позірк фашыстаў ад магілы класіка.

Адзін з вучняў папрасіў ветэрана расказаць пра Парад Перамогі ў Берліне.

— Нашых вайскоўцаў, што выстраіліся на пляцы, віншаваў маршал Жукаў. Ягоны кіцель упрыгожвалі ўзнагароды айчынныя і саюзнікаў. Люба-дорага было глядзець на легендарнага Жукава, — усміхаецца Прасвірын. — Мацак, прыгажун, горды. Узяў пад казырок, абыходзячы строй вайскоўцаў англійскі камандуючы Мантгомеры, а за ім — высокі, у стаўбунаватай фуражцы дэ Голь.

Зацікаўлены позірк кідаў у бок нашай танкавай калоны амерыканец Д. Эйзенхаўэр, раз-пораз нервова папраўляў гальштук на сваёй сарочцы. Сакрэт просты: Жукаў загадаў пусціць па пляцы танкі новай мадыфікацыі С-3. Прадэманстраваў маршал саюзнікам нашу моц. Трапілі танкі новай канструкцыі ў поле зроку і амерыканскіх фотакарэспандэнтаў. Пстрыкалі затворамі "леек", дзівіліся, убачыўшы магутную тэхніку. У шоку былі саюзнічкі, адным словам, — смяецца Барыс Мікалаевіч.

Даўно вядзе Прасвірын роздумны дзённік. Старонкі яго, нібы дыяментамі, перасыпаны афарызмамі А. Чэхава, М. Шолахава, П. Флярэнскага, М. Танка, І. Мележа. Голасам свайго пакалення гаворыць Прасвірын з нашчадкамі. Можа, таму ў дзённіку ветэрана мае месца глыбокі роздум пра мінулае і сучаснае, гераічнае і драматычнае на вайне.

Неяк Барыс Мікалаевіч працягнуў мне той тоўсты сшытак:

— Яшчэ і пасля вайны давялося сустрэцца мне з фашыстам. Пацікаўцеся вось.

З дзённіка Б. Прасвірына. "Мне давялося сутыкнуцца з гітлераўскім ваякам твар у твар у 1947 годзе. Справа была так: бургамістр горада Леннінен, дарэчы, камуніст, звярнуўся да камандавання нашай Групы войск у Германіі з просьбай узначаліць працоўны дэсант па дастаўцы з аддаленага паўстанка назапашаных дроў. Бургамістр зняў з гэтай мэтай рабочых з прадпрыемстваў горада, падаў чыгуначны састаў для пагрузкі. З групай нашых салдат паехаў я выконваць заданне. Немцы працаваць умеюць — не аднімеш. Стараліся. Не было спрыту толькі ў аднаго грузчыка. Корпаўся ён каля штабеля, працаваў неахвотна, усё паціраў рукамі калені.

— Вам нядобрыцца? Прайдзіце да паравоза, пасядзіце каля качагара, адпачніце. Я падмяню вас.

— У мяне адмарожаны ногі. Але я не маю патрэбы ў вашай ласцы, — з выклікам адказаў немец на рускай мове.

— Адкуль вы ведаеце рускую мову? Вы былі ў Расіі? — здзівіўся я.

— Я быў на фронце.

— Дзе, у якім месцы дыслацыравалася ваша часць? — пытаю.

— У раёне Сетухі каля Арла, — адказвае з ухмылачкай.

— Ваша дывізія мела найменне 247?

— 247-я пяхотная. І вы, відаць, былі там, — вочы фашыста наліліся крывёй.

— Быў, — кажу. — Дык, значыць, гэта вы стралялі ў мяне і ў маіх таварышаў?

— Мы далі клятву, выконвалі загад. І калі б не рускія зімы, то мы...

— Вы давалі клятву народу Германіі, што абароніце сваіх дзяцей ад рускіх? — працягваю дыялог. — На чужой тэрыторыі, куды вас не запрашалі.

Пасля ў адпаведных інстанцыях далі мне інфармацыю: ваяка трапіў у палон да рускіх, працаваў памочнікам кухара..."

Гісторыя распачынала новы адлік часу.

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

На здымках: Барыс Прасвірын — у Германіі, 1946 год; у г. Арле, 2008 год.

# З пазнакай удзячнасці




Сёлета настаўнікі і вучні Ждановіцкай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы вырашылі выйсці за рамкі звычайных мерапрыемстваў, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі. Акрамя звыклых візітаў да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і аказання ім неабходнай дапамогі, школа запланавала калектыўную творчую справу "Вялікай Перамозе — 65!".

У гэтым праекце прымаюць удзел усе класы, з першага па адзінаццаты. І, трэба адзначыць, да гэтай творчай калектыўнай справы з вялікім жаданнем прыступілі ўсе вучні. Яны паказалі сапраўды творчы падыход, здзівілі сваёй крэатыўнасцю і разнастайнасцю формаў, якія абралі для праекта.

Самымі нецярплівымі, у добрым сэнсе гэтага слова, аказаліся першакласнікі. Сваім творчым запалам яны захапілі і бацькоў. Вынікам іх сумеснай працы сталі выдатныя работы. 1 "А" клас пад кіраўніцтвам настаўніцы Наталлі Бурдыкі падрыхтаваў сюжэтную кампазіцыю "Нашай перамозе — 65 гадоў", 1 "Б" і Алена Сімуткіна працуюць над аплікацыяй "Плошча Перамогі", 1 "В" сумесна з Ірынай Крышталевіч прадставіў пано з пластыліну "Вялікай Перамозе — 65!"

Некаторыя ўдзельнікі калектыўнай творчай справы аб'ядналіся: другія класы рыхтуюць літаратурную гасцёўню "Дзеці вайны", трэція класы працуюць над літаратурнай кампазіцыяй "Мы будзем памятаць тую вайну". 4 "А" выяўляе свае паэтычныя таленты — працуе над кнігай вершаў "Вялікая Перамога".

Вучні сярэдніх класаў для сваёй творчасці абралі форму альбомаў. Іх назвы кажуць самі за сябе: "Вайна вачыма дзяцей", "Мы павінны пра гэта ведаць", "Іх імёнамі названы вуліцы", "Мая сям'я ў Вялікай Айчыннай вайне", "Радок, абарваны куляй", "Успаміны пра вайну", "Старонкі ваеннага летапісу, абпаленыя вайной" ды іншыя. Рыхтуецца да выхаду фотагазета "Сцежкамі вайны" і інфармацыйнае школьнае выданне "Перамозе — 65!".

Асобныя словы падзякі трэба выказаць у адрас педагогаў, якія арганізоўваюць школьнікаў і дапамагаюць ім. Школьнікі, якія працуюць над падобнымі калектыўнымі творчымі праектамі, самі шукаюць інфармацыю ў кнігах, наведваюць музеі, гутараць з ветэранамі. Прааналізаваўшы ўсю атрыманую інфармацыю, яны адлюстроўваюць яе ў сваіх працах.

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

Фота аўтара

# «Я — рускі салдат»

Штодня па буднях на беларускім радыёканале "Культура" ідзе перадача "Бестселер". У наш час маскультуры і інфармацыйных тэхналогій для мяне гэтыя трыццаць хвілін — сапраўднае свята сусветнай класікі. Знітавання літаратуры, музыкі, тэатра аднаго выканаўцы.

Гі дэ Мапасан, Анарэ дэ Бальзак, Джэром К. Джэром, Яраслаў Гашак... Іх шэдэўры прозы ажываюць у інтанацыях, паўзах, тэмбры непаўторных галасоў артыстаў Алега Сідорчыка, Алега Вінярскага, Лікі Пташук, Маргарыты Захарыя, Уладзіміра Баклейчава.

Менавіта ў незабыўным выкананні апошняга, з прысвячэннем 65-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, у лютым-сакавіку — кранальна гучаў раман Барыса Васільева "У спісах не значыўся".

Пра выключна гераічныя старонкі нашай гісторыі хочацца згадваць зноў і зноў.

1941 год. Выпускніка ваеннага вучылішча лейтэнанта Плужнікава хочуць пакінуць узводным у родным вучылішчы, але па яго просьбе накіроўваюць у Заходнюю асобую ваенную акругу з умовай, што пасля года службы ўсё ж адклікаюць у вучылішча. Трохдзённы адпачынак дадому, у Маскву, дзе яго чакалі мама, сястрычка і, як аказалася, пасталелая таварышка сястры, якой Коля падабаўся яшчэ да вучылішча, праляцеў імгненна. І вось ужо развітанне на Беларускім вакзале: у Брэст прадпісана прыбыць 22 чэрвеня.

У Брэсцкую крэпасць Мікалай Плужнікаў дабраўся на схіле гэтага дня. Але ў сваю часць не трапіў і ў спісы яе занесены не быў. У 4 гадзіны досвітак выбухнуў кананадай гітлераўскага нападзення...

Мужнасць абаронцаў Брэсцкай крэпасці вядома ўсяму свету. Нам, брастаўчанам, асабліва. Бо мы маем магчымасць часта бываць у Мемарыяльным комплексе "Брэсцкая крэпасць-герой" і музеі яе гераічнай абароны. Здавалася б, добра ведаеш сапраўдныя прозвішчы абаронцаў, эпізоды баёў. А слухаючы "У спісах не значыўся", быццам бы пражываеш з галоўным героем рамана і яго таварышамі тыя трагічна-гераічныя дні. І думаеш: а ты б вытрымаў?

Сіла майстэрскага літаратурнага слова — унікальная. Б. Васільеў злучае сапраўдныя эпізоды абароны крэпасці і народныя легенды пра гэта з мастацкімі вобразамі герояў свайго рамана. Паводле адной з такіх легенд апошняга абаронцу фашысты схапілі праз 10 месяцаў, і знясілены Плужнікаў таксама выходзіў з падвалаў "як гаспадар крэпасці, каб забачыць ворагаў, калі ўжо выпаў снег".

Ён закопвае ў дальнім каземаце перададзены яму смяротна параненым старшыной баявы сцяг адной з часцей, якая дыслацыравалася ў крэпасці. А ў апошніх эпізодах рамана, застаўшыся без патронаў, "абложаны" немцамі пасля чарговага забойства двух з іх, кажа пасланаму да яго мясцоваму яўрэю, які разумеў па-нямецку і якога заб'юць, калі ён не пераканае салдата выйсці, каб пасля перамогі нашы добра шукалі.., а калі знойдуць — зразумеюць, што крэпасць не здалася. Яна сплыла крывёй. Цяпер настаў час выйсці і глянуць ім у вочы.

Асляплы, з распухлымі нагамі, напаўбосы лейтэнант збірае апошнія сілы і, выйшаўшы на паверхню, пытаецца ў нямецкага генерала, ці ведае ён цяпер, якой даўжыні першая руская вярста? На сустрэчнае пытанне пра воінскае званне і прозвішча, адказвае: "Я — рускі салдат". І больш ні слова. Пад аўтаматны салют строю ўражаных ворагаў, адмовіўшыся ад насілак, апошні абаронца няскоранай крэпасці рухаецца да санітарнай машыны і, дайшоўшы да яе, падае, але паміраe свабодным.

Аляксандр ЮДЗІЦКІ

г. Брэст

# Сведка эпохі Купалы і Коласа

Пісьменніцкі стол старэйшыны беларускай літаратуры Міколы Аўрамчыка нагадвае пра тое, што яго гаспадар — рэдкі сведка цэлага перыяду нашай літаратуры. Тут непрыкметна прытуліўся да сцяны першы пасляваенны бюст Купалы — падарунак удавы песняра Уладзіславы Францаўны. А над сталом — фотаздымак 1949 года, на якім Мікалай Якаўлевіч разам з маладымі пісьменнікамі Шамякіным, Мележам, Брылём ды іншымі ў гасцях у Якуба Коласа. За гэтым сталом паэт, празаік і перакладчык Мікола Аўрамчык раскрыўся яшчэ ў адным жанры — у жанры інтэрв'ю. Ён не стамляецца распавядаць журналістам свае знакамітыя гісторыі — пра вайну і нямецкі палон, дзе прабыў тры гады, пра паэму "Сказ пра Лысую Гару", якую напісаў разам з Нілам Гілевічам, пра тое, як ягоныя вершы ўхваліў сам Якуб Колас, пра сяброўства з Піменам Панчанкам, Максімам Танкам, Янкам Брылём, Аркадзем Куляшовым, пра сваю схільнасць да жартаў ды розыгрышаў і нават пра першае каханне, якое зноў сустрэў у 79 гадоў. Карэспандэнт "ЛіМа" таксама пасядзела за пісьменніцкім сталом старэйшыны і пагутарыла з ім без прэтэнзіі на біяграфічную ўсеахопнасць і сенсацыйнасць.

— Мікалай Якаўлевіч, вы сам журналіст па адукацыі, можаце згадаць самыя запамінальныя сустрэчы падчас працы ў газетах?

— Калі я працаваў у "Піянеры Беларусі", там быў вельмі арыгінальны рэдактар: ён адпраўляў нас да вядомых людзей, але ніколі не дазваляў пяпярэдне тэлефанаваць ім, дамаўляцца. Так я ўпершыню прыйшоў да Купалы, сустрэла мяне, як я пасля даведаўся, Уладзіслава Францаўна, крыкнула: "Янка, да цябе!". Калі я сказаў, што прыйшоў з "Піянера Беларусі", каб папрасіць вершаў, Купала разгублена пацепваў плячыма: "Не магу знайсці нічога для вас". І сапраўды, што ён мог даць у такую газету? Вось такое маё было першае бачанне Купалы. Гэтаксама адпраўляў мяне рэдактар і да народнай артысткі Ларысы Александроўскай, я, праўда, так і не зайшоў да яе ў кватэру, патупаў-патупаў каля дзвярэй і сышоў.

— Як здарылася, што "Маладосць" затрымала вас так надоўга? Наколькі я ведаю, у часопісе вы адпрацавалі 27 гадоў.

— Спачатку я працаваў у "Полымі", дзе рэдактарам быў мой любімы паэт і сябар Максім Танк. Там можна было ўвогуле не хадзіць на працу, Танк быў такі лаяльны рэдактар, на вуліцы сустрэнеш яго, бывала, у працоўны час, пытаецца: "Ты што, можа, у рэдакцыю збіраешся? Не хадзі, не трэба". І, канечне, я б ніколі адтуль не перайшоў у "Маладосць", каб не Машэраў. "Маладосць" была ягоным дзецішчам, таму рэдакцыі аддалі ажно сем пакояў на дзесяць супрацоўнікаў. Калі я даведаўся, што Машэраў прапанаваў мяне на пасаду рэдактара паэзіі, пайшоў да людзей, якія ведалі яго больш добра, яны сказалі мне: "Ты толькі не думай адмаўляцца". І "Маладосць" стала маёй любімай працай. З моладдзю мне было значна цікавей, чым са старымі паэтамі, якія прыходзілі ў акадэмічны часопіс "Полымя". Па ўзросце я быў нейкім звяном паміж старымі і маладымі.

— Цяпер у літаратурных рэдакцыях знікла традыцыя творчай вучобы, калі рэдактары давалі парады пачаткоўцам. А шмат хто з паэтаў старэйшага пакалення сёння згадвае тыя лісты ад вядомых пісьменнікаў як знакавую падзею ў сваёй творчай біяграфіі.

— Мяне таксама вельмі ўражвалі гэтыя адказы. Аркадзь Куляшоў даваў мне падрабязныя кансультацыі пра строфы, рыфмы і радкі, але ў нас усё-ткі было толькі шэсць гадоў розніцы. А ўявіце сабе, калі сам Кузьма Чорны, якога мы нядаўна ў школе вывучалі, піша мне, дзевяцікласніку, ліст старонак на пяць у адказ на невядома якое апавяданне і ў маім тэксце пазначае алоўкам на палях: "суха", "схематычна", "цікавая пабудова сказа". Дзе я такія парады мог яшчэ атрымаць?

Сёння гэтая традыцыя сапраўды перарвалася. Але думаю, калі б мне ў свой час не адказалі так падрабязна мае настаўнікі, то, відаць, і я, працуючы ў рэдакцыі, не вучыў бы маладых пісьменнікаў.

— Якія жанчыны паўплывалі на ваша творчае станаўленне?

— Вялізную ролю ў маёй пасляваеннай сітуацыі адыграла ўдава Купалы Уладзіслава Францаўна. Бо калі б не яна і не Купалавы сёстры — Марыя і Леакадзія, то мой творчы рост быў бы замаруджаны, а, можа, і ўвогуле я не стаў бы пісьменнікам. Справа ў тым, што пасля вайны Уладзіславу Францаўну ведаў увесь Мінск. Тады голад быў не толькі на хлеб, але і на слова. Яна працавала ў выхаваўчых дзіцячых установах, выдавала кніжачкі для дзяцей. Калі ішоў з ёй па вуліцы, на кожным кроку да яе падыходзілі людзі, віталіся. І вось яна запрашала мяне на ўсе сустрэчы, прысвечаныя Купалу. Уяўляеце, на іх заўсёды ў прэзідыуме сядзеў увесь урад ад Панамарэнкі і мэра горада да першага сакратара ЦК, бо ўсе яны былі знаёмыя з Уладзіславай Францаўнай. І, канечне, на гэтых сустрэчах выступалі Якуб Колас, Максім Лужанін, Анатоль Астрэйка, Эдзі Агняцвет, Канстанцыя Буйло. Я ездзіў па ўсіх вечарах, прысвечаных Купалу, як мінімум два разы на тыдзень, яны часам праходзілі ва ўстановах, якія цяпер не маюць ніякіх адносін да літаратуры, — на заводах, фабрыках, у калгасах. Уяўляеце, што гэта мне дало тады? Па-першае, вядомасць. Па-другое, мяне добра друкавалі, не адмаўлялі амаль ніколі, ну і чыста практычныя выгоды — прасцей было атрымаць кватэру, напрыклад. І канечне, ні ў кога няма столькі вершаў, прысвечаных Купалу і Коласу, як у мяне.

Але зноў жа — прыкмета эпохі, цяпер смешна прыгадваць: Уладзіслава Францаўна заўсёды называла мяне "таварыш Аўрамчык". У гэтым — уся старая наша інтэлігенцыя, якая прыкрывалася словам "таварыш". Яна нават кнігу мне так падпісала Купалаву: "Таварышу Аўрамчыку, на ўспамін аб Янку".

Увогуле ў маёй памяці засталіся чатыры беларускія жанчыны вельмі нечым падобныя: Уладзіслава Францаўна, Канстанцыя Буйло, Паўліна Мядзёлка і Ларыса Геніюш. Можа, канечне, Ларыса Геніюш і Паўліна Мядзёлка вельмі жорсткія часам бывалі, а Уладзіслава Францаўна і Канстанцыя Антонаўна больш пяшчотныя і лірычныя.

Вельмі шмат мне дапамагалі і сёстры Купалы — Марыя і Леакадзія. Пляменнік песняра мастак Янка Раманоўскі распавядаў мне, што яны заўсёды плачуць, як я чытаю ў тэатры верш, прысвечаны Купалу. Дык я аднойчы ледзь не заплакаў сам, выйшаў чытаць, зірнуў на іх — слёзы не пацяклі, але голас у мяне надарваўся. А чаму яны так рэагавалі, я не ведаю.

— А самыя блізкія жанчыны – жонка, сёстры, дочкі — як ставіліся да вашай паэзіі?

— Шчыра кажучы, мая жонка і сёстры, хоць і былі настаўніцамі, не праяўлялі нейкай надзвычайнай павагі да маёй творчасці. Дочкі — таксама, яны і пайшлі ў розныя галіны: першая — ў біёлагі, другая стала вывучаць іспанскую мову, трэцяя, праўда, займаецца бібліятэчнай справай.

— Як вы думаеце, для паэта вельмі важна ўмець дэкламаваць свае вершы?

— Паэт і пісьменнік павінны пісаць. Але чамусьці прынята выступаць, аўдыторыю збіраць. Калі на тое пайшло, у нас большасць паэтаў дрэнна выступаюць, не ўмеюць добра чытаць.

— Кажуць: калі няма чаго сказаць — пракрычы. Гучнае, эмацыйнае чытанне можа нават "падцягнуць" слабаваты верш ва ўспрыманні слухачоў?

— Некалькі разоў чуў выступленні Еўтушэнкі і Вазнясенскага. Вось яны так чыталі, вельмі здорава — выразна, галасна, жэстыкулюючы, у нас так ніхто не ўмеў. Я спытаў аднойчы ў Вазнясенскага, ці ёсць у яго рэжысура выступленняў, ён сказаў, што няма.

Калісьці на літаратурным вечары Расціслаў Янкоўскі падышоў да мяне ў зале і спытаў: "Вы скончылі тэатральны інстытут? Як не? А так трымаецеся на сцэне!". Справа ў тым, што ў мяне пастаўлены голас. Любімая настаўніца ў сямігодцы і выкладчык выразнага чытання ў Педагагічным інстытуце вельмі дапамаглі ў гэтым. Акрамя таго, я ніколі ў жыцці вершаў не чытаў па пісанаму, толькі па памяці. А гэта вялікая розніца. Ды і я ж 13 гадоў пражыў у Крыме. У мяне астма, таму калі ў 1980 годзе мы з жонкай пайшлі на пенсію, то паехалі туды ў дом творчасці. З раніцы я працаваў (дарэчы, толькі там у мяне атрымалася пісаць прозу), а пад вечар хадзіў на сустрэчы. У мяне кожны дзень было па некалькі выступленняў, прычым у залах на 500 — 600 чалавек. Там я добра навучыўся выступаць.

— А хто з класікаў лепш за ўсіх чытаў вершы?

— З нашых паэтаў — Пятро Глебка. Вялюгін хораша чытаў. А вось Пімен Панчанка вельмі не любіў выступаць.

— У якія часы адчуваўся найбольшы літаратурны ўздым?

— Думаю, два перыяды былі самыя плённыя. Часы, якія я трошкі не заспеў, але водгулле якіх чуў — гэта недзе 1925 — 1935 гады. А другі пасляваенны — з 1946-га і недзе да 1960-х, часы двух вялізных прарываў у літаратуры. Відаць, магутныя стрэсы — рэвалюцыя і вайна далі вялікую колькасць таленавітых пісьменнікаў.

— Многія з настальгіяй згадваюць часы, калі ганарару за кнігу хапала, каб набыць аўтамабіль, паэты выступалі па ўсёй Беларусі, атрымлівалі кватэры і прэміі. Але гэта і разбэшчвала творчую інтэлігенцыю, як тое паказана ў "Сказе пра Лысую гару"?

— Што там аўтамабіль, за сваю другую кнігу я атрымаў ганарар у 25 тысяч рублёў, а аўтамабіль каштаваў 6 тысяч. Але я вельмі скептычна стаўлюся да "Сказа пра Лысую гару". Цяпер ён выглядае смешнавата і недарэчна. Такая пара тады была, мы памыляліся. Што мы маглі думаць пра прыватнае, з якога, як цяпер вядома, усё нараджаецца, пра зямлю? Мы абодва дзеці сацыялізму, Ніл Гілевіч быў членам партыі, я таксама, каб не палон, пайшоў бы па гэтым шляху. У паэме шмат абразлівага, многа выскалення. Ну, скажам, што смяяцца з прозвішчаў? "Гардзіцкі звіс, як шар більярдны, загнаны ў лузу Рыбаком". Хто гэтыя людзі? У більярд яны ўвогуле не гулялі. Толькі б прозвішчы рыфмаваць."Тады з радоў, з канца аднекуль// падняўся рыжы здаравяк//, зусім падобны на Дайнеку, а на Дайліду — аніяк". Ну што гэта такое? Альбо: "У Жоры вунь качан, як цэбар, як Мысліўцова галава". Што ў Аўрамчыка з Гілевічам малыя галовы, каб так пісаць?



Мы тады з Гілевічам на восьмым небе былі ад таго, што так шумеў гэты твор. Але я думаю сёння: ну ладна крытыкі маглі памыляцца, але чаму паэты, якія чыталі "Сказ пра Лысую гару" не заўважалі, што гэта слабая рэч? Магу растлумачыць толькі тым, што адны баяліся Гілевіча, а другія саромеліся Аўрамчыка.

— Вам, відаць, цікава было назіраць за рэакцыяй літаратараў, калі выйшла паэма?

— Я хадзіў ва ўсе рэдакцыі і слухаў, як яе абмяркоўвалі. Адзінае, не пайшоў у Інстытут літаратуры Акадэміі навук, бо рэдка там бываў і мог бы выклікаць падазрэнні. У рэдакцыях быў фурор. Праўда, знайшліся толькі тры чалавекі, якім хапіла смеласці і густу выказацца негатыўна пра гэты твор, але якія тое былі людзі. Аркадзь Куляшоў, мой літаратурны настаўнік, назваў паэму расцягнутым раешнікам. Гэта мяне проста забіла адразу, я страшна перажываў. І быў рады, што не прызнаўся яму, што маю дачыненне да яе аўтарства. Таксама быў сведкам, калі Міхась Стральцоў у "Маладосці", праўда, вельмі інтэлігентна, выказаўся, што гэта паэма абразлівая для людзей нашага пакалення. А Валодзя Караткевіч, той крычаў, проста страшна крычаў.

— Адметна, што і пра сябе колькі радкоў вы ў паэму ўставілі. А хто іх пісаў?

— "Святоша праведнік Аўрамчык// Шмат нейкіх хлопцаў навалок —// Яны яму не дом, а храмчык// За тыдзень склалі да аблок.// Будаўнікоў тых незнаёмых// Ужо ўзаемна, без турбот// Ён адкрываў пасля імёны// У "Маладосці" цэлы год". Я сам і напісаў, бо інакш мяне адразу вылічылі б. А Гілевіч напісаў пра сябе.

— А чаму так, што ў вас сапраўды быў "не дом, а храмчык"?

— Ды не, звычайны быў дом. Проста трэба было рыфму знайсці: Аўрамчык — храмчык. Я, дарэчы, гэту рыфму двойчы ўжыў: у "Сказе пра Лысую гару" і ў вершы пра Багдановіча.

— Нейкі шлях да прымірэння з Нілам Гілевічам вы бачыце?

— Ды я пра яго чуць нічога не хачу. Ён тады ў інтэрв'ю называў мяне сваім сябрам, а мы ніколі не былі сябрамі. Ён на 11 год маладзейшы за мяне, я з ім не вучыўся, не працаваў. Ды і сябра ў спіну нож бы мне не ўсадзіў.

— Увогуле сатыра была ўласцівая для тых часоў?

— Магу прызнацца, што не адну гэтую рэч пісаў калектыўную. Напрыклад, "Страшная месть. Комаровская быль" на рускай мове — смешная гісторыя пра тое, як адзін асенізатар адпомсціў сваёй каханай, яе мы ўчатырох пісалі, альбо "Глыбакадумны роздум на рачных водмелях" — гэта пісалася ўвасьмярох. Усе гэтыя рэчы раней нідзе не друкаваліся, хачу выдаць іх асобнай кнігай. Сатырычныя тэксты, такія прыватныя, крыху злаблівыя, хадзілі тады па руках у выглядзе машынапісных тэкстаў. Скажам, быў пра Міністэрства культуры тэкст, і хлёстка напісаны, але ніхто не ведаў аўтараў.

— Вас называюць майстрам розыгрышаў, у вашым жыцці шмат смеху?

— Тыя, хто мяне называюць веселуном і згадваюць мае розыгрышы, вельмі добра мяне ведаюць. Напрыклад, Брыль усё жыццё называў мяне "мой вясёлы друг". А для менш знаёмых людзей я надта сур'ёзны чалавек і ніколі не смяюся.

— Скажыце, думкі пра паэзію былі з вамі заўсёды, нават у самых складаных сітуацыях, напрыклад, падчас вайны?

— Так. Падчас вайны таксама не забываўся пра паэзію, гледзячы дзе, канечне. Калі я быў пры "кацюшах", у 40 кіламетрах ад перадавой, то пісаў вершы, праўда, не на паперы, нам нельга было, я ў галаве складаў. А пасля калі вярнуўся з вайны, то запісаў іх. Вершаў 15 у мяне ёсць на фронце напісаных. У палоне пісаць таксама нельга было, але пару вершаў там нарадзілася.

— Як вы ставіцеся да развянчання класікаў, да таго, што сёння часам аспрэчваюць талент і значнасць некаторых з іх для беларускай літаратуры?

— Увогуле паняцце "класік" вельмі адноснае. Быў час, калі ніхто не шумеў пра Буніна, трэба было Твардоўскаму адкрыць яго, каб пра яго загаварылі. Тут яшчэ справа густу. У мяне, напрыклад, любімых вельмі многа паэтаў — Барыс Карнілаў, Барыс Руч'ёў, Павел Васільеў, Яраслаў Смелякоў ды маса іншых, хіба ўсіх успомніш. Але самыя любімыя з сусветнай класікі два — Адам Міцкевіч і Міхаіл Лермантаў. Некаторыя пытаюцца: а Пушкін? Пушкін з'ява ў паэзіі выключная, гэта віртуознасць. Але над адным паэтам толькі я плакаў, будучы хлапчуком, і цяпер плачу — над Някрасавым. А не магу сказаць, што ён любімы.

Што да беларускіх класікаў, вельмі люблю Багдановіча, Танка, Куляшова і Панчанку, Барадуліна. Канечне, Купала і Колас — для мяне вяршыня майстэрства. Паэзія наша заўсёды славілася ў СССР, а якая была проза! Маладымі і мы па-рознаму ставіліся да класікаў, іранізавалі. Таму я не звяртаю ўвагі на такія меркаванні, я нашых класікаў люблю і паважаю.

Саша ДОРСКАЯ

Фота Андрэя Давыдчыка

## Гусіным пяром



Юрый МАЦЮШКА. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў Баранавічах. Пасля школы, скончыў фармацэўтычны факультэт Віцебскага медыцынскага інстытута. З 1967 года працаваў на адміністрацыйных пасадах у аптэчнай сетцы горада Баранавічы, а з 1977 года — на спецыялізаваным прадпрыемстве "Медтэхніка". Піша на рускай мове. Друкаваў вершы ў рэспубліканскай перыёдыцы, у прыватнасці, у часопісах "Нёман" і "Новая Немига литературная". Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў, у тым ліку "Всё то, что есть...", "Походные стихи". Жыве ў Баранавічах. Зборнік "СКВОЗЬ ПРИЗМУ СОБСТВЕННОГО Я..." пабачыў свет у Мінску ў выдавецтве "Ковчег" (2008). Прадмова Ю. Маслава.




# «Просто есть мир, переполненный светом»

Нас на зямным шары каля сямі мільярдаў чалавек. А якія мы ўсе адзінокія! Як кожны з нас прагне быць пачутым, каб упэўніцца ў сваім існаванні. Эпісталярный і літаратура заўжды былі сродкамі сувязі. Як сёння кажуць, яны перадавалі "інфу" з аднаго месца ў другое (ад чалавека да чалавека) на далёкія адлегласці. Ці то былі абвесткі, паведамленні, навіны ці то метафарычнае запрашэнне для агульных разважанняў... Цяпер роля ліставання і кнігі зведзены да мінімальнай патрэбы. З'явіўся Інтэрнет, а разам з ім — электронная пошта, сайты і блогі. Напачатку быў "бум", як у свой час з кіно, радыё і тэлебачаннем. Сёння і да гэтага "ноўхаў" прызвычаіліся. Ужо няма здзіўлення і ажыятажу. І пачытайце вы тыя блогі, там кожны з блогераў стараецца займець як набольш каментарыяў і шматразовых праглядаў сваіх запісаў. З гэтай мэтай наладжваюцца розныя правакацыі на пустым месцы... Вядомы крытык С.Дубавец паспрабаваў пайсці ад супрацьлеглага і напрасіў пакінуць яго пасты без каментарыяў, бо, маўляў, ён робіць самадастаковыя запісы. Я так думаю, што і гэты ход таксама своеасаблівая форма правакацыі, паколькі каментарыі ў блогу Дубаўца сышлі на обмаль...

Гадоў пяць ці болей таму быў такі перыяд, калі паэты пачалі падрабляць свае тэксты і кнігі пад зменлівую і хуткаплынную медыя-прастору. Г.Лабадзенка выдаў зборнік "Pager-вершаў", а А.Хадановіч "Сто лі100ў на tut.by"... Ды пачытайце вы некаторыя кніжкі сучасных маладых паэтаў альбо падборкі іх вершаў у перыёдыцы — хіба гэта не пазнавальна-аднастайная форма інтэрнэтных тэкставых "изысков"?

Куда ушла эпоха писем<br>И чувств, струящихся ручьём?<br>Остались шутки да репризы,<br>И разговоры ни о чём.

Такая страфа патрапілася мне ў паэта, пра якога я тут збіраюся пагаварыць.

Але ўсякай забаве свой час. Сапраўдны творца і сёння можа "жыць", умоўна кажучы, у каменным веку. А можа незнарок і ў XXII заскочыць, бо жыве ён найперш сабою і пакутуе ад сябе. Не ад Інтэрнэта ці нечага там яшчэ ("механічнага пяніна") — гэта ўжо паэна. Яно яму збоку прыпёку, як тэхнічная дапамога, не больш. Паэт ад Бога цікавіцца Прыродай жыцця, а не яго вытворным. Так, ён можа з меркантыльных прычын змайстраваць вершаваную рэч пра дарогу дарог (БАМ), але пры гэтым не забудзе стварыць і ложак для пчалы. Можа для самаабароны аддаць даніну ленінізме, каб, вызваліўшыся, праз пэўны час выправіцца ў свой шлях, скіраваўшы туды вастрыё стралы... Паэты — тавар штучны, прабачаюся за такі бытавы выраз. Камп'ютэрызацыі не падлеглы.

Дзіўна, што нават у наш прагматычны час попыт на такі нехадавы тавар не спадае — не на творчасць, а на само званне. Таму паэты цяпер растуць паўсоль, не раўнуючы як у Ахматавай вершы. Зрэшты "прырост" паэтаў зусім не азначае росту нацыянальнай культуры і духоўнасці. Часцей нават наадварот, не зважаючы на помны заклік Маякоўскага пра патрэбу паэтаў "хороших и разных", маючы на ўвазе пад словам "разных" — адрозных, а не абы-якіх...

І ўсё ж уласна я – за паэтаў. Як ні круці – гэта пазітыў любога грамадства. Наўрад ці памыляюся.

Адсюль, па вялікім рахунку, і гэтая мая рубрыка – "Гусіным пяром" – ад пазітыву.

Гады два таму прыязджаў да мяне ў рэдакцыю Юрый Мацюшка з Баранавіч. Аптэкар, турыст, паэт, бард... і проста добры чалавек. Прывёз зборнік сваіх вершаў, папрасіў выказаць думку... Я коратка адпісаў. Пасля пазнаёміўся з яго сайтам. А вось далей наша "супрацоўніцтва" чамусьці не пайшло. Не, не таму, што Юрый Усеваладавіч піша паруску. Таленавіты паэт для мяне таленавіты на любой мове. А Ю. Мацюшка, на мой погляд, мае неаспрэчнае паэтычнае дараванне. Таму, спатыкнуўшыся на адваротных нацыянальна беларускіх выпадках, я адразу прыпомніў яго. Па ўсім была нейкая і мая віна ў з'яўленні крытычнай рэцэнзіі, якую паўгода таму выдрукавала ў "ЛіМе" адносна яго паэзіі Наталля Капа. Адчуванне "кінутасці" чалавека і змусіла мяне дастаць з хатняй кніжнай шафы яго зборнік "Сквозь призму собственного я..." Пагадзіцеся, графаман да такой назвы не дацягнуўся б.

Вершаваная творчасць Ю. Мацюшкі высноўваецца са зместу яго чалавечага жыцця. І найчасцей, менавіта з той Прыроды, пра якую я ўпамінаў на пачатку артыкула. Самазаглыбленасць, унутранае самакапанне, сумненне нават у пэўных аксіёмах чалавечага і грамадскага ладу жыцця, затоенае ўслухоўванне ў паднебнае маўчанне Звыш – вось асноўныя матывы яго чатырох паэтычных кніг. Я спынюся на другой па ліку. Не думаю, што чалавек пасля шасцідзесяці гадоў можа пісаць лепш ці горш. Проста, мне падалося, што гэты зборнік укладзены найбольш адмыслова, зыходзячы са зместу, тэматыкі і формы адабраных вершаў. Пачну з таго, што мяне ўзрушыла і змусіла засяродзіцца.

И полностью постичь не можем мы<br>Простых азов вселенского ответа –<br>Что в тех мирах,<br>где не бывает тьмы,<br>Никто не осознает роли света.

Паэт змушае пранікнуцца нас тымі душэўнымі вычуваннямі, якія абрынаюцца на чалавека міжволі, – ад першазакладзеных у нас пачаткаў жыцця, насупераk набытым будзённым абавязкам. (Тут праявіўся і турыстычны ўхіл аўтара, які "працерабіў" доўгі вандроўны шлях па запаведных абсягах былога СССР.) І ўсё ж нават у тайзе на лесасплаве такое трэба прыкмеціць і адчуць неабыякавай душой, каб напісаць гэтак пранікнёна:

Едва оправившись от рёва,<br>Качая кронами чуть-чуть,<br>Здесь сосны провожают брёвна<br>В последний путь.

Агулам Ю.Мацюшка чалавек не толькі тонка эмацыянальны (пачуццёвы), але падчас і скрупулёзна прагматычны, як вылічальная машына (адно слова: аптэкар!). Ён, ва ўмоўна палемічных спрэчках адносна Літары і Лічбы, урэшце, прыходзіць да філасафічнай высновы:

Я — мелочь, я —<br>пыль, меня можно смести,<br>Признать все слова бесполезными.<br>Но где-то за мной —<br>те, кто смогут свести<br>К единству Науку с поэзией.

Ці не праўда, нешта блізкае да пушкінскай "проверки алгеброй". Але без такіх роздумаў-разваг ці ўзнёсла-парыўных узрушэнняў наўрад ці здарыліся б у Ю.Мацюшкі і такія вось натуральныя лацінкі паэзіі (ім бы ў свой час і Галубовіч пазайздросціў):

Воспитывать небо умеет река,<br>В ней тяжелеют мои облака,<br>В ней набухают мои облака,<br>Сделанные из пуха.<br>А наверху уплотняется мир,<br>Тучная тьма расползается вширь,<br>Дышится плохо.<br>Прячутся волны в зелёный аир,<br>Солнечный гасится ориентир.<br>Ветер готовится вырваться в мир<br>Прямо из вздоха.

Па-сапраўднаму вартых паэзіі вершаў набярэцца ў зборніку з добры дзесятак. Хіба гэтага мала? Ды пакажыце вы мне кніжку сучаснага паэта, у якім такіх вершаў больш... Чытачам раю звярнуць увагу на вершы Ю.Мацюшкі "Утро", ххх "Предельно тягостен в природе...", "Это зима" (без апошняй страфы), "Озарение", ххх "В стогах благоухало сено..."... (Згадваю пра чытача, бо ўсё ж наклад зборніка даволі прыстойны — 600 асобнікаў.)

На жаль, трапляюцца і не лепшыя "ўзоры" вершаскладання. Часам адчуваецца, што аўтару не хапае мастацкага густу (як у назве агулам нядрэннага па задуме верша пра каханне — "Собачий" стих") і не ў апошнюю чаргу падказак і нядрэннага рэдактарскага вока (зыходзячы з напісаной ім прадмовы, чалавека высокаадукаванага і з добрым эстэтычным адчуваннем). Аднак гэта чамусьці не выратавала зборнік ад лішніх бытапісальных тэкстаў і самапарадыйных строф і радкоў. Калі, скажам, радок "но мы дошли до грибоподобных" сам па сабе нечаканы, асацыятыўны і з падвойным дном, то строфы, якія працытую следам, выклікаюць адно апастыла празаічнае недаўменне:

Мы несём чемодан<br>нашей жизненной ноши,<br>Для чего он нам всё-таки дан?<br>Мы с тобою<br>уже не копаемся в прошлом.<br>Может, бросить пора чемодан?

І ўсё ж у памяці пераважаюць лепшыя радкі паэта. Яны і сфарміравалі маё стаўленне да яго "непрафесійнай" творчасці (нават не ведаю, ці з'яўляецца ён сябрам якога саюза пісьменнікаў). У Баранавічах, як вядома, вельмі моцна згуртаванае літарацкае кола. І там няма асаблівага падзелу, а тым больш, варажнечы паміж тымі, хто піша на беларускай і рускай мовах. Дзякаваць Богу, пакуль беларускамоўных, прынамсі, заўважных сваімі здольнасцямі, большасць. Не пачуваецца лішнім сярод іх і рускамоўны Юрый Мацюшка, якому было дадзена многае, ды, на жаль, не так шмат з той дадзенасці ім скарыстана.

Аднак не будзем забываць, што, апроч "лячэння словам", ён спрычыніўся да нашага здароўя і натуральна, адпрацаваўшы палову жыцця ў аптэчнай сістэме ("Люблю свою нехитрую работу.// Сижу весь день у вытяжного шкафа// И смешиваю разные растворы..."). А да ўсяго яшчэ — ён годна пражыў беларусам у Беларусі. Безумоўна, годна, інакш бы такіх строф не напісаў бы:

На другой земле<br>Нет простора мне<br>Без лесов-полей<br>Во все стороны.<br>И счастливым быть<br>Негде вроде бы<br>Ни в каких краях,<br>Кроме Родины...<br>В поле грусть моя похоронена.<br>Беларусь моя, моя Родина!

Ці не праўда, апошнія два нечым нагадваюць радкі А. Сыса:"Беларусь мая, мая магіла..." Што ж, Айчына збліжае паэтаў, а талент збліжае саміх паэтаў з Айчынай. Таму наастаўку пажадаю паэту Ю.Мацюшку няспешнасці не толькі ў турыстычных вандроўках, але і ў паэтычнай хадзе, каб помнілiся не пройдзеныя дарогі, а спраўджаныя шляхі.

Идёшь — иди. Иди и помни<br>О том, что существует свет,<br>Непознаваемый, огромный,<br>Где вообще земного нет.<br>Ты видишь? Тает дым сумбурный!<br>Туман рассеется любой...<br>Всё впереди. Иди, но думай:<br>Что ты оставил за собой?

ЛеГАЛ

## Розгалас

# Відушчае сэрца

Прачытаў некалькі старонак зборніка вершаў Аляксея Капацкевіча "Водар сонца", і ўспомнілася расказаная паэтам Віктарам Шніпам (у лістападаўскім нумары "ЛіМа" за 2008 год) гісторыя пра тое, як да яго ў кабінет зайшоў чалавек, якому было далёка за 70 і прынёс вершы, добрыя вершы. Калі рэдактар запытаў: "Дзе вы былі столькі гадоў? Вы ж маглі да гэтага часу заняць месца ў адным радзе з лепшымі паэтамі краіны!", — чалавек расчуліўся і заплакаў.

Аляксею Капацкевічу (нарадзіўся і жыве ў вёсцы Сычы Брэсцкага раёна) семдзесят будзе праз два гады, і яго вершы друкаваліся ў мясцовых выданнях, асобным з іх знайшлося месца нават у "Звяздзе", "Бярозцы", "Вожыку", "Работніцы і сялянцы"... Але ўсё гэта так раскідана ў часе!.. Шкада, што ў сваю пару аўтар (з семнаццаці гадоў інвалід па зроку) так і не сустрэў "свайго" рэдактара, які б нешта падказаў, дапамог творцу-пачатколцу з глыбінкі выдаць першую кнігу. Паэтычныя творы Аляксея Капацкевіча заслугоўваюць таго, каб пра іх гаварыць не як пра аматарскае вершаскладанне.

Так атрымалася, што пад вокладкай аднаго зборніка "Водар сонца" знайшлося месца дзвюм, на наш погляд, нераўназначным кнігам. Буду казаць у асноўным пра першую, і не таму, што яна беларускамоўная, а таму што творы на роднай мове пазбаўлены штучнай пафаснасці, павучальнасці, якія часам адчуваюцца ў раздзеле "Глазами души".

Але дамо слова самім вершам, бо вельмі нямногія чытачы з імі знаёмыя.

Першы снег незямной чысціні<br>З паднябеснай упаў вышыні...<br>Снег так ціхенька лёг уначы<br>На прыбужскую вёску Сычы.

На маю думку, і тут, і ў іншых вершах Аляксея Капацкевіча адчуваецца тая ціхая прастата, якая называецца паэтычнай.

Чытаю пейзажныя творы, і не верыцца, што аўтар — больш паўстагоддзя невідушчы. А пасля пачынаю разумець, што ўвесь гэты час яго эмацыянальная памяць надзейна ўтрымлівае колеры дзяцінства і ранняга юнацтва — чыстыя, светлыя, неразмытыя, — песціць і лашчыць іх, жывіць імі паэтычны вобраз. Памнажаная на вопыт жыццёвых перажыванняў, гэтая памяць і цяпер, праз чорную заслону, дапамагае аўтару бачыць колеры ветру і дажджу, смутку і радасці.

Прыгнаў з-за лесу ветрык хмаркі<br>І ў талаку усіх сабраў.<br>І вось на тонкіх ножках шпаркіх<br>Вясёлы дожджык заскакаў.

Тут гром не вытрымаў і ў скокі<br>Пайшоў за дожджыкам услед.<br>Ён моцна тупаў па аблоках,<br>Аж калыхаўся цэлы свет.

І хто скажа, што гэта напісана непрафесійна! Хоць цяпер у дзіцячыя чытанкі ўстаўляй! Малыя "дзякуй" скажуць ды яшчэ і незвычайных таннаграў намалююць. Аляксею Капацкевічу ўдаецца ажыўляць прыроду, і таму такі суладны танец Ветру, Дажджу і Грому (хочацца напісаць з вялікай літары) атрымаўся. Цікавай бачыцца таксама гісторыя пра ветах, які, каб адпачыць, "перадняваць", апусціўся да зямлі, зачапіўся ражком за сасну і знік з вачэй — "прылёг пад кудлатай ялінай, твар павярнуўшы да стромкай сасны".

Вобраз свята, пяраддзень нараджэння верша выразна абмаляваны ў наступных радках:

Пчала залятае ў раскрытыя дзверы.<br>Над хатаю радасны клёкат буслоў.<br>Ляжыць на стале<br>чысты аркуш паперы —<br>Чакае пакуль што не знойдзеных слоў.

Праўда, мне здаецца, што на гэтым можна было б і закончыць верш, паколькі "даважак" з несмяротным кроў-любоў толькі псуе агульнае ўражанне ад твора.

Ёсць у зборніку і іншыя агрэхі, але гэта ўсё тое, ад чаго можна пазбавіцца ў наступных кнігах.

Будзем жа вучыцца вялікадушнасці ў людзей, якія лепш за нас адчуваюць цяпло і водар сонца, хоць нязводльнымі нават бачыць яго.

Мікалай САНКЕВІЧ

## Дзмітрый МІЗГУЛІН

З першай паэтычнай кнігі



Дзмітрый Аляксандравіч Мізгулін (н. 1961) — вядомы рускі паэт і паспяховы фінансіст. Аўтар блізу дзесяці кніг паэзіі, сярод якіх "Петербургская вьюга" (1992), "Зимняя дорога" (1995), "Скорбный слух" (2002), "О чём тревожилась душа" (2003), "Две реки" (2004), "География души" (2005), "Духов день" (2007). Выступаў таксама як празаік і эсэіст. Лаўрэат шэрага літаратурных прэмій – часопіса "Наш современник", "Петрополь", прэміі імя Д. Маміна-Сібірака і інш.

### Ці трэба…

На першы пуць прыбудзе поезд,
Які імчаў-ляцеў здалёку.
На стыках колы грукаталі.
Змрок рэзала святло ад фар.
На першы пуць прыбудзе поезд
З далёкага Уладзівастока.
Там, як і тут, таксама восень
З лістотай яркай, што пажар.

Цягнік спыняецца павольна…
І я падумаў: а ці трэба
Сем дзён у паўпустым вагоне,
Ляцець у змрочны незварот,
Каб зноў наноў пабачыць восень,
Халодны дождж пад шэрым небам,
Лісты, што, нібы за галіну,
Чапляюцца за чорны дрот.

### Ёсць

У рыбах ёсць нешта змяінае,
У людзях ёсць нешта звярынае,
Нешта разважліва-таннае,
Невызначальна заганнае,
Злоснае і асцярожнае,
Невынішчальна бязбожнае.

### Успамін пра каханне

Што мне запомнілася ў Празе —
Дык гэта званы.
Раніцай, калі яшчэ не развіднела,
Чуўся іх перазвон,
Гулка звінелі яны,
Пераліваліся іх гукі,
Срэбныя і крыштальныя,
Нібыта ранішняе неба,
Цьмяна-зялёныя,
Нібы лістота на бульварах,
Памаранчыкава-чырвоныя,
Як дахоўка пасля дажджу.
Пражскія званы —
Музыка лета мінулага,
Рэха дзіўнага кахання
І апошняй сустрэчы з табою
Ля трамвайнага прыпынку,
Дзе рэйкі
Цьмяна мігцяць
У неонавай імгле…

### Поспех

Мой поспех
Не жыве ў элітным доме,
Не ездзіць на машыне апошняй мадэлі,
Не носіць дарагія строі,
Не сядзіць у ганаровых прэзідыумах,
Не паліць шыкоўныя цыгары,
Не п'е эксклюзіўныя каньякі…
Мой поспех
Ходзіць у гарадскую лазню штосуботы,
П'е гарэлку з былымі аднакласнікамі,
Чытае вершы жанчынам…
Мой поспех
Не цікавіцца дысконтным працэнтам
і курсам валюты,
Ён ходзіць у царкву штонядзелю,
Толькі ўсё радчэй і радчэй ён бачыцца са мною –
У яго ёсць справы больш важныя.

### Вяроўка

Мне кажуць, што я залішне рацыянальны.
Магчыма. Аднак не больш,
Чым Ханс Крысціян Андэрсен,
Які, выязджаючы кудысьці,
Сярод іншых
Безумоўна неабходных яму рэчаў
Абавязкова складаў у саквояж
Доўгую вяроўку,
Каб у выпадку пажару ў гатэлі
Паспяхова выбрацца праз акно.

Пераклад з рускай Адама Глобуса

---

Штогадовы альманах "Даляглядзы" доўгія гады цешыў беларускага чытача самымі рознымі перакладамі з замежнай літаратуры. На вялікі жаль, у сярэдзіне 1990-х яго выданне было спынена, і дагэтуль адсутнасць часопіса (ці альманаха) перакладной літаратуры на беларускай мове застаецца вельмі адчувальнай. Сёння, адкрываючы рубрыку перакладаў "Даляглядзы", "ЛіМ" робіць заяўку і на плённы працяг традыцый (у тым ліку нядаўніх лімаўскіх), і на тое новае, што з'явілася і ў літаратуры, і ў перакладчыцкай справе. "Даляглядзы" будуць з'яўляцца на старонках нашай газеты двойчы ў месяц. Калі гаварыць пра перспектыву, то лепшыя творы рубрыкі, магчыма, пабачаць свет у выглядзе таго самага слыннага альманаха-штогодніка. Пакуль жа – запрашаем перакладчыкаў падтрымаць намеры рэдакцыі і дасылаць свае перастварэнні ў аб'ёме, адэкватным фармату газетнай паласы.

Вядучы "Даляглядаў" – Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

## Уолт УІТМЕН



(англ. Walt Whitman, 1819 — 1892) — класік амерыканскай і сусветнай літаратуры, паэт, публіцыст. Найбольш вядомая кніга – "Лісце травы", якую паэт пісаў амаль усё сваё творчае жыццё (1855—1891). На беларускую мову Уітмэна перакладаў Янка Сіпакоў.

### Табе

Хто ты ні ёсць,
цяпер я працягваю маю руку — табе,
і шапчу маімі сцятымі вуснамі табе на вуха,
што я кахаў шмат мужчын і жанчын
старых і маладых, ніжэйшых уласнай годнасці,
якія забыліся на спакой,
і ўвогуле ўсіх, хто толькі не трапляўся,
але я кахаў не многіх, лепшых за цябе.

Праз тайну нараджэння, жыцця,
смерці і вечнасці,
праз гнеў, страты, амбіцыі,
абыякавасць і самоту
ты — ключ для адкрыцця гэтага шляху.

### Брадвей

Што табе паспешлівы чалавечы паток дня і начы!
Што пачуцці, жарсці, згубы парывам плыткасці водаў тваіх!
Што табе віхуры бруду, асалода і сум, якія рушаць уздоўж цябе!
Што выкшталцонае сумніцельнаеззянне
ў мішуры зайздрасці, агіды, пагарды, падробная шчасця
— толькі ўяўнае адлюстраванне любові!
Ты — непахісная арэна
мірыядаў доўгіх ліній і цяжкіх спарудаў!

### Прагулка на бруклінскім пароме

(верш з паэмы)

Мы разам. Мы — мужчына і жанчына
адвечнай і няспыннай рушнасці пакаленняў,
бо як ты глядзіш на раку і неба,
так жа на іх гляджу я,
як ты з'явілася перада мною з натоўпу,
так і я быў народжаны натоўпам,
як ты ажывіла сваім з'яўленнем раку і бліскучыя хвалі,
так я быў абуджаны табой,
як ты стала і схілілася на парэнчы,
гледзячы, як хутка знікае мітуслівы струмень плыні,
так жа я стаю гледзячы на яго,
як ты глядзіш на незлічоныя мачты караблёў
і тоўстыя трубы параходаў,
так і я гляджу.

Мы з табою разам…

### Я апяваю электрычнае цела

(верш з паэмы)

О плоць мая!
Я не паспеў падзяліцца нават часткай
тваёй любові да мяне з іншымі,
бо любоў твая захапіла маю душу,
а душа стала паэзіяй.

### Жанчына, створаная для мяне

Яна як кропля вады падобная да мяне.
Яе твар загарэлы на сонцы і абвеяны вятрамі.
Яе цела мае дзівосную гнуткасць і сілу.
Яна мае падатлівую і порсткую плоць.
Яна спазнала лагоду мора, імклівасць руху жыцця,
неаднаразовыя паразы і страту любові.

Спакой і чысціня.
Гэта яе права валодаць імі.

Пераклад з англійскай Сяргея Патаранскага

# Адчыненыя дзверы

## САКІ

(сапр. Гектар Х'ю Манро)

Нарадзіўся ў 1870 годзе ў Бірме. Абраўшы журналісцкую прафесію, шмат падарожнічаў. Пэўны час жыў у Расіі, пра што пасля напісаў кнігу. Вядомы як майстар кароткага вострасюжэтнага іранічнага апавядання ў стылістыцы О'Генры і П. Г. Вудхаўза. Загінуў ад кулі нямецкага снайпера ў 1916 г. — на фронце Першай сусветнай вайны.

— Цётачка зараз прыйдзе, містэр Мнітл, — прамовіла вельмі стрыманая юная ледзі гадоў пятнаццаці, — давядзецца вам пакуль што пабыць са мной.

Фрэмтан Мнітл хацеў адказаць нешта такое, каб не пакрыўдзіць ні пляменніцу, ні яе гаспадыню. Ён асабіста сумняваўся ў тым, што візіты да незнаёмых людзей дапамагаюць лячыць нервы, а менавіта гэтым ён і збіраўся заняцца.

"Ведаю я, да чаго гэта будзе падобна, — гаварыла яго сястра, яшчэ да яго добраахвотнага вясковага выгнання, — схаваешся там і з ніводным чалавекам размаўляць не будзеш. І стане тваім нервам яшчэ горш, чым цяпер. Таму вось табе лісты да маіх знаёмых. Некаторыя з іх, наколькі я памятаю, людзі нядрэнныя."

І цяпер Фрэмтан намагаўся здагадацца, ці ўваходзіла місіс Сэплтан у лік гэтых "нядрэнных людзей".

— Вы ўжо многіх тут ведаеце? — спытала дзяўчынка, вырашыўшы, што іх маўклівая размова дастаткова зацягнулася.

— Амаль нікога, — адказаў Фрэмтан. — Мая сястра была тут чатыры гады таму, у прыходскім доме. Яна дала мне лісты да ўсіх, каго ведала тут.

Апошнія словы ён вымавіў з відавочным шкадаваннем.

— Дык вы амаль нічога не ведаеце пра маю цётачку? — зрабіла вывад юная ледзі.

— Толькі імя і адрас, — згадзіўся ये суразмоўца. Ён думаў, замужам гаспадыня ці ўдава — нешта ў пакоі выдавала прысутнасць мужчыны.

— Вялікае гора здарылася ў яе тры гады таму, — сказала дзяўчынка, — гэта, калі лічыць ад ад'езду вашай сястры.

— Гора? — здзівіўся Фрэмтан. Неяк не вязалася гора з гэтай ціхай вёсачкай.

— Вам, магчыма, цікава, чаму ў нас, у кастрычніку, апоўдні, дзверы балкона адчыненыя? — спытала дзяўчынка, паказаўшы на шкляныя дзверы, якія выходзілі на поплаў.

— Яшчэ даволі цёпла, — адказаў Фрэмтан, — але ж гэтыя дзверы неяк звязаны з горам вашай цётачкі?

— Праз гэтыя дзверы, тры гады таму, дзень у дзень, яе муж і два браты пайшлі на паляванне. І не вярнуліся. Ідучы праз поплаў да свайго ўлюбёнага месца, яны ўсе трое трапілі ў страшэннае балота. Ведаеце, гэта было ў тое, дажджлівае лета. Нават самыя надзейныя купіны праваліваліся знянацку.

Целы так і не знайшлі. І гэта страшней за ўсё, — тут голас дзяўчынкі скалануўся. — Бо бедная цётачка ўсё думае, што аднойчы яны вернуцца дадому, яны і маленькі спаніэль, які згубіўся разам з імі, і знойку зойдуць у гэтыя дзверы, як і раней. Вось чаму яны адчыненыя ў нас да самых прыцемкаў. Бедная, мілая цётачка, колькі разоў яна распавядала мне, як яны адыходзілі, як муж — закінуўшы на руку белы плашч-макінтош, і Ронні, яе малодшы брат — ён спяваў народную песеньку, каб падражніць, бо ведаў, як гэтая песенька яе раздражняе. Ведаеце, вось у такія, ціхія вечары мне здаецца, што яны і сапраўды зараз зойдуць у гэтыя дзверы.

З'яўленне гаспадыні, якая адразу ж пачала прасіць прабачэння, сталася для Фрэмтана палёгкай.

— Спадзяюся, з Верай не было сумна?

— Што вы, не. З ёй вельмі цікава, — адказаў Фрэмтан.

— Але ці не будзеце вы супраць, калі гэтыя дзверы застануцца адчыненыя, — ажывілася місіс Сэплтан, — мой муж і мае браты зараз вернуцца з палявання, яны заўсёды вяртаюцца так. Сёння яны хадзілі на балоты, дык маім бедным дыванам будзе нялёгка.

Яна радасна шчабятала пра паляванне, пра тое, як мала засталося птушак, а таксама ці трэба гэтай восенню ўвогуле хадзіць на качак. Фрэмтан слухаў яе з жахам. Яго адчайная спроба змяніць тэму размовы не ўдалася — усю ўвагу жанчыны адцягваў поплаў за шклянымі дзвярыма. Да чаго ж непрыемна, што яго візіт супаў з такой сумнай датай.

— Дактары мне прапісалі поўны спакой, адсутнасць хваляванняў і фізічных нагрузак, — прамовіў Фрэмтан, які ўсё болей пераконваўся ў памылковасці меркавання наконт таго, што людзям падабаецца слухаць пра хваробы іншых.

— А? — адказала місіс Сэплтан, так, нібы з усяе моцы намагалася не пазяхнуць. Але раптам яна насцярожана ўстрапянулася, і зусім не ад слоў Фрэмтана.

— А вось і яны, нарэшце! — выгукнула гаспадыня. — Якраз да чаю, і нават не па самыя вушы ў брудзе.

Фрэмтан скалануўся і зірнуў на пляменніцу місіс Сэплтан у пошуках падтрымкі. Дзяўчынка глядзела ў праём шкляных дзвярэй з жахам у вачах. Фрэмтан, адчуўшы прыступ халоднага, невыказнага страху, павярнуўся на крэсле і паглядзеў у тым жа напрамку.

У густым змроку тры постаці рухаліся праз поплаў. Усе трое неслі стрэльбы, а адзін з іх накінуў на руку белы плашч-макінтош. Стомлены буры спаніэль бег побач. Яны бясшумна падышлі да дома, і вось — малады, хрыплаваты голас заспяваў народную песеньку.

Фрэмтан сутаргава схапіў свае трысціну і капялюш; дзверы, сцежка да дома і веснічкі падаліся толькі ўяўнымі перашкодамі на шляху яго шалёных ўцёкаў. І выпадковаму веласіпедысту давялося ўрэзацца ў жывую агароджу, каб не сутыкнуцца з Фрэмтанам.

— Вось і мы, дарагая, — мовіў мужчына з белым макінтошам, праходзячы ў пакой, — цалкам брудныя, але, у асноўным, сухія. А хто гэта быў?

— Містэр Мнітл, вельмі дзіўны чалавек, — адказала місіс Сэплтан, — усё гаварыў пра свае хваробы, а потым збег, як толькі вы зайшлі — ні "прабачце", ні "да пабачэння". Як здань убачыўшы.

— Гэта, мабыць, з-за спаніэля, — спакойна адзначыла яе пляменніца, — ён гаварыў, што вельмі баіцца сабак. Неяк, на беразе ракі Ганг, зграя бадзяжных сабак загнала яго на магілкі. І яму давялося правесці ноч у надзвычай вырытай магіле, пад наглядам гэтых пачвараў. Яны раўлі і пускалі сліну. Болей чым дастаткова, каб насмерць перапужацца.

Такія гісторыі сходу ў яе вельмі добра атрымоўваліся.

Пераклад з англійскай Валерыі САРОТНІК









Адзіны ў Беларусі манаграфічны музей, створаны на аснове майстэрні мастака, месціцца ў адмыслова асабняку ва ўтульным сталічным квартале, што між вуліц Захарава і Пуліхава. Гэта — Мемарыяльны музей-майстэрня З. І. Азгура, адметны сваёй унікальнай атмасферай, дзе арганічна спалучаюцца строгія знакі гісторыі, няўгледная прысутнасць легендарнага гаспадара і парадоксаў яго эпохі, малады дух сучаснага творчага жыцця. Не так даўно мы распавядалі пра акцыю з удзелам юных мастакоў, зладкаваную тут у межах штогадовага праекта "Адкрытае мастацтва". І вось — новая нагода завітаць у музей-майстэрню, звязаны з імем выдатнага беларускага скульптара, народнага мастака СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Заіра Азгура. Да 20 красавіка тут разгорнута выстаўка-інсталяцыя "Партрэт на фоне майстэрні".

# Люстэрка памятнай эпохі

Паводле задумы яе стваральнікаў, выстаўка "Партрэт на фоне майстэрні" распачынае музейны рэтраспектыўны праект "Месца памяці", прысвечаны знамянальным старонкам (імёнам і асобам, датам і падзеям) гістарычнага мінулага Беларусі. І першая, цяперашняя экспазіцыя скіроўвае ўвагу на постаць Заіра Азгура. Пятнаццаць гадоў таму, у паважных 97-гадовым узросце, назаўжды пакінуў ён гэтую студыю — атуленую дрэвамі, блізу дома, у якім і жыў скульптар апошнім часам.

У колішнюю Творчую майстэрню Акадэміі мастацтваў СССР па вуліцы Трактарнай (цяпер — музей-майстэрня на вуліцы Азгура), сваёй апошняй студыі, Заір Ісакавіч прыходзіў штодня на працягу больш як 10 гадоў. Неверагодны творчы тэмперамент засцерагаў яго ад прастояў і "крызісаў": нават калі было яму за 80, майстар спраўна, пераадольваючы немач, наведваўся ў студыю, бо ўжо самі рукі не маглі жыць без працы. Тут ён стварыў больш як паўсотні работ. Тут даваў бліскучыя ўрокі прафесійнай творчасці, майстар-класы для маладых калег...

Менавіта падзеі 1980-х і 1990-х гадоў, звязаныя з жыццём і дзейнасцю З. Азгура, са стварэннем, існаваннем гэтага творчага дома і яго музеефікацыяй, адлюстроўвае выстаўка "Партрэт на фоне майстэрні". Экспануюцца фотаздымкі скульптара, зробленыя ў яе інтэр'ерах; архіўныя дакументы (у тым ліку адпаведная тэме частка эпісталярнай спадчыны Заіра Ісакавіча), паводле якіх можна ўявіць "біяграфію" самога будынка; дакументальныя сведчанні творчай і педагагічнай працы майстра.

Канцэпцыю выстаўкі супрацоўнікі музея трактуюць як часовае "вяртанне" Заіра Азгура ў прастору яго творчай майстэрні. Таму кранальныя эмацыйныя акцэнты надаюць экспазіцыі асабістыя рэчы гэтага чалавека-эпохі: станок, на якім ён ствараў свае скульптуры; прафесійныя прылады, інструменты і роба; фатэль, у якім уладкоўваўся ў Скульптурнай зале, каб самнасам пабыць з героямі сваёй творчасці, паразважаць... Тым, хто быў знаёмы з майстрам або проста ведаў яго самавітае каларытнае аблічча (а хто ж не ведаў!), лёгка ўявіць яго "прысутнасць", зірнуўшы на легендарныя арт-атрыбуты: чорны бант, берэт, люлькі, адмысловая драўляная кійкі...

І як жа тут не ўспомніць, што Заір Ісакавіч доўгія гады ўваходзіў у склад рэдкалегіі "ЛіМа". Уважліва прачытваў кожны нумар і заўсёды меў што сказаць пра змест і аблічча нашага тыднёвіка. Мы ўспрымалі яго як старэйшага, надзвычай дасведчанага і мудрага сучасніка, дзівіліся на яго эрудыцыю, жывы, дапытлівы і дасціпны розум, аптымістычны светапогляд, зычлівасць, энергічнасць і працаздольнасць, тарыскасць і прастасць у стасунках. Ён часта заходзіў у рэдакцыю. Заўсёды элегантны: цёмны касцюм, артыстычны бант пад каўнерыкам кашулі, нязменны берэт, з-пад якога рамантычна выбіваліся доўгія серабрыста-белыя пасмы. Ён прысаджваўся, скрыжаваўшы дужыя працавітыя рукі на драўляным дзяржанні моцнага падарожнага кійка, распытваў, распавядаў...

Ці задумваліся мы, тады маладыя, што з намі размаўляе чалавек-легенда, чалавек-эпоха? Наўрад. Асэнсаванне гістарычнай постаці Заіра Азгура ў кантэксце яго трагічнай, парадаксальнай і векапомнай эпохі прыйшло пазней, калі пасталелі мы самі...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ



На здымках: скульптурнае аблічча Якуба Коласа; фотадакументы, якія адлюстроўваюць гістарычныя імгненні працы майстра над партрэтамі выбітных асоб; бюсты многіх дзеячаў культуры і палітыкі у Мемарыяльным музеі-майстэрні Заіра Азгура...

Фота Віктара Кавалёва

## У наступным нумары

Спектакль "Translations", прэм'ера якога адбылася ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, неадназначна ацэньваюць і публіка, і крытыка. Пра саму п'есу, напісаную ірландскім драматургам Браянам Фрылам, і яе пастаноўку — першую работу рэжысёра Мікалая Пінігіна ў якасці мастацкага кіраўніка купалаўцаў — разважае доктар філасофскіх навук, тэатральны крытык Вадзім Салееў у артыкуле "Цяжкасці перакладу".

## З глыбінкі

## ...І пачаткоўцам — надзейнае плячо

Семдзесят гадоў таму, у красавіку 1940 года, выйшаў у свет першы нумар Зэльвенскай раённай газеты "Праца". Пад рознымі назвамі выходзіла раёнка, розныя людзі ўзначальвалі яе, але галоўным крытэрыем работы рэдакцыі быў і застаецца клопат пра сваіх чытачоў. І чытачы заўсёды адказваюць узаемнасцю.

Пра гэта пераканаўча сведчыць стабільны тыраж газеты, які складае тры з паловай тысячы экземпляраў. Раёнка стала добрым сябрам для хлебаробаў і настаўнікаў, будаўнікоў і культработнікаў…

Шмат гадоў пры газеце дзейнічае літаратурнае аб'яднанне "Зоры над Зальвянкай", якое ўзначальвае Яніна Шматко. Яніна Людвікаўна рыхтуе да друку не толькі літаратурныя выпускі, але і тэматычныя старонкі "Малюся Слову". Многія ўдзельнікі літаб'яднання маюць публікацыі ў рэспубліканскім друку, выдаюць свае асобныя кнігі. Выйшаў нядаўна калектыўны зборнік "Зоры над Зальвянкай", у які ўвайшлі творы дваццаці чатырох мясцовых аўтараў.

Частымі гасцямі на старонках раёнкі з'яўляюцца пісьменнікі-земляки Юрка Голуб, Уладзімір Ягоўдзік, Ірына Данік, Юрась Нераток, Сяргей Чыгрын ды іншыя. Газета "Праца" прымае актыўны ўдзел у правядзенні штогадовых літаратурна-музычных святаў "Зэльвенскія сакавіны", на якіх пабывалі заслужаны артыст Беларусі Якаў Навуменка, кампазітар Алег Елісеенкаў, ансамбль "Берагіні", перакладчыца Алена Таболіч, паэт Мікола Маляўка. Рэгулярна друкуюцца ў газеце гутаркі з вядомымі жыхарамі і гасцямі раёна.

Зэльвенская "Праца" — пераможца Нацыянальнага конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі "Залатая ліцера" ў сваёй намінацыі. Яе творчы праект аўтарытэтнае журы прызнала лепшым. Газета, як сцвярджае яе галоўны рэдактар Клаўдзія Крэчка, ва ўсе часы была і застаецца летапісцам гісторыі Зэльвеншчыны, бо адлюстроўвае жыццё годнае, стваральнае, расказвае пра людзей адметных, шчырых, працавітых…

Уладзімір МАЗГО




Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч (намеснік галоўнага рэдактара)
Юрый Цвяткоў
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканская унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3057
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 8.04.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1643
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6686